хроніка парушэньняў правоў чалавека
ў Віцебскім рэгіёне

# ШЭРАЯ КНІГА

**ліпень 2012 – чэрвень 2013**




**Віцебск, 2013**

На працягу ліпеня 2012 – чэрвеня 2013 гг. у Віцебскім рэгіёне ўлады працягвалі сыстэматычна парушаць правы чалавека.

Выбары ў парлямэнт, якія праходзілі увосень 2012 году не былі прызнаныя сумленнымі і справядлівымі. Уладамі выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс для «абраньня» тых дэпутатаў, якія былі загадзя «прызначаныя» ўладнай вэртыкальлю. Выбарчыя камісіі складаліся з надзейных людзей, здольных забясьпечыць патрэбны вынік.

Цягам году ўлады не задаволілі ніводнай заяўкі на правядзеньне масавых мерапрыемстваў. Адміністрацыі Кастрычніцкага, Першамайскага і Чыгуначнага раёнаў г. Віцебску і Віцебскі гарвыканкам забаранілі правядзеньне 17-ці пікетаў, чатырох мітынгаў і трох вулічных шэсьцяў, якія заяўляліся праваабаронцамі і мясцовымі апазыцыйнымі палітыкамі. Дэмакратычных актывістаў неаднаразова выклікалі ў мясцовыя аддзелы КДБ і міліцыі на допыты і на гэтак званыя «прафіляктычныя гутаркі». Удзельнікі несанкцыянаваных акцыяў падвяргаліся пакараньню ў выглядзе штрафаў у вялікіх памерах і адміністрацыйных арыштаў. Аднавіліся звальненьні з працы па палітычных матывах.

За замах на ўстанаўленьне кантакту з супрацоўнікам замежнай спэцслужбы без прыкметаў здрады Радзіме рашэньнем Віцебскага абласнога суду Андрэй Гайдукоў прысуджаны да аднаго з паловай гадоў калёніі агульнага рэжыму. Асудзілі яго паводле артыкулу $356^1$ крымінальнага кодэксу (устанаўленьне супрацоўніцтва са спэцыяльнай службай, ворганам бясьпекі або разьведвальным ворганам замежнай дзяржавы).

На працягу году практычна безь перапынку праходзілі палітычна матываваныя судовыя працэсы над сябрамі партыйных структур і грамадзкімі актывістамі, а таксама звычайнымі грамадзянамі. Варта адзначыць, што пакараньні, якія выносіліся судамі, маюць адназначна карны накірунак. У параўнаньні з 2012 годам часьцяком замест штрафаў сталі ўжываць кароткачасовае турэмнае заключэньне – арышт.

Моцнаму ціску падвяргаліся рэгіянальныя недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі – незалежныя газэты, інтэрнэт-рэсурсы; перасьледаваліся журналісты. Распаўсюднікаў незалежнай прэсы затрымлівалі і каралі штрафамі.

З супрацьдзеяньнямі з боку ўладаў сутыкаліся праваабаронцы. Ім не дазвалялі правядзеньне сустрэч з грамадзянамі і адукацыйных мерапрыемстваў. Апошнім часам улады пачалі караць праваабаронцаў адміністратыўнымі штрафамі і пагражалі падвергнуць іх крымінальнаму перасьледу.

Не знаходзячы магчымасьці абараніць свае грамадзянскія і палітычныя правы, жыхары Віцебшчыны ўсё больш актыўна зьвяртаюцца ў Камітэт па правах чалавека ААН. У цяперашні час у КПЧ зарэгістравана больш за 30 індывідуальных скаргаў зь Віцебскага рэгіёну.

## Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці


Ігар Аліневіч

**02.07.2012** Віцебская пракуратура адмовіла ў завядзеньні крымінальнай справы паводле скаргі на турэмшчыкаў **Сяргея Каваленкі** зь віцебскага СІЗА № 2. У пракуратуры палічылі, што супрацоўнікі сьледчага ізалятару не парушылі закону, калі выводзілі Сяргея Каваленку з працяглай галадоўкі, даючы яму не дыетычную, а звычайную ежу.

Таксама правяраючыя не знайшлі падставаў для завядзеньня крымінальнай справы ў тым, што ў сьледчым ізалятары Сяргей Каваленка быў тайна зьняты на відэа, а потым гэтыя кадры аказаліся ў інтэрнэце. Сяргей Каваленка палічыў, што відэа яго скампрамэтавала і распачаў яшчэ адну працяглую галадоўку, зь якой яго выводзілі прымусова.

**07.07.2012** Віцебскі **актывіст Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ Сяргей Каваленка** ў магілёўскай калёніі № 19 атрымаў характарыстыку «злоснага парушальніка рэжыму», паведаміла ягоная жонка **Алена Каваленка**. Ёй невядома, за якія парушэньні мужу быў прысвоены такі статус.

**08.07.2012** Адміністрацыя папраўчай калёніі №13 у Глыбокім, дзе адбывае пакараньне **лідэр "Маладога Фронту" Зьміцер Дашкевіч**, падала матэрыялы на ўзбуджэньне крымінальнай справы за "невыкананьне рэжыму калёніі" (ч. 1 арт. 411 КК РБ) у сьледчы камітэт РБ.

Як стала вядома, Зьміцер Дашкевіч амаль адразу пасьля выхаду ў атрад быў зьмешчаны ў штрафны ізалятар тэрмінам на 13 сутак. Пазьней Дашкевіч даведаўся, што яму дадалі некалькі сутак зьняволеньня ў ізалятары нібыта за праваапарушэньні, якія былі зьдзейсьненыя раней.

**14.07.2012** На **анархіста Ігара Аліневіча** адміністрацыя наваполацкай калёніі № 10 узмацніла ціск. Як паведаміла маці вязьня, Ігар пастаўлены на прафіляктычны ўлік. Пра гэта ён распавёў у тэлефоннай размове сваёй маці **Валянціне Аліневіч**. Тэлефонная размова адбылася 14 ліпеня. Гэта было ўсяго трэцяе тэлефанаваньне з калёніі.

"Ігар сказаў, што яму два тыдні таму настойліва прапаноўвалі напісаць прашэньне аб памілаваньні на імя прэзыдэнта. Ён гэта рабіць адмовіўся. Пасьля гэтага яго зьмясьцілі на два тыдні ў штрафны ізалятар. І ўжо ў ШЫЗА стала яму вядома аб пастаноўцы ў калёніі на прафіляктычны ўлік", - распавяла Валянціна Аліневіч. Паводле слоў маці зьняволенага, Ігар патэлефанаваў ёй адразу пасьля выхаду з ШЫЗА. "Ён растлумачыў, што на прафіляктычны ўлік яго паставілі ў сувязі з


Зьміцер Дашкевіч

тым, што ён нібыта схільны да нападу і ўцёкаў", - перадала Валянціна Аліневіч словы сына.

Яна адзначыла, што ўсе непрыемнасьці ў Аліневіча пачаліся ў апошнія месяцы. "Ён адседзеў без асаблівых праблем у калёніі амаль год. І ніякіх праблем не ўзьнікала. І тут, за апошні месяц, у яго пачаліся нейкія спагнаньні, парушэньні, ён быў прызнаны злосным парушальнікам рэжыму".

**18.07.2012** У перадачы "Зона Х" ў ранішнім этэры тэлеканалу "Беларусь 1" было абвешчана, што ў дачыненьні да **лідэра міжнароднай арганізацыі "Малады фронт"** (Чэхія) **Зьмітра Дашкевіча** распачатая новая крымінальная справа - "за злоснае непадпарадкаваньне патрабаваньням адміністрацыі калёніі". У Сьледчым камітэце пацьвердзілі факт узбуджэньня крымінальнай справы паводле артыкулу 411 Крымінальнага кодэксу Беларусі.

**20.07.2012** Глыбоцкую калёнію наведалі нявеста **Зьмітра Дашкевіча Наста Палажанка** разам з адвакатам. Адвакату дазволілі сустрэцца са сваім падабаронным.

Дашкевіч ведае, што крымінальная справа ўжо заведзеная. Да яго ўжо прыходзілі з Глыбоцкага сьледчага камітэту — сьледчы па прозьвішчы Мяцеліца і раённы адвакат. Зьміцер Дашкевіч адмовіўся зь імі размаўляць, нават адмовіўся назваць свае пашпартныя дадзеныя. Усё, што адбываецца, ён называе цыркам і не зьбіраецца ў гэтым працэсе ўдзельнічаць.

**24.07.2012** Жонка палітвязьня **Сяргея Каваленкі Алена**, ягоныя брат **Віталь** і бацька **Аляксандар Васільевіч** атрымалі ў Магілёўскай папраўчай калёніі № 19 спатканьне зь вязьнем. Сустрэцца са зьняволеным бацькам атрымалі магчымасьць і двое ягоных непаўналетніх дзяцей – сын **Валянцін** і дачка **Віка**.

Паводле жонкі, Сяргея Каваленку адхілілі ад працы: «Дзьве гадзіны сеткі плёў. Але зьвесткі дайшлі з таго тыдня, што яго пазбавілі гэтай працы, матывуючы тым, што ён схільны да суіцыду ў сувязі з галадоўкай».

**25.07.2012** Паводле слоў **Алены Каваленкі**, віцебскі апазыцыянэр **Сяргей Каваленка** пад ціскам адміністрацыі папраўчай калёніі напісаў прашэньне аб памілаваньні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Найбольш моцны ціск на Сяргея аказваўся з боку адміністрацыі калёніі, калі ён знаходзіўся ў карцэры за чарговае парушэньне рэжыму.

"Там былі вельмі дрэнныя ўмовы: дах цёк, шыба была пабітая, і калі быў дождж, то зацякала вада. За ноч трэба было 5-6 разоў уставаць рабіць фізычныя практыкаваньні, каб ня зьмерзнуць. Менавіта ў гэты час да яго прыходзілі па некалькі разоў на дзень і патрабавалі, каб ён напісаў пакаяньне, што ён зьдзейсьніў хуліганскі


Павал Севярынец

ўчынак, а не палітычную акцыю, як гэта было насамрэч", - распавяла Алена Каваленка.

**26.07.2012 Паўлу Севярынцу** афіцыйна паведамілі, што ён не падпадае пад амністыю. Дзеля гэтага **сустаршыню "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі"**, які адбывае тры гады абмежаваньня волі, выклікалі ў дзяжурную частку спэцкамэндатуры № 7. Там яго азнаёмілі з паперай, у якой паведамляецца, што амністыя да яго не ўжываецца. Падставай для гэтага ёсьць параграф 9 Закону аб амністыі.

**30.07.2012** Віцебскі **актывіст Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ Сяргей Каваленка**, які адбывае пакараньне ў магілёўскай калёніі № 19, зьмешчаны ў штрафны ізалятар. Спачатку яму далі 9 сутак ізалятару і ў той час, калі ён там сядзеў, дадалі яшчэ сем сутак.

**15.08.2012** Віцебскі **актывіст Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ Сяргей Каваленка** пасьля 16 сутак штрафнога ізалятару зьмешчаны ў мэдчастку калёніі. У мэдчастцы Каваленка знаходзіцца адзін у ізаляваным памяшканьні.

**28.08.2012** На закрытым выязным паседжаньні суд прызнаў **Зьмітра Дашкевіча** вінаватым у «злосным непадпарадкаваньні патрабаваньням адміністрацыі папраўчай установы» і пакараў яго яшчэ адным годам пазбаўленьня волі.

**04.09.2012 Лідэра** незарэгістраванай **моладзевай арганізацыі "Малады фронт" Зьмітра Дашкевіча** этапавалі з Глыбоцкай калёніі ў Віцебскі сьледчы ізалятар у ноч на 4 верасьня. Пра гэта паведаміла ў сваім акаўнце на Facebook ягоная нявеста **Наста Палажанка**.

**12.09.2012** У Віцебскі СІЗА прыехаў адвакат, але яго не пусьцілі да палітвязьня. Адміністрацыя сьледчага ізалятару спаслалася на тое, што яшчэ не атрымала пастанову суду пра ўступленьне ў сілу прысуду **Зьмітру Дашкевіча**, а таксама на тое, што ад Дашкевіча няма заявы на сустрэчу з адвакатам.

**Наста Палажанка**, аднак, кажа, што Зьміцер Дашкевіч яшчэ ў Глыбоцкай калёніі напісаў заяву пра спатканьне з адвакатам у Віцебскім СІЗА. Таму Наста Палажанка мяркуе, што адміністрацыя віцебскага СІЗА нешта хавае пра Зьмітра Дашкевіча.

**15.09.2012** Два тыдні запар жонка **Сяргея Каваленкі** Алена ня мае ад мужа званкоў і лістоў. Алена кажа, што праблема з карэспандэнцыяй ёсьць і ў Сяргея:

«Ёсьць праблема зь лістамі. Наш агульны сябар распавёў, што зьвязваўся зь Сяргеем, а адказу няма. І ад сваякоў не дайшлі лісты — адвакат пра гэта цікавіўся і высьветліў. І вось да мяне лісты ідуць дрэнна. Апошні дайшоў 31-га жніўня, а

адпраўлены быў 21-га».

**22.09.2012 Зьміцер Дашкевіч** этапаваны зь Віцебску ў Мазыр. Пра этапаваньне палітвязьня Зьмітра Дашкевіча паведаміла нявеста палітзьняволенага **Наста Палажанка**: «Мы атрымалі адказ з дэпартамэнту выкананьня пакараньняў. У ім напісана, што ён у Мазыры ў калёніі № 20».

**26.09.2012 Сяргея Каваленку** вызвалілі з магілёўскай калёніі. Як распавяла жонка Сяргея **Алена Каваленка**, муж пазваніў ёй ужо з чыгуначнага вакзалу ў Магілёве і паведаміў, што свабодны і што міліцыянты садзяць яго на цягнік да Віцебску. Алена разам з сынам Валікам плакалі наўзрыд… У Віцебску, акрамя сям'і, яго сустракалі і супрацоўнікі праваахоўных ворганаў.

**16.10.2012 Павал Севярынец** застаўся адзін працаваць на складзе, таму вельмі стамляецца. Паводле слоў Паўла, каб зразумець, трэба ўявіць супэрмаркет, дзе працуе адзін прадавец: няма калі нават на хвіліну прысесьці, а атрымлівае каля мільёну, часам крыху болей. Раней там працавалі два вольнанаёмных, але ня вытрымалі цяжкай працы і малой аплаты. Гаспадар з заменай не сьпяшаецца.

**08.11.2012** У Віцебску быў арыштаваны **першы намесьнік кіраўніка моладзевага аб'яднаньня "Саюз маладых інтэлектуалаў"** жыхар Наваполацку **Андрэй Гайдукоў**. У ягонай кватэры праведзеныператрус, канфіскаваныя кампутар і іншыя носьбіты электроннай інфармацыі. КДБ абвінавачвае маладога актывіста ў намеры заключыць пагадненьне з замежнымі спэцслужбамі. Гайдукову 22 гады, ён працуе апэратарам на наваполацкім "Нафтане".

Андрэй Гайдукоў быў арыштаваны паводле артыкулу 356 Крымінальнага Кодэкса Беларусі - здрада дзяржаве, у цяперашні момант ён утрымліваецца ў сьледчым ізалятары КДБ. Артыкул 356 Крымінальнага кодэкса Беларусі прадугледжвае пакараньне да 15 гадоў пазбаўленьня волі паводле часткі 1, і аж да сьмяротнага пакараньня паводле часткі 2 (здрада дзяржаве, спалучаная з забойствам).

Згодна з афіцыйнай інфармацыяй, Камітэтам дзяржаўнай бясьпекі спыненая супрацьпраўная дзейнасьць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся па заданьні замежнай выведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару, паведамляе прэс-служба КДБ. Згаданы грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка са зьвесткамі, што цікавяць замежныя спэцслужбы.

У Полацку з прад'яўленьнем падобных абвінавачваньняў быў таксама затрыманы каардынатар мясцовай БХД **Ільля Багданаў**. Праўда, празь некаторы час ён быў адпушчаны.

**30.11.2012 Андрэя Гайдукова**, які знаходзіўся пад вартай у менскім СІЗА КДБ, пераводзяць зь Менску ў Віцебск. Тут ён, хутчэй за ўсё, будзе зьмешчаны ў віцебскі СІЗА № 2.

**03.12.2012** З арыштаваным за «здраду дзяржаве» 23-гадовым апэратарам наваполацкага «Нафтану», які знаходзіцца ў Віцебскім сьледчым ізалятары № 2, сустрэлася адвакат. Адвакат пабачыла свайго падабароннага ўпершыню за


Вольга Гайдукова

тыдзень. Затрымка была выкліканая пераводам **Андрэя Гайдукова** зь менскай «амэрыканкі». Паводле слоў адваката, умовы ўтрыманьня ў Віцебску значна лепшыя – хлопец нават зьбіраецца вярнуць бацькам перададзеныя яму раней ў СІЗА КДБ цёплыя рэчы.

3 сьнежня адбыўся судовы разгляд скаргі Андрэя Гайдукова наконт зьмены меры стрыманьня. Ён прасіў, каб яго выпусьцілі з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе. Але сьледчы палічыў гэта немэтазгодным.

**04.12.2012 Вольга Гайдукова** прыяжджала ў Віцебск на сустрэчу са сьледчым, які вядзе крымінальную справу сына, затрыманага супрацоўнікамі КДБ «за здраду дзяржаве». Праз тэлефон яна прасіла Алега Барысевіча запісаць яе на прыём, але сьледчы сказаў: «Прыяжджайце на допыт». Паводле спадарыні Гайдуковай, допыт у віцебскай абласной управе КДБ доўжыўся гадзіны паўтары.

З маці затрыманага наваполацкага актывіста ўзялі падпіску аб неразгалошваньні зьместу размовы. Але яна кажа, што нічога новага падчас сустрэчы са сьледчым і не даведалася — хіба толькі тое, што спатканьня з сынам ёй не дадуць.

**08.12.2012** Родныя атрымалі першы ліст ад **Андрэя Гайдукова**, падазраванага, паводле інфармацыі КДБ, у «здрадзе дзяржаве». У лісьце Андрэй Гайдукоў папрасіў зьмяніць адваката. Маці кажа, што з Андрэем працавалі некалькі адвакатаў: адразу па затрыманьні – віцебскі адвакат, потым адвакаты зь Менску, спачатку дзяжурны адвакат, потым адмыслова наняты бацькамі.

«Цяпер Андрэй у Віцебску. Трэба, каб і адвакат быў тутэйшы – каб змог сустракацца, прыходзіць, размаўляць. А то Андрэю ж там цяжка… Ён напісаў заяву на імя сьледчага, каб яму далі тую адвакатку, якая была самая першая, віцебская. Яна і адвакатам працуе, і выкладае на юрыдычным факультэце. Напэўна, у яе з Андрэем склаўся нейкі кантакт, калі ён так хоча. Пагадненьне ў нас ужо заключанае – адразу пасьля арышту», - паведаміла Вольга Гайдукова.

**26.12.2012** Абвінавачаны ў здрадзе дзяржаве **Андрэй Гайдукоў** зноў пераведзены ў сьледчы ізалятар КДБ у Менску. Аб пераводзе не паведамілі нават адвакату. Адвакат пайшла на сустрэчу з Гайдуковым увечары 26 сьнежня, і толькі тады ёй паведамілі, што яшчэ 22 сьнежня яго перавялі назад у Менск.

Маці Андрэя Гайдукова заўважыла, што ад сына перасталі даходзіць лісты. Хаця раней, калі з пачатку месяцу яго трымалі ў віцебскім СІЗА, ліставаньне было рэгулярным. У апошніх лістох дадому Андрэй Гайдукоў пісаў, што “фальсыфікацыі па ягонай справе даходзяць да абсурду”.

Родныя і сваякі лічаць абвінавачаньне ў здрадзе дзяржаве беспадстаўным. І тлумачаць ціск на хлопца з боку КДБ выключна заняткамі апазыцыйнай дзейнасьцю. Непасрэдна перад арыштам Гайдукоў рыхтаваў дакумэнты, каб зарэгістраваць у Наваполацку моладзевую арганізацыю "Саюз маладых інтэлектуалаў". Актывіст не хаваў сваіх палітычных поглядаў, яго затрымлівалі падчас "акцыяў маўклівага пратэсту", і да яго неаднаразова прыходзілі "людзі ў цывільным" ды папярэджвалі пра імаверныя "непрыемнасьці".

**08.02.2013** Віцебскі **актывіст незарэгістраванай партыі "Белая Русь" Сяргей Рыжоў** атрымаў папярэджаньне пра ўзбуджэньне крымінальнай справы за ўдзел у леташніх недазволеных мерапрыемствах, у прыватнасьці ў "Славянскім маршы". Супраць яго, бясрацоўнага, якога нідзе не хочуць прыняць на працу, вядзецца таксама справа адносна нявыплаты алімэнтаў.

**12.06.2013** Віцебскі абласны суд пачаў разглядаць справу **Андрэя Гайдукова**, 23-гадовага навапалачаніна, якога вінавацяць у «здрадзе дзяржаве». Суд закрыты. На працэс не дапушчаныя ні журналісты, ні праваабаронцы.

Кіраўніцтва РГА "Беларускі Хэльсынскі камітэт" афіцыйна прасіла старшыню абласнога суду дапусьціць **Паўла Левінава** да працэсу над Гайдуковым, аднак праваабаронцу ў гэтым было адмоўлена без тлумачэньня прычын. Маці Гайдукова, якая жыве ў Полацку, у суд не прыехала. Як лічыць Левінаў, гэта можа быць зьвязана з тым, што на жанчыну аказваюць ціск, запалохваючы яе.

**20.06.2013** Старшыня КДБ Валер Вакульчык ня вытрымаў. «Шпіёнская справа», якую з такой радасьцю вёў КДБ у дачыненьні да апэратара наваполацкага «Нафтану» **Андрэя Гайдукова**, падобна, скончылася. Замест яе будзе нейкае іншая справа. Пра гэта Вакульчык заявіў 19 чэрвеня журналістам.

Працэс над Гайдуковым праходзіць у Віцебскім абласным судзе ў зачыненым рэжыме. Вялікай праблемы ў гэтым Вакульчык ня бачыць: «Няма сумненьняў, што ўсё будзе аб'ектыўна. Ніхто нічога хаваць ня будзе, за выключэньнем дзяржаўнай таямніцы». Гаворачы пра магчымае пакараньне абвінавачанага, Вакульчык сказаў: «Гэта можа вырашыць толькі суд». Пры гэтым ён адзначыў, што «ня факт, што гэта будзе артыкул 356».

Артыкул 356 КК - здрада дзяржаве, паводле якога абвінавачваецца Гайдукоў, прадугледжвае пакараньне ад сямі да 15 гадоў пазбаўленьня волі. Тое, што Вакульчык заявіў пра магчымую зьмену артыкулу, азначае, што ён зь вялікай доляй імавернасьці будзе зьменены.

**28.06.2013** Абвінавачаньне **Андрэю Гайдукову**, які раней абвінавачваўся ў дзяржаўнай здрадзе, перакваліфікаванае, органы пракуратуры просяць прызначыць яму больш мяккае пакараньне, заявіў генэральны пракурор Беларусі Аляксандар Канюк журналістам у Менску:

"Гайдукову перакваліфікаванае абвінавачаньне, я пакуль ня маю права назваць новы артыкул, але мы просім для яго 2 гады пазбаўленьня волі. Гэта іншы артыкул, яго доля будзе значна больш мяккай", - сказаў А. Канюк.

**01.07.2013** За замах на ўстанаўленьне кантакту з супрацоўнікам замежнай спэц-


Андрэй Гайдукоў

службы без прыкметаў здрады Радзіме рашэньнем Віцебскага абласнога суду **Андрэй Гайдукоў** прысуджаны да аднаго з паловай гадоў калёніі агульнага рэжыму. Асудзілі яго паводле артыкулу 356[1] крымінальнага кодэксу (устанаўленьне супрацоўніцтва са спэцыяльнай службай, ворганам бясьпекі або разьведвальным ворганам замежнай дзяржавы).

Суд быў закрытым. На апошнім паседжаньні 1 ліпеня, аб 11:00, у залі прысутнічалі маці і сястра падсуднага, прадстаўнікі ЭЗ і амбасады Вялікай Брытаніі. Сяброў жа, людзей, якія прыйшлі падтрымаць Андрэя, а таксама прадстаўнікоў праваабарончых арганізацыяў і журналістаў на працэс не дапусьцілі. Міліцыянты спасылаліся на тое, што ў памяшканьні няма вольных месцаў. Для пасяджэньня ў новым будынку абласнога суду была абраная адна зь невялікіх заляў, хаця пры жаданьні аб’явіць прысуд можна было б у іншым памяшканьні, якое зьмясьціла б усіх ахвотных.

Былі забароненыя фота- і відэаздымкі. Праўда, выключэньнем з правілаў стала дзяржаўная тэлевізія.

Пакараньне не сталася занадта нечаканым: у прынцыпе, было зразумела, што судзьдзя Галіна Ўрбановіч павінна трохі зьменшыць тэрмін, які папрасіў прадстаўнік афіцыйнага абвінавачаньня, але і не выпусьціць адразу ж падсуднага на волю, на што вельмі спадзявалася маці Андрэя.

«Прысуд занадта жорсткі, бо ніякага шпіянажу не было», - сказала **Вольга Гайдукова**. Цяпер, замест таго каб вярнуцца дадому разам з сынам, ёй застаецца чакаць абяцанага ў ліпені спатканьня.

**Адвакат** Гайдукова **Вадзім Мушынскі** таксама лічыць прысуд неапраўданым і зьбіраецца пісаць на яго скаргу. Пагутарыць з падабаронным пасьля абвяшчэньня прысуду адвакату не ўдалося, бо канвой сьпяшаўся. Мушынскі спадзяецца, што Андрэй усё ж зможа хутка пабачыцца з маці, якая падала прашэньне на спатканьне.

## Факты парушэньняў грамадзянскіх і палітычных правоў

**03.07.2012** У Віцебску быў затрыманы **маладафронтавец Яўген Гуцалаў**. Актывіста затрымалі каля ЗАГСу падчас распаўсюду ўлётак у рамках кампаніі «Ігнор-2012», пасьля затрыманьня даставілі ў РАУС. Ён пасьпеў паведаміць гэта паплечнікам па тэлефону, пасьля чаго сувязь зь ім перапынілася. На маладафронтаўца складзены пратакол, суду Яўген будзе чакаць у ІЧУ.

**04.07.2012** Тром наваполацкім актывістам, якія пагадзіліся ўзяць удзел у ініцыятыве **Дзьмітрыя Вуса** па зборы подпісаў за зьмены ў выбарчае заканадаўства, паступілі дзіўныя званкі на мабільныя тэлефоны. Тыя, хто тэлефанаваў казалі, што тэлефануюць з Цэнтрвыбаркаму, і пыталіся, ці сапраўды гэтыя грамадзяне падтрымліваюць ініцыятыву Дзьмітрыя Вуса. Атрымаўшы станоўчыя адказы, абанэнт зьнячэўку цікавіўся, ці няма на актывістаў руху якога-небудзь ціску і ці ўяўляюць яны наступствы, якія іх могуць чакаць за тое, што яны ўвязаліся ў гэтую справу.

Цікава, што ўсе абанэнты «Цэнтрвыбаркаму» мелі адзін і той жа гарадзкі наваполацкі нумар. Тэлефанавалі зь яго **Яўгену Парчынскаму**, **Віталю Філімонаву**… Яшчэ адзін актывіст папрасіў не называць ягонае прозьвішча. Але запэўніў, што ў выпадку чаго ад сваіх словаў не адмовіцца.

**11.07.2012** Віцебскага распаўсюдніка незалежнай прэсы **Барыса Хамайду** затрымалі апоўдні ў цэнтры гораду, каля так званага Сіняга дому, напярэдадні адкрыцьця "Славянсканга базару". Затрымліваць апазыцыянэра прыехалі высокія міліцэйскія чыны – кіраўнік Чыгуначнага РАУС і яго намесьнік.

Барыса Хамайду завезьлі ў РАУС, дзе пратрымалі каля гадзіны. Міліцыянты патрабавалі, каб ў дзень прыезду Лукашэнкі ў Віцебск Хамайда не прыходзіў да свайго месца ля Сіняга дому.

Мінулыя гады на пачатку фестывалю "Славянскі базар" Барыса Хамайду затрымлівалі і давалі "суткі" за несанкцыянаванае пікетаваньне.

**11.07.2012** Прафсаюз РЭП зьвярнуўся да старшыні Чыгуначнага суду Віцебску Раісы Лупенковай з просьбай ініцыяваць узбуджэньне крымінальнай справы ў дачыненьні да судзьдзі Сьвятланы Варатынскай па факце вынясеньня сьвядома незаконнага вызначэньня судовага паседжаньня пра індэксацыю ў сувязі з інфляцыяй грашовай сумы, якую павінны выплаціць былыя работніцы ААТ «Віцебскмясамалпрам» у кошт пагашэньня буйной нястачы.

Былыя работніцы ААТ «Віцебскмясамалпрам» спрабуюць даказаць у судзе сваю невінаватасьць ужо амаль два гады. Яны просяць вызваліць іх ад неабходнасьці кампэнсаваць буйную нястачу, якая была выяўленая на складзе прадпрыемства.

Інтарэсы работніц прадстаўляе **юрыст прафсаюзу РЭП Валер Місьнікаў**. Віна кладаўшчыц не даказаная, аднак суд стаў на бок наймальніка і абавязаў былых работніц выплаціць патрэбную суму. У сьнежні 2011 году судзьдзя Варатынская са сваёй ініцыятывы зрабіла пераразьлік сумы кампэнсацыі па стаўцы рэфінансаваньня на карысьць прадпрыемства за кошт работніц.

Прафсаюз абскардзіў вызначэньне судзьдзі Варатынскай. Судовая калегія па гра-



Яўген Парчынскі

мадзянскіх справах Віцебскага абласнога суду пагадзілася з пазыцыяй прафсаюзу і скасавала рашэньне пра індэксацыю сумы пагашэньня нястачы. А цяпер прафсаюз хоча прыцягнуць судзьдзю Варатынскую да адказнасьці за вынясеньне сьвядома незаконнага вызначэньня.

**12.07.2012 Актывістка грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Яніна Лясьнеўская** каля 11:00 гадзін была затрыманая ў Віцебску. Затрыманьне рабілі аршанскія міліцыянты. Праваахоўнікі заявілі, што Яніну падазраюць у распаўсюдзе твораў, якія прапагандуюць культ гвалту і жорсткасьці (артыкул 17.8 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях). Такімі матэрыяламі міліцыянты палічылі дзіцячыя размалёўкі «Мой тата міліцыянт. Што ён робіць на працы?».

Актывістка знаходзілася ў аддзеле аховы правапарадку і прафіляктыкі правапарушэньняў Кастрычніцкага РАУС г. Віцебску. Міліцыянты праводзілі зь ёй «гутарку». Грамадзкага прадстаўніка праваабаронцу Валера Шчукіна міліцыянты ў габінэт не дапусьцілі. Каля 15:00 Яніну Лесневская адпусьцілі, склаўшы адміністрацыйны пратакол.

**13.07.2012** На наступны дзень пасьля акцыі грамадзкага аб'яднаньня «Свабодны рэгіён» у падтрымку **палітвязьня Мікалая Статкевіча**, адзін зь яе арганізатараў **Яўген Парчынскі** быў «запрошаны» у Наваполацкі ГАУС. Там зь ім была праведзеная прафіляктычная гутарка пра недапушчальнасьць правядзеньня несанкцыянаваных мерапрыемстваў, а таксама ўручанае афіцыйнае папярэджаньне.

Тым ня менш наваполацкі актывіст, які таксама зьяўляецца **кіраўніком гарадзкой арганізацыі БСДП (НГ)**, якую ўзначальвае Мікалай Віктаравіч, запэўніў, што гэта ніякім чынам не паўплывае на ягоную грамадзянскую пазыцыю.

**14.07.2012** Маці **Ўладзіслава Кавалёва**, расстралянага паводле абвінавачаньня ў арганізацыі выбуху ў мэтро, паўторна зьвярнулася да старшыні КДБ, каб ёй вярнулі турэмныя запісы сына. На свой мінулы зварот адказу яна так і не атрымала. **Любоў Кавалёва** апавяла, што кіраўнік КДБ Вадзім Зайцаў на яе папярэднюю скаргу адказу не даслаў.

Запісы Ўладзіслава Кавалёва не ўваходзяць у пералік рэчавых доказаў па справе тэракту ў менскім мэтро, якія падлягаюць зьнішчэньню. І сам Уладзіслаў зьнішчыць іх таксама ня мог, б ў адным з апошніх лістоў прасіў маці, каб яна іх абавязкова захавала. «Хачу патлумачыць, што я ніколі не спыняюся на паўдарогі, і ўсе справы даводжу да канца. Мяне не задавальняюць пустыя адпіскі, я зноў настойваю, каб мне далі адказ па сутнасьці», — піша Любоў Кавалёва старшыню КДБ Вадзіму Зайцаву.

**17.07.2012** “Мэтады лекаваньня патрабуюць найхутчэйшага рэфармаваньня па ўсёй тэрыторыі таталітарнай дзяржавы. З мэтай хаваньня фактаў незадаволенасьці пацыентаў адміністрацыя працягвае ціснуць на хворых. Я вымушаны абвясьціць з 17 ліпеня галадоўку з адмовай ад прыёму ўсіх лекаў. З павагай да ўсіх неабыякавых **інвалід другой групы Такаровіч Мікалай Сямёнавіч**”, - адзначыў у сваёй заяве пацыент Багушэўскага абласнога сухотнага шпіталя (Віцебская вобласьць).

У шпіталі зноў узмацніўся ціск на хворых, якія выказваюць сваю нязгоду з мэтадамі лекаваньня. “Пры гэтым носьбіты бактэрыялягічнай зброі, якія сутыкаюцца з надзвычайным прэсынгам, могуць абараняцца толькі праз палачку Коха і галадоўку, якая для хворых на сухоты супрацьпаказаная, бо іх лекаваньне наўпрост залежыць ад належнага харчаваньня”, - адзначаюць яны.

Паводле слоў пацыентаў, згодна са статыстыкай, харчаваньне хворых знаходзіцца ў адпаведнасьці з нормамі міністэрства аховы здароўя, але насамрэч не адрозьніваюцца ад пайкі для асуджаных у турмах.

Таксама хворыя выступаюць супраць “новых” мэтадаў лекаваньня, якія ўжывае адміністрацыя шпіталя і якія зьяўляюцца састарэлымі ў сусьветнай практыцы, а ў краінах Эўрапейскага зьвязу не выкарыстоўваюцца ўжо 40 гадоў.

**23.07.2012** Заўзятары футбольнага клюбу “Спартак” (Масква), што прыяжджалі ў Віцебск падтрымаць “Црвену Звезду” ў матчы з “Нафтанам”, папракаюць міліцыю ў цэлым і менскі АМАП у прыватнасьці ў тым, што яны ўсяляк “правакавалі, абражалі і самі шукалі канфліктаў з фанатамі, а таксама “разбурылі станоўчае ўражаньне, якое гадамі фармавалася пра Беларусь”. Справаздача пра паездку ў Віцебск разьмешчаная ў блогу на сайце найбуйнейшага аб’яднаньня “Спартака” “Фратрыя”.

Аўтар сьцьвярджае, што непрыемнасьці пачаліся яшчэ па дарозе ў Віцебск, у некалькіх кілямэтрах ад гораду. “Праехаўшы спакойна паўз дзьве машыны ДПС, мы ўжо прадчувалі магчымасьць добра паесьці, крыху адпачыць, пагутарыць з сэрбамі, як за намі зьявілася мігцелка ДПСаўскай машыны… Наколькі было маё зьдзіўленьне, калі сказалі, што яны нас бяруць пад свой кантроль і павязуць на тэрыторыю стадыёну. На ўсе нашы пярэчаньні, што мы ня сэрбы і прыехалі проста ў госьці паглядзець горад, нам адказалі, што ‘мы ўсё ведаем пра ваша сяброўства, і выбар у вас альбо стаяць у ачапленьні перад горадам, альбо каля стадыёну’. Разам з намі да стадыёну прывезьлі і дзьве машыны сэрбаў”, - піша ён.

Потым, паведамляе аўтар, фанатаў узяў пад свой кантроль “АМАП у чорным, які адмыслова прыехаў на ўзмацненьне зь Менску”: “Відаць, іх яшчэ моцна ‘напампавалі’, што да іх едуць нейкія каты з Сэрбіі і Расеі. Увесь час правакавалі, абражалі, усімі сіламі імкнуліся выклікаць канфлікт. Далей амаль кожны крок кантраляваўся. Хацелі пайсьці з сэрбамі ў кавярню, за намі ўвесь час АМАП і ППС. Гуртом больш за 2-3 чалавекі хадзіць у прынцыпе было не рэальна, пастаянна хадзілі за намі хвосьцікамі”, - распавядае аўтар справаздачы.

Паводле яго слоў, усе групы сэрбскіх заўзятараў, якія перавышалі па колькасьці некалькі чалавек, тут жа бралі ў суправаджэньне, а самую вялікую групу адціснулі

і ўзялі ў ачапленьне ў парку. Заўзятар таксама сьцьвярджае, што адзін з супрацоўнікаў АМАПу ў грубай форме выказаўся пра Расею.

Таксама аўтар справаздачы крытыкуе праход на стадыён, сьцьвярджаючы, што ён "быў арганізаваны ў найлепшым стылі Хімак". "Цісканіна, і большасьць людзей патрапіла толькі пад сярэдзіну першага тайму. Сэрбы, якія паставілі сваю машыну побач з нашай, на гульню так і не патрапілі, іх увесь час пратрымалі ў аддзяленьні", - адзначае ён.

**24.07.2012 Актывісту "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі"**, пацыенту Багушэўскага абласнога сухотнага шпіталю **Валеру Ганчарэнку** адмовілі ў праве на лекаваньне за мяжой. Пра гэта ў адказе на ягоны зварот паведаміў галоўны пазаштатны фтызыятар Міністэрства аховы здароўя Беларусі прафэсар Г. Л. Гурэвіч.

Як адзначыў Валер Ганчарэнка, лекаваньне ў Беларусі хворых на сухоты зводзіцца толькі да іх ізаляцыі ў памяшканьні, падобным да турэмнага. Паводле словаў актывіста, яшчэ 2,5 гады таму ў этэры Польскага радыё быў зачытаны ягоны зварот с просьбай стварыць сухотныя гарадкі з усёй неабходнай інфраструктурай для сухотнікаў, але безвынікова. Ён адзначыў, што хворыя вымушаныя ісьці на скрайнія меры, у тым ліку галадаць, каб іх маглі пачуць неабыякавыя да гэтай праблемы людзі.

**30.07.2012** Пікет салідарнасьці з **палітвязьнем Алесем Бяляцкім** павінен быў адбыцца 4 жніўня, у дзень, калі споўніцца год з моманту арышту кіраўніка праваабарончага цэнтру "Вясна". Аднак улады не дазволілі правядзеньне акцыі. Сваё рашэньне пра забарону імпрэзы намесьнік кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску Віктар Галанаў абгрунтаваў тым, што заяўнікі не заключылі дамоваў на абслугоўваньне мерапрыемства з аддзелам унутраных спраў, гарадзкой цэнтральнай паліклінікай і прадпрыемствам "Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка".

Патрабаваньне заключаць дамовы з камунальнікамі, мэдыкамі і міліцыянтамі для атрыманьня дазволу на масавыя мерапрыемствы, якія арганізуюцца без удзелу органаў улады, зьявілася ў 2009 годзе, калі Віцебскі гарвыканкам прыняў сумнавядомае рашэньне № 881 "Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску". З дня прыняцьця гэтага рашэньня мясцовыя ўлады не далі дазволу ні на адну акцыю, якая ім не да спадобы.

Гэтым разам усё адбылося паводле звыклага сцэнару. Дамоваў заключыць не ўдалося. Напрыклад, генэральны дырэктар УКВП "Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка" Аляксандар Кушароў ня выслаў, як яго пісьмова прасілі, праект дамовы зь яго прадпрыемствам, а параіў зьвярнуцца ў іншыя арганізацыі, якія займаюцца прыборкай тэрыторыі. У выніку чарговае масавае мерапрыемства забароненае.

Рашэньне аб забароне пікету 4 жніўня яго арганізатары маюць намер абскардзіць у судовым парадку. Яны ўпэўненыя, што калі б у краіне суды былі незалежныя ад выканаўчай улады, справу яны выйгралі б. Аднак улічваючы беларускую рэчаіснасьць, зразумела, што шанцаў нешта давесьці судзьдзям, якія ня маюць звычкі ў гэткіх справах прыслухоўвацца да голасу праўды і справядлівасьці, амаль няма.

**01.08.2012** Яшчэ адзін пікет салідарнасьці з **палітвязьнем Алесем Бяляцкім** забаронены ў Віцебску. Яго меў намер правесьці 4 жніўня **Павал Левінаў**, віцебскі **прадстаўнік "Беларускага Хэльсынскага Камітэту"**.

Свой подпіс пад паведамленьнем пра забарону ладзіць пікет, атрыманым спадаром Левінавым, паставіў намесьнік кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Аляксандар Красакоў. Прычына забароны: месца правядзеньня меркаванай акцыі (ля дому № 41, корпус 1 па Маскоўскім праспэкце) не ўваходзіць у сьпіс месцаў, адведзеных віцебскім гарвыканкамам пад масавыя мерапрыемствы.

**02.08.2012** 2 жніўня на афіцыйным сайце Віцебскага аблвыканкаму зьявілася паведамленьне: «3 жніўня 2012 г. адбудзецца пазачарговая, дваццаць другая сэсія Віцебскага абласнога Савету дэпутатаў 26 скліканьня. На абмеркаваньне ўносіцца пытаньне: Аб удакладненьні асобных паказчыкаў абласнога бюджэту на 2012 год. Пачатак працы а 10:00 у залі паседжаньняў Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту».

Аднак у рэглямэнце Віцебскага абласнога Савету дэпутатаў выразна і зразумела вызначана, што «Паведамленьне пра месца і час правядзеньня пазачарговай сэсіі, а таксама пра месца і час рэгістрацыі дэпутатаў публікуецца ў мясцовым друку, перадаецца праз тэлебачаньне і радыё не пазьней, як за тры дні».

Такім чынам, чыноўнікі праігнаравалі патрабаваньні Статуту Савету і працягнулі практыку сакрэтнага разьмеркаваньня сродкаў падаткаплацельшчыкаў.

**02.08.2012** У Расонах канфіскавалі іміджавую прадукцыю кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары". Апэрацыю зьдзейсьнілі супрацоўнікі падразьдзяленьня "Тайфун" ДАІ Віцебскай вобласьці. Яны спынілі аўтамабіль, у якім знаходзілася названая прадукцыя. Кіроўцу даставілі ў РАУС г. Расоны. Тут начальнік ААПП РАУС Ястрабаў Аляксандар Віктаравіч склаў пратакол канфіскацыі і апытаньня.

Іміджавую прадукцыю, сярод якой былі канцылярскія вырабы, сумкі, кашулькі зь фірмовай сымболікай, было вырашана канфіскаваць "з мэтай правядзеньня праверкі". Гэтая прадукцыя была падрыхтаваная для доўгатэрміновых назіральнікаў, журналістаў і юрыстаў кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары".

**14.08.2012** Віцебскі **актывіст незарэгістраванай партыі "Белая Русь" Сяргей Рыжоў** падаў скаргу ў суд Першамайскага раёну Віцебску на дзеяньні гарадзкіх уладаў. Рыжоў лічыць палітычным перасьледам факт, што з пачатку ліпеня віцебскія фармацэўты на загад адпаведных ворганаў адмаўляюць яму ў набыцьці неабходных лекаў, нават тых, якія знаходзяцца у свабодным продажы.

Гэты пазоў – не адзінае патрабаваньне партыі на аднаўленьне правоў, якія дадзеныя грамадзянам Канстытуцыяй і міжнародным заканадаўствам. Таксама **кіраўнік віцебскай суполкі партыі "Белая Русь" Аляксандар Кірылаў** беспасьпяхова спрабуе абскардзіць рашэньне мэдкамісіі, якая завочна прызнала яго псыхічна хворым і зьбіраецца ў прымусовым парадку зьмясьціць яго у псыхіятрычны шпіталь.

**17.08.2012 Павал Левінаў** хацеў зладзіць пікетаваньне 19 жніўня, каб публічна выказаць сваё меркаваньне наконт дзеяньняў намесьніцы кіраўніка адміністрацыі


Алена Каваленка

Чыгуначнага раёну Віцебску Натальлі Ляпёшкінай, якая, на думку заяўніка, пазбаўляе грамадзян права на мірныя сходы. Пікетаваньне мелася доўжыцца ўсяго адну хвіліну – ад 21:30 да 21:31. Адмовіла Левінаву ў правядзеньні пікету менавіта Ляпёшкіна.

Прычына адмовы стандартная для адпісак апошніх гадоў – адсутнасьць дамоваў з арганізацыямі, якія павінны абслугоўваць мерапрыемства. У прыватнасьці – з гарадзкой ЖКГ, “хуткай дапамогай” ды міліцыяй.

**21.08.2012 Алена Каваленка** накіравала заявы начальніку калёніі № 19 і ў магілёўскую пракуратуру. Алена патрабуе разабрацца з законнасьцю дзеяньняў турэмшчыкаў у дачыненьні да яе мужа. «Напісала начальніку калёніі і ў Магілёўскую пракуратуру. За што яго зноў пакаралі карцэрам, ці былі гэтыя дзеяньні законнымі і чаму ад мяне хаваюць інфармацыю пра стан здароўя мужа, які пасьля карцэру трапіў у мэдычную частку? Мне вядома, што яго трымалі ў адзіночцы. Што там за ўмовы, калі людзі пасьля карцэру трапляюць да лекараў?»

**Сяргей Каваленка** быў пакараны карцэрам адразу пасьля заканчэньня доўгатэрміновага спатканьня з жонкай і дзецьмі пры канцы ліпеня. Спачатку вязьню далі 9 сутак карцэру, потым дадалі яшчэ 7. Пра прычыны пакараньня Алена Каваленка ня ведае, але мяркуе, што мужу маглі адпомсьціць за той розгалас, які атрымала іх сустрэча ў калёніі:

«Ім вельмі не спадабалася, што нас журналісты сустракалі. Адзін з журналістаў зьняў будынак калёніі, і тады начальнік калёніі загадваў, каб сьцерлі тыя запісы, інакш будзе вырашацца пытаньне адносна спатканьня. Быццам дамовіліся, што сатруць, але калі мы вышлі са спатканьня, то ў інтэрнэце я гэтыя здымкі ўбачыла. І яны ж інтэрнэт глядзяць. Таму, мяркую, гэта такая своеасаблівая помста».

**30.08.2012** Раніцай у Віцебску быў затрыманы **Алег Шрамук**, стваральнік суполкі «Надоел нам этот Лукашенко» ў сацыяльнай сетцы Вконтакте. Сябры і сваякі Алега зьвязваюць затрыманьне зь яго актыўнай грамадзянскай пазыцыяй і стварэньнем ім інтэрнэт-суполкі, якая налічвала каля 40 тысяч падпісчыкаў. Напярэдадні «Надоел нам этот Лукашенко» была ўзламаная, рахунак Алега быў актыўны, і ішло актыўнае выдаленьне інфармацыі з суполак і са старонкі Алега.

Паводле словаў супрацоўнікаў РАУС, Алег Шрамук быў затрыманы за датычнасьць да нейкіх раскопак, у выніку якіх Алег нібыта знайшоў нейкія патроны. Доказам датычнасьці Алега да раскопак паслужыла фатаграфія патронаў, якую Алег нібыта разьмяшчаў на сваёй старонцы Вконтакте. Знаёмаму Алега ў РУУС паведамілі, што Алег Шрамук прабыў там каля дзьвюх гадзін, апытаны і ўжо даўно адпушчаны. Аднак, да 15:00 Алег ні з кім са сваякоў і сяброў на сувязь так і ня


Алена Фаміна

выйшаў.

Пазьней высьветлілася, што затрыманы насамрэч знаходзіцца ва Ўпраўленьні КДБ па Віцебскай вобласьці. Алег быў адпушчаны з УКДБ па Віцебскай вобласьці толькі каля 24:00, дзе ён, як і меркавалі яго блізкія, знаходзіўся ўвесь гэты час.

**31.08.2012** Як паведаміла **Любоў Кавалёва**, маці пакаранага за суўдзел у тэрарызьме **Ўладзіслава Кавалёва**, яна працягвае беспасьпяхова дамагацца ад Камітэту дзяржбясьпекі інфармацыі пра лёс запісаў сына, патрабуючы перадачы ёй іх, як таго хацеў Уладзіслаў. Цяпер да гэтага яна мае намер падключыць Генэральную пракуратуру.

29 красавіка яна пісьмова зьвярталася да начальніка СІЗА КДБ, спрабуючы высьветліць, дзе знаходзяцца запісы. Двойчы - 4 чэрвеня і 13 ліпеня - да старшыні КДБ Вадзіма Зайцава. Ні на адзін са зваротаў пісьмовага адказу не было атрымана. Таму 31 жніўня Любоў Кавалёва накіравала заказным лістом скаргу на імя генэральнага пракурора Аляксандра Канюка, паколькі, паводле словаў Кавалёвай, “у адпаведнасьці з артыкулам 125 Канстытуцыі генпракурор ажыцьцяўляе найвышэйшы нагляд за выкананьнем законнасьці ў краіне”.

“Я дамагаюся выкананьня ў дачыненьні да мяне артыкулу 40 Канстытуцыі. Яны павінны даваць мне адказы. Аднак генэрал Зайцаў ігнаруе Канстытуцыю. КДБ у асобе Зайцава быў абавязаны разгледзець мой зварот і даць адказ у тэрмін. Нават адмова ад разгляду заявы павінна быць пісьмова матываваная”, - заявіла Кавалёва.

**01.09.2012** Упраўленьне Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці расьсьледуе справу па факце давядзеньня да самагубства ваеннаслужачага тэрміновай службы адной з вайсковых частак 103-й асобнай мабільнай брыгады. Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласьці Іна Гарбачова, справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага часткай 1 артыкулу 145 Крымінальнага кодэксу, была ўзбуджаная 27 жніўня.

Паведамленьне пра самагубства шарагоўца 1990 году нараджэньня, прызванага на службу ў траўні 2012 году, паступіла ў праваахоўныя органы 26 жніўня. На месца здарэньня выяжджала сьледча-апэратыўная група. Наконт справы атрыманыя паказаньні сьведак, прызначаная судова-мэдычная экспэртыза.

**04.09.2012** Удзельніца выбараў, **кандыдатка па Віцебскай-Горкаўскай акрузе № 17 Алена Фаміна** вярталася з Варшавы ад сына. Беларускія мытнікі перагледзелі яе рэчы спачатку ў вагоне, потым ссадзілі зь цягніка і зрабілі паўторныператрус ужо ў памяшканьні мытні. На гэтым не задаволіліся – правялі асабісты нагляд, увесь час прапануючы добраахвотна задэкляраваць нейкія грошы.



Аляксей Гаўруцікаў

Мытнікі распытвалі, чаму Алена Фаміна езьдзіла ў Польшчу і чаму часта бывае ў Летуве. І, паводле спадарыні Фаміной, відавочна выконвалі чыйсьці загад. Ніводнай рэчы падчас перагрусу і асабістага надгляду канфіскавана не было. Да цягніка, каб не спазьніцца, давялося бегчы бягом. А ў паперах, якія спадарыня Алена запатрабавала ад мытнікаў, перад ад'ездам, так нічога і не было напісана пра тое, чаго яе затрымлівалі і абшуквалі.

Падзеі апошніх дзён Алена Фаміна лічыць ціскам на сябе як на незалежную кандыдатку. Колькі дзён таму супрацоўнікі Першамайскага РАУС Віцебску без тлумачэньня прычын канфіскавалі яе тэчку з дакумэнтамі па выбарах і асабісты нататнік з тэлефонамі і адрасамі.

**04.09.2012 Кандыдата ў дэпутаты па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18 Аляксея Гаўруцікава** выклікалі ў РАУС Першамайскага раёну Віцебску і вярнулі рэчы, канфіскаваныя 30 жніўня падчас вобшуку аўтамабіля, на якім ён вяртаўся зь Менску: "Мяне запрасілі на размову ў Першамайскі РАУС Віцебску. Маёр міліцыі Сяргей Касаткін паведаміў, што рэчы ў мяне былі канфіскаваныя незаконна, і вярнуў мне іх. Вярнулі і "Народную праграму", і дыскі дачкі Алісы, і дакумэнты кандыдаткі **Алены Фаміной**".

"Супрацоўнік РАУС таксама патлумачыў мне, што ў дачыненьні да супрацоўнікаў ДПС і міліцыі зараз нібыта вядзецца пракурорская праверка, і пажадаў посьпеху на выбарах", – распавёў Аляксей Гаўруцікаў.

**05.09.2012** Супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС спрабавалі затрымаць віцебскага апазыцыянэра, «бо ў Віцебску здымаюць мастацкі фільм пра Марка Шагала». **Беспартыйны актывіст і распаўсюднік незалежнай прэсы Барыс Хамайда**, як звычайна, стаяў пад бел-чырвона-белым парасонам каля дому № 28 па вуліцы Леніна. Ледзьве толькі ён расклаў газэты і часопісы на сваім століку, як побач зьявіліся міліцыянты.

«Мне загадалі зьбірацца ў пастарунак. Сказалі, што ўжо выклікалі машыну па мяне, бо тут у горадзе здымаюць кіно, а я замінаю… Я зьдзівіўся: стаю на вуліцы Леніна, а кіно здымаюць на вуліцы Суворава, гэта ад мяне мэтраў за 500, ня меней. Да таго ж Марк Шагал — мой зямляк, дык чым жа я замінаю здымкам? Я ж не зьбіраюся туды ісьці, каб здымалі мяне», — кажа Барыс Хамайда.

Паводле актывіста, міліцыянты пачалі з кімсьці кансультавацца праз тэлефон. Потым сказалі: «Ну, пакуль стойце». І зьехалі. Барыс Хамайда не выключае, што яго хацелі проста выдаліць з цэнтру гораду, каб ён ня трапіўся на вочы цікаўным расейскім кіношнікам. Тыя здымаюць у Віцебску «пецярбурскія» краявіды для


Алег Шрамук

фільма пад працоўнай назвай «Міракаль пра Шагала».

**06.09.2012** На віцебскага **апазыцыянэра Барыса Хамайду**, які на рагу "сіняга дому" на вуліцы Леніна ў Віцебску распаўсюджваў незалежную прэсу, быў складзены адміністрацыйны пратакол. Хамайду абвінавацілі ў тым, што ён парушыў грамадзкі парадак.

Ужо з самага ранку да Хамайды падыйшлі два міліцыянты і патрабавалі, каб той сышоў. Супрацоўнікі міліцыі доўга некуды тэлефанавалі, а потым проста выпісвалі кругі вакол дому. Хамайда мяркуе – чакалі машыны. Але праз некаторы час да Барыса Хамайды падыйшла ўжо загадчыца прадуктовай крамы "Веста", якая месьціцца ў "сінім доме".

"Жанчына пачала патрабаваць, каб я сышоў, бо, маўляў, на гэтым самым месцы яна зьбіраецца разгортваць гандаль. Яна паспрабавала сарваць бел-чырвона-белую стужку. І я машынальна адкінуў ейную руку. А яна усчала гвалт: "Што вы б'яцеся, мяне муж дома ніколі ня б'е, я напішу зараз на вас заяву!" І выклікала міліцыю", – распавёў Барыс Хамайда.

Паводле пратаколу, Хамайда махаў рукамі, хапаў за руку загадчыцу магазіну і гэтым парушаў грамадзкі парадак.

**07.09.2012 Адміністратару суполкі "Надоел нам этот Лукашенко"** пасьля допыту ў КДБ удалося ўцячы за мяжу, нягледзячы на тое, што КДБ забраў у **Алега Шрамука** пашпарт. Ён зрабіў відэазварот да ўдзельнікаў суполкі, у якім падрабязна распавёў пра тое, як яго затрымлівалі і дапытвалі ў КДБ.

Паводле словаў актывіста, супрацоўнікі спэцслужбаў пагражалі яму. Камітэтчыкі не хавалі, што сачылі за ім і іншымі мадэратарамі суполкі на працягу году. Падчас допыту яны прыводзілі зьвесткі, пра якія маглі даведацца толькі праз праслухоўваньне тэлефонных размоваў. Алег Шрамук распавёў, што пасьля допыту ў КДБ ягоны рахунак на «Вконтакте» апынуўся ў руках у спэцслужбаў. Камітэтчыкі ўсталявалі кантроль над пратэстнай супольнасьцю і ад яго імя публікавалі правакацыі і паклёп на іншых адміністратараў суполкі.

Так, кадэбэшнікі спрабавалі настроіць удзельнікаў групы супраць адміністратара суполкі **Максіма Чарняўскага**, публікуючы запісы пра тое, што ён нібыта працуе на КДБ. Дасталася і іншым мадэратарам. Таксама супрацоўнікі КДБ напісалі ад імя Алега Шрамука, што ён нібыта зьехаў у Вільню і ў якасьці доказу апублікавалі яго фатаграфію ў сталіцы Летувы. Як высьветлілася, фатаздымак гэты быў зроблены яшчэ некалькі месяцаў таму, калі актывіст прыяжджаў у Вільню.

**12.09.2012 Кандыдатка ў дэпутаты па Віцебскай-Горкаўскай акрузе № 17 Алена**

**Фаміна**, прыхільніца Мікалая Статкевіча і **сябра аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада"**, ехала ў Вільню. На беларускім баку мытнікі правяліператрус яе рэчаў. Алена Фаміна паведаміла, што рэчы надглядалі доўга і пільна: праз гэта нават быў затрыманы цягнік. Нічога падазронага ў яе не знайшлі.

Гэта ўжо другі вобшук паводле ініцыятывы беларускіх мытнікаў за апошнія два тыдні. Мінулым разам кандыдатку ў дэпутаты парлямэнту надгледзелі на польска-беларускім памежжы, калі яна вярталася з Варшавы ад сына.

**13.09.2012 Каардынатар кампаніі «Гавары праўду»** ў Віцебску **Сяргей Парсюкевіч** падаў ў Віцебскі гарвыканкам і гарсавет чатыры калектыўных звароты грамадзян з настойлівымі просьбамі аб вырашэньні надзённых праблем.

Як прызнаўся Сяргей, праблемы, аб якіх ідзе гаворка ў калектыўных зваротах, упершыню былі агучаныя людзьмі якраз падчас кампаніі па зборы подпісаў для вылучэньня ў якасьці кандыдата. У пададзеных зваротах людзі просяць «прадстаўнікоў народу» зрабіць рамонт пад'язной дарогі, якая вядзе ад Маскоўскага праспэкту да дому № 61 корпус 4 па вуліцы Праўды ў Віцебску, разабрацца з жаласнай сытуацыяй, у якой апынуўся дом № 103 корп. 1 па вуліцы Лазо і найбліжэйшым ад яго прыпынкам грамадзкага транспарту. Акрамя таго, просяць прывесьці ў парадак дарогу, якая вядзе ад праспэкту Люднікава да дому № 22 корп. 3 па праспэкце Фрунзэ.

**18.09.2012** Затрыманы ў Віцебску **назіральнік Яўген Гуцалаў** просіць дапамогі адваката. Пра гэта паведаміў віцебскі актывіст **Пётар Іваноў**, якому позна ўвечары патэлефанавалі з Кастрычніцкага РАУС Віцебску і перадалі просьбу Гуцалава.

Яўгена Гуцалава затрымалі каля 14:00 проста на выбарчым участку (71-ы участак Віцебскай Кастрычніцкай выбарчай акругі), дзе ён быў назіральнікам ад кампаніі "Справядлівыя выбары 2012". Недзе а 13-й гадзіне на сваёй старонцы ў Фэйсбуку ён паведаміў: "Мяне ўжо шукаюць міліцыянты".

Як распавёў Пётар Іваноў, у Кастрычніцкім РАУС Яўген Гуцалаў хацеў перадаць яму нейкую цыдулку, але яе перахапіў міліцыянт.

**28.09.2012** Віцебскі **актывіст БХД** і **назіральнік на нядаўніх выбарах Яўген Гуцалаў** адбыў сем сутак адміністрацыйнага арышту за арганізацыю несанкцыянаванага пікету. А зараз ён вымушаны заплаціць яшчэ за "паслугі" віцебскага ізалятару часовага ўтрыманьня. Кошт турэмнага "сэрвісу" – 50 тысяч за суткі.

Сем сутак арышту прысудзіла Гуцалаву судзьдзя Кастрычніцкага раёну Віцебску Іна Грабоўская. Судзьдзя ўзяла пад увагу той факт, што на той момант Гуцалаў нідзе не працаваў і выплаціць вялікі штраф ня змог бы. "Дык вось, я ня ведаю, навошта тады судзьдзя Грабоўская прысудзіла мне суткі, калі і за іх прыйдзецца плаціць. Трыста тысяч – за ежу, знаходжаньне і г.д.", – кажа Яўген Гуцалаў.

**30.09.2012** Пасьля рамонту даху жыхары віцебскага дому ўсёй грамадой скардзяцца ў адміністрацыю прэзыдэнта. Кватэры жыхароў першага і другога пад'ездаў пяціпавярховіка па вуліцы Лазо, 11 у Віцебску пачало затапляць 21 верасьня, а прычынай гэтаму стаў рамонт даху дому. І вось ужо паўтары тыдні людзі са стра-


Георгі Разумаў

хам і з тазікамі ў руках сустракаюць кожны дажджлівы дзень. «Тазікі і ванначкі мы ўжо дзесяць дзён пастаянна трымаем напагатове, нават пазычаем іх адно аднаму», - нявесела жартуюць ахвяры камунальнага здарэньня.

**01.10.2012** Віцебскі абласны суд накіраваў грамадзянскую справу па пазове з**аснавальніка Беларускай кансэрватыўнай партыі "Белая Русь" Сяргея Рыжова** да віцебскага прадпрыемства «Фармацыя» ў суд Віцебскага раёну. Слуханьне адбудзецца 3 кастрычніка. Сяргей Рыжоў лічыць, што адказчык парушыў ягонае права спажыўца на свабодны выбар тавару і гэтым прычыніў яму маральную шкоду. Канфлікт здарыўся, калі ў адной з аптэк, якая належыць віцебскаму прадпрыемству «Фармацыя», аптэкар-правізар адмовіў Рыжову ў набыцьці лекавага сродку «Аксікорт» без рэцэпту.

Кіраўніцтва «Фармацыі» прызнала факт парушэньня правілаў водпуску лекавых прэпаратаў работнікам прадпрыемства (мазь «Аксікорт» адпускаецца без рэцэпту). Але ў судзе Першамайскага раёну Віцебску, дзе 10 верасьня адбылося папярэдняе паседжаньне, прадстаўнікі адказчыка адмовіліся прызнаваць пазоўныя патрабаваньні.

На думку Рыжова, папярэдні працэс у Першамайскім судзе Віцебску праходзіў са шматлікімі парушэньнямі. Суд адмовіў пазоўніку ў дасьледаваньні ўсіх абставінаў справы, якія маюць першачарговае значэньне для вынясеньня аб'ектыўнага рашэньня. Судзьдзя неаднаразова адмаўляла ў задавальненьні законных патрабаваньняў Рыжова выклікаць у якасьці сьведкаў тых асобаў, якія сталі відавочцамі маральных пакутаў, якія нанёс пазоўніку работнік аптэкі.

**05.10.2012** Цягам аднаго дня незалежныя мэдыі - «Салідарнасьць», «Хартыя-97», «Беларускі партызан» і Радыё «Свабода» - атрымалі ліст ад імя пяці сябраў Віцебскай рэгіянальнай арганізацыі прафсаюзу РЭП. У ім былі выказаныя крытычныя заўвагі ў адрас кіраўніцтва і намер напісаць заяву аб выхадзе з арганізацыі. Аднак на паверку высьветлілася, што ліст фальшывы. Імя аднаго падпісанта наогул невядомае ў прафсаюзе, астатнія чацьвёра, даведаўшыся, што яны зьяўляюцца аўтарамі ліста, вельмі зьдзівіліся.

«Я паразмаўляў з кожным з чатырох актывістаў, чыімі прозьвішчамі падпісаны ліст, яны адмаўляюць сваё дачыненьне да гэтага дакумэнту. Пятага чалавека наогул ніхто ня ведае, ён нават ня лічыцца ў сьпісах сябраў нашага прафсаюзу», - распавёў **кіраўнік Віцебскай рэгіянальнай арганізацыі прафсаюзу РЭП Георгі Разумаў**. Ён упэўнены, што ліст - ня што іншае, як чарговая правакацыя.

**Васіль Пятроўскі**, адзін з актывістаў, чыё прозьвішча стаіць пад лістом, запэўніў,

што любыя пытаньні, калі яны наогул паўстаюць, заўсёды абмяркоўваюцца ўнутры арганізацыі, і аддаваць іх агалосцы ніхто ня стаў бы: «Мы нічога не падпісвалі, і подпісы там стаяць ня нашы. Мы на такое ня здольныя», - дадаў ён. У прафсаюзе ўпэўненыя, што гісторыя зь лістом - чарговая правакацыя, накіраваная на тое, каб ачарніць арганізацыю і пасеяць разлад паміж актывістамі.

**06.10.2012** Калі ўрач зь Віцебску **Ігар Пастноў** распавёў «Белсату» аб праблемах мясцовай мэдыцыны, улады адрэагавалі амаль імгненна. Праўда, сваю энэргію яны накіравалі не на вырашэньне праблем, а на тое, каб прымусіць доктара замаўчаць.

«Да загадчыцы паліклінікі прыйшлі двое ў цывільным, доўга пра мяне распытвалі, пагражалі, што мяне пасадзяць, і загадалі, каб я перастаў даваць інтэрвію “Белсату”, маўляў, вы ўзбудараждваеце грамадзкае меркаваньне», - кажа Ігар Пастноў і дадае: з самім урачом “людзі ў цывільным” размаўляць ня сталі.

Паводле слоў Ігара Пастнова, адна з «болевых кропак» у службе аховы здароўя Віцебску - высокі ўзровень анкалягічных захворваньняў. І пры гэтым спыненае будаўніцтва другога корпусу анкалягічнага дыспансэру. «Калі былі “выбары”, туды паставілі кран, маўляў, яны пачынаюць нешта рабіць, а зараз яго ўжо прыбралі. А хірургічныя хворыя пасьля цяжкіх апэрацыяў ляжаць у калідорах, бо не хапае месцаў», - кажа ўрач.

У пачатку году ў сеціве зьявілася шакавальнае відэа таго, у якіх умовах трымаюць самых маленькіх пацыентаў шпіталя. На ім бачна, што памяшканьні патрабуюць капітальнага рамонту. У шпіталі паведамілі, што рамонт яшчэ ня скончаны. Расказаць, на якой стадыі працы і наогул ці яны распачаліся, галоўны ўрач шпіталя адмовілася.

**07.10.2012** Адміністрацыя Кастрычніцкага раёну Віцебску адмовіла актывістам незалежнага прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасьці (РЭП) у правядзеньні пікетаваньня ў Сусьветны дзень барацьбы за годную працу, які адзначаецца 7 кастрычніка. Заяўнікі акцыі хацелі правесьці 7 кастрычніка двухгадзіннае пікетаваньне на плошчы Перамогі ў Віцебску. Адмова прыйшла за подпісам намесьніка кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску Віктара Галанава.

«Вам не дазваляецца правядзеньне пікетаваньня ў сувязі з тым, што вамі ня выкананыя патрабаваньні пунктаў 1 і 3 рашэньня гарвыканкаму № 881 – аб вызначаных месцах правядзеньня масавых мерапрыемстваў і падачы разам з заявай дамоваў з РАУС, Віцебскай гарадзкой цэнтральнай паліклінікай і Віцебскай ЖКГ» , – гаворыцца ў адказе з раённай адміністрацыі.

«Падчас пікетаваньня мы плянавалі высунуць патрабаваньні да ўраду аб адмене сыстэмы тэрміновых працоўных кантрактаў, якая зьяўляецца пятлёй на шыі для працоўнага клясу. Мы казалі б людзям аб недапушчэньні дыскрымінацыі ў працоўных адносінах, у тым ліку па прыкмеце прыналежнасьці да незалежных прафсаюзаў. Інфармавалі б людзей пра тое, як у краіне справы з аховай працы. І вядома - з аплатай працы. На жаль, у Віцебску нам забаранілі праводзіць мерапрыемства і гаварыць зь людзьмі на гэтыя балючыя тэмы. Хоць у Менску гарадзкія ўла-


Сяргей Семенчукоў

ды дазволілі-ткі праводзіць падобныя пікеты», - распавёў кіраўнік Віцебскага аддзяленьня прафсаюзу РЭП **Георгі Разумаў**.

**08.10.2012** Былога палітвязьня **Сяргея Каваленку** выклікалі ў крымінальна-выканаўчую інспэкцыю Першамайскага раёну Віцебску і паставілі на прафіляктычны ўлік. На прафіляктычным уліку Каваленка будзе знаходзіцца два гады – пакуль не пагасіцца судзімасьць.

Раз на тры месяцы ён павінен цяпер адзначацца ў той самай інспэкцыі, з “падачы” якой і была ўзбуджаная крымінальная справа аб парушэньні рэжыму адбываньня так званай “хатняй хімі”, якую Сяргей Каваленка атрымаў за вывешваньне нацыянальнага сьцягу на навагодняй ёлцы на плошчы Перамогі ў Віцебску.

**31.10.2012** З-за аднаго пропуску ад навучэнца мэдкаледжу **Сяргея Семенчукова** патрабуюць забраць дакумэнты. Сяргей Семенчукоў - брат **актывісткі грамадзянскай кампаніі «Эўрапейская Беларусь» Алены Семенчуковай**.

1 лістапада ў Віцебскім мэдычным каледжы зьбіраецца пэдсавет. Як паведаміла Сяргею Семенчукову адміністрацыя каледжу, калі да гэтага часу ён не забярэ дакумэнты, то яго пад канвоем міліцыі прымусова даставяць у каледж.

**06.11.2012** Віцебскі актывіст **Аляксей Гаўруцікаў** атрымаў адмову на сваё патрабаваньне пакараць супрацоўнікаў ДАІ і Першамайскага РАУС за незаконныя дзеяньні і ўнясеньне ў пратакол няпраўдзівай інфармацыі. Раённы сьледчы камітэт стаў на бок міліцыянтаў, якія сваіх парушэньняў не прызналі.

Падзеі, паводле якіх сьледчы камітэт мусіў праводзіць праверку, адбываліся 30 жніўня. Тады Аляксей Гаўруцікаў і яго сястра **Алена Фаміна** былі кандыдатамі ў дэпутаты парлямэнту і праводзілі свае агітацыйныя кампаніі. Аляксей Гаўруцікаў вяртаўся зь Менску разам зь сябрам, які кіраваў машынай. Ужо ў Віцебску іх нечакана спынілі супрацоўнікі ДАІ, згадвае актывіст:

“Машыну спынілі нібыта за тое, што не былі ўключаныя фары. Гэта пазьней і запісалі ў пратакол парушэньня правілаў дарожнага руху – што кіроўца ня выканаў умову акцыі “Увага, дзеці”, якая праводзіцца ў пачатку навучальнага году. Але гэта няпраўда – фары былі ўключаныя. А спынілі нас відавочна зь іншай прычыны – каб паглядзець, што ў нас у машыне”.

Факту ўнясеньня ў пратакол няпраўдзівай інфармацыі супрацоўнікі ДАІ не прызналі, і з гэтым пагадзіліся ў сьледчым камітэце, куды актывіст зьвярнуўся са скаргай. Не прызналі і факту незаконнага ператрусу.

Падчас ператрусу былі забраныя відэадыскі зь фільмамі, папка з дакумэнтамі па


Ігар Пастноў

выбарах, якая належала Алене Фаміной, яе тэлефонны нататнік, і адзін асобнік “Народнай праграмы”, якая належала Аляксею Гаўруцікаву.

Аляксей Гаўруцікаў кажа, што падчас ягонага затрыманьня 30 жніўня было яшчэ адно парушэньне - ужо з боку супрацоўнкаў Першамайскага РАУС. Яны змусілі актывіста і яго сябра знаходзіцца ў пастарунку больш за тры гадзіны, прадугледжаныя заканадаўствам.

**06.11.2012** Віцебскі ўрач **Ігар Пастноў** неаднаразова ўздымаў балючыя пытаньні віцебскай мэдыцыны ў друкаваных СМІ і праз інтэрнэт. Цяпер ён мусіў зьвярнуцца ў міліцыю, бо нехта, падпісваючыся ягоным імем, разьмяшчае ў інтэрнэце камэнтары правакацыйнага зьместу.

Заява Ігара Пастнова пра тое, што невядомыя ад яго імя “абліваюць брудам знаёмых і сяброў”, зафіксаваная ў адмысловым відэазвароце. Ён гаворыць пра тое, што заўжды імкнуўся абнародаваць тыя праблемы, якія мае віцебская мэдыцына, але не “зьбіраць бруд”.

**06.11.2012 Сябар віцебскай гарадзкой арганізацыі КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** падаваў заяўку на правядзеньне шэсьця і пікету 7 лістапада. “Згодна з рашэньнем гарвыканкаму, мы мусім яшчэ і прыкласьці дамовы на абслугоўваньне імпрэзы з living рознымі службамі. Але зрабіць гэта аказалася немагчымым”, - кажа Ян Дзяржаўцаў.

Пра канфлікт з апошняй службай распавёў Ян Дзяржаўцаў: “Мне прыйшоў адказ за подпісам намесьніка генэральнага дырэктара гарадзкога прадпрыемства ЖКГ Ільінца. Маўляў, у нас няма падстаў заключаць з вамі дамову, бо прыборкай той тэрыторыі, дзе плянуецца шэсьце і пікет, займаюцца нанятыя намі іншыя прадпрыемствы – “Гардармост” і “Зеленгас”. Але ў рашэньні гарвыканкаму пазначаная канкрэтная структура – прадпрыемства ЖКГ. І выканаць рашэньне гарвыканкаму практычна не магчыма”.

Прадстаўнікі розных віцебскіх партыяў і рухаў ужо сутыкаліся з гэткай праблемай. Сфармуляваны ў рашэньні гарадзкіх уладаў парадак падачы заявак на масавыя мерапрыемствы сапраўды выканаць немагчыма, бо дамовы трэба заключаць не зь пералічанымі там суб’ектамі гаспадараньня, а зусім зь іншымі. Таму ўжо былі спробы зваротаў у гарвыканкам з прапановай зьмяніць даўняе рашэньне адпаведна наяўнай сытуацыі. Плёну гэта не прынесла: з гарвыканкаму пісалі, што рашэньне ўнесенае ў рэестар дзяржаўных актаў, і зьменам не падлягае.

**07.11.2012** Віцебскі гарвыканкам не дазволіў сябрам КХП БНФ распавесьці месьцічам пра злачынствы камунізму. **Ян Дзяржаўцаў** зьвяртае ўвагу на тое, што ў ад-

казе з абласной управы МУС зафіксаваная неадпаведнасьць рашэньню Віцебскага гарвыканкаму, якое рэглямэнтуе парадак падачы заявак на масавыя акцыі:

"Рашэньне ўладаў такое, што спачатку мы мусім падаць дамовы з ЖКГ, мэдыкамі і міліцыяй на абслугоўваньне акцыяў. Потым ужо гарвыканкам вырашае, даваць дазвол ці не. Аднак зь міліцэйскай управы мне пішуць, што дамову на ахову правапарадку заключаць немэтазгодна, бо ім вядома, што гарвыканкам ужо нам адмовіў. Дык чаму ад нас патрабуюць выкананьня гэтага рашэньня пра масавыя акцыі, калі нават міліцыя яго парушае?"

Дарэчы, актывіст КХП БНФ атрымаў тры адмовы на абслугоўваньне акцый - з усіх службаў, пералічаных гарвыканкамам. З прадпрыемства ЖКГ яму адказалі, што з дамовай пра прыборку тэрыторыі ён зьвярнуўся не па адрасе, хаця менавіта гэтае прадпрыемства пазначанеае ў адмысловым рашэньні Віцебскага гарвыканкаму. А з цэнтральнай паліклінікі напісалі, што не заключаць дамову, бо 7 лістапада ў многіх урачоў выходны дзень і выправіць машыну "хуткай дапамогі" на акцыю няма магчымасьці.

Спадар Дзяржаўцаў падкрэсьлівае і яшчэ адну акалічнасьць: толькі з гарвыканкаму і абласной управы МУС яму адказалі па-беларуску. З паліклінікі і ЖКХ адказалі на рускай мове, і актывіст лічыць гэта парушэньнем заканадаўства пра звароты грамадзянаў, які абавязвае чыноўнікаў адказваць на той мове, на якой напісаны зварот.

**08.11.2012** Гарадоцкі актывіст чакаў адпіскі з Генпракуратуры цягам 5-ці тыдняў. **Леанід Гаравы**, **актывіст Руху "За Сваболу!"**, толькі празь пяць тыдняў атрымаў адказ без аргумэнтаў і довадаў ад Генэральнай пракуратуры на скаргу аб незаконных дзеяньнях Лідзіі Ярмошынай, старшыні Цэнтарвыбаркаму.

У скарзе ён пісаў пра тое, што быў пазбаўлены права назіраць на Гагарынскім участку, а Цэнтарвыбаркам не разгледзеў яго скаргу на рашэньне акруговай камісіі №21 па сутнасьці.

**15.11.2012** Па справе аб выбуху ля будынку КДБ ў Віцебску затрымалі дзясяткі людзей. Пра гэта паведаміў віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў**, які знаходзіўся на месцы падзеяў: "Мне ўдалося выйсьці на сваякоў двух чалавек, якія былі затрыманыя і вызваленыя, але на жаль, я не ведаю, што зь імі там адбылося. Людзі запалоханыя, катэгарычна забаранілі нават сваякам даваць іх кантакты або штонебудзь распавядаць. Ніякай інфармацыі ад іх атрымаць не ўдаецца".

**23.11.2012 Каардынатарка віцебскага абласнога аргкамітэту БХД Тацьцяна Севярынец** падала дакумэнты ў Галоўнае ўпраўленьне юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму на рэгістрацыю абласнога грамадзкага аб'яднаньня "Хрысьціянскія дэмакраты Віцебшчыны". Яна паведаміла, што на ўладальніка памяшканьня, у якім плянуецца зарэгістраваць арганізацыю, ціснулі з мэтай змусіць яго адмовіцца даць памяшканьне.

Хто чыніў ціск на яго, мужчына не паведаміў, але сказаў, што гэта быў вельмі важны чыноўнік з Кастрычніцкага райвыканкаму Віцебску. Хаця сам прадпрымальнік ад прадстаўленьня памяшканьня не адмовіўся, было вырашана зарэгістраваць аб'яднаньне па "запасным" адрасе ў Наваполацку. "Гэты ціск зьяўляецца добрым


Аляксей Марачкін

паказчыкам таго, што нас, хутчэй за ўсё, не зарэгіструюць", - адзначыла Тацьцяна Севярынец.

**26.11.2012** За пяць дзён да адкрыцьця заплянаванай выставы вядомага **мастака Аляксея Марачкіна** (Алеся Мары) ў ВДУ імя Машэрава кіраўніцтва мастацка-графічнага факультэту адмовіла ў яе правядзеньні. Адкрыцьцё выставы Аляксея Марачкіна «Вяртаньне» мелася адбыцца 30 лістапада. Куратарка выставы **Кацярына Мясьнікава** кажа, што ўсе тэрміны ўзгадняліся загадзя.

Карціны для экспазыцыі павінны былі прыбыць у Віцебск раніцай 26 лістапада. Даведаўшыся пра адмену выставы, Аляксей Марачкін пасьпеў у апошні момант выгрузіць іх з машыны, якую даў Саюз мастакоў. Прабачэньня за раптоўную адмену выставы ніхто не папрасіў. З ВДУ нават не патэлефанавалі, каб папярэдзіць.

**26.11.2012** Прадстаўнікі партыяў і грамадзкіх арганізацыяў Віцебску вырашылі адзначыць ўгодкі Ўладзімера Караткевіча – каля 14 чалавек сабраліся каля помніку славутаму пісьменьніку. Чытаньне вершаў і выступы аматараў творчасьці пісьменьніка міліцыя расцаніла як несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. Прысутным давялося разыходзіцца перад пагрозай быць затрыманымі.

Спачатку міліцыянты толькі назіралі за падзеямі. Тым часам каля помніку прагучалі вершы Ўладзімера Караткевіча, прысутныя пачалі абмяркоўваць розныя надзённыя палітычныя тэмы. Тады і зьявіўся супрацоўнік міліцыі ў форме, але бяз бэйджу з прозьвішчам. Ён заявіў, што тут сабраліся ўдзельнікі несанкцыянаванага мерапрыемства, ды яшчэ з выкарыстаньнем атрыбутыкі – меліся на ўвазе бел-чырвона-белыя стужкі, прышпіленыя на грудзёх у прысутных.

На просьбу **абласнога каардынатара руху "За свабоду" Хрыстафора Жаляпава** назваць сябе міліцыянт прадставіўся маёрам Багданавым. Ён заявіў, што цяпер насіць бэйджы з пазначэньнем прозьвішча і пасады супрацоўнікі міліцыі не абавязаныя. І прыгразіўся затрыманьнем, калі прысутныя тут жа не разыдуцца.

Урачыстая частка ўшанаваньня памяці Ўладзімера Караткевіча на той момант ужо была скончаная. Аднак прыватныя размовы каля помніку давялося прыпыніць: супрацоўнікі ў цывільным атачылі прысутных у кола, пачуўшы словы маёра Багданава пра несанкцыянаванае мерапрыемства. Было вырашана не азмрочваць сьвяткаваньне ўгодкаў пісьменьніка разьбіральніцтвам у пастарунку або нават у судзе. Таму на працягу 10-15 хвілін прысутныя разышліся.

**27.11.2012** Віцебская абласная пошта дасылае беларускамоўныя тэлеграмы, запісваючы іх пры дапамозе расейскага альфабэту. Такую тэлеграму атрымаў **грамадз-**


Алег Трусаў

**кі актывіст Ільля Заранок**. Ільля ўдакладніў, што з гэтай нагоды ўжо рыхтуецца афіцыйная скарга ад таго, хто адпраўляў тэлеграму.

На думку **старшыні Таварыства беларускай мовы Алег Трусава**, перадача вуснай беларускай мовы праз альфабэт іншай мовы – гэта парушэньне заканадаўства: «Гэта парушэньне Канстытуцыі ды знакамітага рэфэрэндуму “Аб роўнасьці дзьвюх дзяржаўных моваў”, які таксама мае сілу».

**27.11.2012** Дзіцячага **лекара Ігара Пастнова** пазбавілі пасады. Галоўны ўрач ДУЗ «ВГЦП» С. І. Цітовіч апавясьціў пад подпіс свайго калегу, што яму неабходна зьявіцца ў кадравую службу за працоўнай кніжкай. Ігар Аляксеевіч спрабаваў даведацца прычыну непадаўжэньня кантракту, але галоўны ўрач растлумачыў, што паводле закону не патрабуецца ад працадаўцы «ламаць шапку» перад звольненым работнікам.

Ігар Пастноў на працягу некалькіх апошніх гадоў безупынна крытыкаваў кіраўніка Віцебскай вобласьці, лічачы, што па віне Аляксандра Косінца транжырацца бюджэтныя грошы. А мэдыцына ў гэты час быццам на задворках: недабудаваным застаецца хірургічны корпус анкалягічнага шпіталю, зацягнуўся рамонт інфэкцыйнай больніцы, «закансэрваваны» будынак афганскага цэнтру, і гэтак далей.

За сваё праўдалюбства Пастноў два гады таму ўжо пацярпеў: зь ім быў скасаваны кантракт. Але ў сытуацыю ўмяшаўся памочнік прэзыдэнта па Віцебскай вобласьці Мікалай Дамашкевіч. Апальнаму лекару далі працу з паніжэньнем і стратай зарплаты. Па Віцебскім раёне ён абслугоўваў ФАПы.

**02.12.2012** Студэнты Віцебскага дзяржаўнага станкаінструмэнтальнага каледжу зьбіраюць подпісы пад зваротам да прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім яны просяць захаваць спортпляцоўкі, што належыць іх навучальнай установе. На месцы спартыўнай пляцоўкі каледжу Віцебскі гарвыканкам мае намер зрабіць аўтастаянку.

І за пляцоўку з турнікамі і футбольным полем разгарэлася самая сапраўдная вайна. Для ўладаў гораду паркоўка зьяўляецца выгадным камэрцыйным праектам: у гэтым месцы Віцебску знаходзіцца шмат забаўляльных установаў і розных арганізацыяў, і тры аўтастаянкі, што ўжо існуюць, не ратуюць сытуацыю.

А выкладчыкі каледжу клапоцяцца пра здароўе сваіх падапечных. Калектыў навучальнай установы мае ліставаньне з рознымі ўладнымі інстанцыямі ўжо больш за паўгода, з красавіка. Але сілы ў гэтай барацьбе, вядома ж, ня роўныя… За гэты час пасьпелі звольніць і зноў прыняць на працу (за сьмеласьць выступіць супраць


Васіль Ільніцкі

рашэньня мэрыі) **кіраўніка фізвыхаваньня каледжу Васіля Ільніцкага**.

Цяпер на былым футбольным полі езьдзіць тэхніка, якую дасылае заказчык будаўніцтва аўтастаянкі - Віцебская гарадзкая ЖКГ. Але студэнты і выкладчыкі ўсё адно не губляюць надзеі і зьбіраюць подпісы да кіраўніка дзяржавы. У гэтым лісьце ёсьць адзін слушны момант: «Побач з каледжам ёсьць тры стаянкі, але няма ніводнай спартыўнай пляцоўкі. Хіба гэта справядліва? Хай улады гораду думаюць ня толькі пра папаўненьне бюджэту, але і пра наша здароўе».

Пакуль навучэнцы каледжу займаюцца ў спартзалі. Яна хоць і абсталяваная далёка не найлепшым чынам, але ўсё ж прынамсі неяк ратуе сытуацыю. Хаця пры цяперашніх абставінах на некаторых ўроках там можа адначасова займацца тры групы. Улады, зьбіраючыся зносіць пляцоўку, параілі дзецям хадзіць займацца на стадыён у суседнюю школу № 10.

**03.12.2012** Жыхары вёскі Паўлавічы каля Віцебску пазбавіліся дамоў літаральна за два дні - іх падпалілі і тут жа зьнесьлі, паводле рашэньня раённай адміністрацыі. Усе выселеныя з дамоў у вёсцы Паўлавічы яшчэ 20 гадоў таму атрымалі жыльлё і кампэнсацыі, заявілі ў Віцебскім гарвыканкаме. Аднак жыхары вёскі сьцьвярджаюць, што частку дамоў яны выкупілі назад, і зьбіраюцца ісьці ў суд.

Гісторыя з высяленьнем дамоў у вёсцы Паўлавічы атрымала шырокі грамадзкі рэзананс, і Віцебскі гарвыканкам палічыў неабходным пракамэнтаваць сытуацыю. На адмысловым брыфінгу, праведзеным пасьля зьнішчэньня вёскі, старшыня Віцебскага гарвыканкаму Віктар Нікалайкін урачыста паведаміў дзяржаўным журналістам, што ўсе жыхары вёскі яшчэ 20 гадоў таму атрымалі за свае дамы кватэры ў горадзе. А ў дадатак - кампэнсацыі. Таму шум, маўляў, паднялі дарма.

Жыхарка спаленых Паўлавіч **Алена Каравіна** распавяла, што кватэру ейная сям’я насамрэч атрымала. Але вось кампэнсацыі дачакаліся ўсяго 5-6 жыхароў гэтай ня самай маленькай вёскі.

Людзі ў Паўлавічах жылі ў неіснуючай вёсцы 20 гадоў больш-менш спакойна - да 1 сьнежня 2012 году, калі даведаліся, што іх маёмасьць зьбіраюцца спаліць. На зборы было дадзена два дні. Жыхарка Паўлавіч **Алена Голубева** мяркуе, што паскорылі працэс зьнішчэньня вёскі самі жыхары, калі напісалі пра сваю праблему ў адміністрацыю Лукашэнкі: “Я думаю, што такое хуткае зьнішчэньне вёскі зьвязанае з нашым зваротам у адміністрацыю кіраўніка дзяржавы. Мы прасілі разабрацца з сытуацыяй, з нашым пытаньнем. На гэтай зямлі 20 гадоў нічога не будавалі, і мы прасілі ўчасткі нам вылучыць для карыстаньня, каб усё легальна было”.




Цалкам імаверна, што ў Віцебскім гарвыканкаме хтосьці даведаўся пра ліст вяскоўцаў і вырашыў сьцерці Паўлавічы з мапы ў простым сэнсе слова. Няма вёскі - няма праблемы.

**14.12.2012** Зь віцебскім **сябрам партыі БНФ Аляксеем Гудзіліным** невядомыя правялі «прафіляктычную гутарку». Ад яго запатрабавалі спыніць сваю дзейнасьць і больш не «піярыць» БНФ. Каб малады чалавек лепш зразумеў сказанае, яго зьбілі.

Аляксей Гудзілін вяртаўся з практыкі, ён вучыцца на зваршчыка. Па дарозе вырашыў завітаць да свайго сябра, каб разам пайсьці ў спартовую залю. Аднак, выйшаўшы з трамвая, ён змог прайсьці толькі некалькі мэтраў, пасьля чаго быў спынены людзьмі ў цывільным.

На вуліцы Сьмятаніна да яго падышлі двое чалавек. Маладому чалавеку сказалі, што ён павінен прайсьці зь імі прайсьці. Хвіліны празь дзьве пад’ехала машына. Аляксея заштурхнулі на задняе сядзеньне аўтамабіля, самі селі па абодва бакі ад яго: «Яны мне сказалі: Навошта ты займаесься такой дзейнасьцю, піярыш партыю БНФ?, – распавёў актывіст. – Потым адзін з мужчын нанёс Аляксею кулаком удар у твар: «Зьбілі мяне. У выніку зламаны нос, закрыты пералом. Мне сказалі, што я не павінен больш хадзіць у БНФ, наогул піярыць яго і займацца абы-чым. “Абычым” – гэта адстойваць спартовую залю? Гэта проста абсурд!»

Спартовая заля, якую згадвае Алексей Гудзілін, знаходзіцца ў раёне ДСК. Гэта адзіная трэнажорная заля на ўвесь раён, у ёй рэгулярна займаюцца спортам некалькі дзясяткаў чалавек, як дарослых, гэтак і дзяцей. На пачатку кастрычніка камунальнікі зачынілі былі залю нібыта з прычыны яе нерэнтабэльнасьці і скарацілі пасаду трэнэра (**майстар спорту Аляксандар Таболін** прапрацаваў тут 17 гадоў, зь ім вырашылі не працягваць кантракт).

Памяшканьне спартзалі ЖРЭТ зьбіраўся пераабсталяваць у краму ці склад. Тады Аляксей, які сам займаецца там спортам цягам дзесяці гадоў, пачаў змаганьне. Ён здолеў прыцягнуць да сытуацыі ўвагу грамадзкасьці. Пра гісторыю з закрыцьцём залі напісалі «Народныя навіны Віцебска» і «Камсамольская праўда», быў паказаны сюжэт на тэлевізійным канале СТВ. У выніку ЖРЭТ мусіў адступіцца – спартовую залю зноў адчынілі, з трэнэрам працягнулі кантракт, праўда пакуль толькі на паўгода.

Хлопец кажа, што ён узьняў рэйтынг БНФ у вачох сваіх сяброў: «Цяпер партыю БНФ ведаюць на трэніроўках, ведаюць, што вось такі чалавек ходзіць сюды, трэніруецца, і ён адстаяў спартзалю сваімі сіламі». Відаць, менавіта рост папулярнасьці апазыцыйнае партыі сярод наведвальнікаў трэнажорнай залі, да якога спры-

чыніўся Аляксей, і стаў прычынай яго зьбіцьця.

Асобы, што збівалі маладзёна, імаверна, зьяўляюцца супрацоўнікамі праваахоўных органаў. Бо, як кажа Аляксей, яны паказалі яму нейкія пасьведчаньні, але зроблена гэта было так хутка, што ён не пасьпеў разгледзець, што ў тых пасьведчаньнях было напісана.

**15.12.2012** Сьледчы камітэт спыніў расьсьледаваньне па крымінальнай справе супраць супрацоўнікаў Першамайскага РАУС Віцебску, якія выбівалі прызнальныя паказаньні ў дзяцей пры дапамозе шрубнікаў і процівагазаў. Справа супраць міліцыянтаў-катаў была ўзбуджаная ў траўні 2011 году.

Папярэдняе расьсьледаваньне па факце прымяненьня незаконных мэтадаў вядзеньня сьледзтва апэратыўнікамі Першамайскага РАУС расьцягнулася на паўтара года. І вось надоечы галоўнае ўпраўленьне Сьледчага камітэту паведаміла пацярпелым і іх сваякам пра спыненьне расьсьледаваньня.

Намесьнік начальніка галоўнага сьледчага ўпраўленьня Міхаіл Алёшкін паведаміў, што расьсьледаваньне спыненае на падставе п. 2 ч. 1 арт. 29 КПК РБ («за адсутнасьцю ў дзеі складу злачынства»). Між тым, сваякі пацярпелых абураныя такім рашэньнем і лічаць, што справу проста замялі.

«Да гэтага, у прыватнай гутарцы, сьледчы Генпракуратуры (цяпер сьледчы СК) Мікалай Шылаў прызнаўся мне, што знайшоў у Першамайскім РАУС Віцебску сапраўдную камэру катаваньняў - з наборам шрубнікаў, процівагазаў і кайданкоў, і што вінаватыя абавязкова будуць пакараныя. Але ў выніку ўсё вінаватыя чамусьці пайшлі на павышэньне», - распавёў бацька аднаго з пацярпелых **Хачатур Хачатуран**.

Ягоны сын **Аляксандар Логінаў** разам зь сябрамі быў затрыманы летам 2009 году ў якасьці падазраванага па справе аб жорсткім забойстве, учыненым за Віцебскім абласным шпіталем. Віцебскія гімназісты правялі за кратамі паўтара года, пакуль пры канцы лістапада 2010 году Магілёўскі абласны суд іх не апраўдаў (пракурор прасіла 14 гадоў).

Менавіта на судзе ў Магілёве абвінавачаныя распавялі, якім чынам у іх здабывалі паказаньні ў РАУС Першамайскага раёну Віцебску. Каб выбіць у непаўнагадовых яўку з павіннай, сьледчыя ўсоўвалі ў рот пісталет, катавалі з дапамогай шрубнікаў і процівагазаў, пагражалі апусьціць уніз галавой у Дзьвіну і г.д. Усё гэта суправаджалася зьбіцьцём. Пра прысутнасьць на допытах адваката ці законнага прадстаўніка непаўнагадовых гаворкі нават не вялося…

У склад групы ўваходзілі опэрупаўнаважаныя аддзяленьня крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі Першамайскага РАУС Віцебску Г.Д. Цітоў (старшы), А.М. Шылін, А.М. Карчэўскі, Г.В. Лавіцкі, а таксама опэрупаўнаважаныя ўпраўленьня крымінальнага вышуку УУС Віцебскага аблвыканкаму А.А. Петэрсан, І.А. Гілько, В.В. Шашкін, С.В. Болдышаў і опэрупаўнаважаны па асабліва важных справах ГУУР КМ МУС Рэспублікі Беларусь А.П. Грэкаў. Кіраўніком сьледчай групы быў нейкі час Юры Шчацько, цяпер намесьнік начальніка Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці.


Ірына Гайдаль

Паводле словаў сваякоў хлапчукоў, расьследаваньне крымінальнай справы па факце катаваньняў абярнулася для іх новымі пакутамі - даводзілася ўспамінаць перажытае і «сустракацца з падонкамі на вочных стаўках». Праўда, вочныя стаўкі былі праведзеныя ўжо пры канцы сьледзтва - праз тры зь лішнім гады пасьля таго, што адбылося. Шмат якія асобы і дэталі былі проста забытыя. Адвакатаў на вочныя стаўкі не дапусьцілі.

**19.12.2012** Затрыманых у Віцебску **актывістаў БХД Станіслава Лаўрэнава** і **Аляксея Кішчука** абвінавачваюць у дробным хуліганстве - "нецэнзурнай лаянцы". Затрыманьне адбылося каля 11 раніцы, але суду над затрыманымі у той самы дзень не адбылося. Абодвух зьмясьцілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня прынамсі на ноч.

Супрацоўнікі ДАІ спынілі машыну, якой кіраваў Станіслаў Лаўрэнаў, але чамусьці сталі правяраць дакумэнты і ў Аляксея Кішчука. У яго не было пры сабе пашпарту, і хлопца павезьлі ў міліцыю, каб спраўдзіць асобу. Але там адразу склалі пратаколы, нібыта абодва "лаяліся матам", а Станіслаў Лаўрэнаў нібыта не падпарадкоўваўся патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі.

**28.12.2012** Жыхарку Віцебску **Ірыну Гайдаль** зь дзесяцігадовым сынам высяляюць з кватэры па адрасе вуліца Чкалава, дом 24 корп. 6, кв. 18. Папросту кажучы, Віцебскі гарвыканкам выкідвае маці зь дзіцем на вуліцу, ня даўшы іншага жытла - гэтакі навагодні падарунак сям'і.

На падставе рашэньня суду Першамайскага раёну Віцебску па грамадзянскай справе № 2-2368-2012 суд пастанавіў: "Выселіць Гайдаль Ірыну Аляксандраўну з залежным ад яе непаўнагадовым дзіцем **Лобанем Русланам Вітальевічам**, 2002 году нараджэньня з кватэры 18, дому 24, корпус 6 па вуліцы Чкалава ў г. Віцебску без даваньня іншага жылога памяшканьня. Прызнаць дамову найму жылога памяшканьня дзяржаўнага жыльлёвага найму, заключанага паміж Віцебскім гарадзкім выканаўчым камітэтам і Лобанем Віталём Уладзімеравічам ад 08.12.2012 году - несапраўдным".

Ірына Гайдаль - маці-адзіночка, на ўтрыманьні якой знаходзіцца 10-гадовы сын. Жанчына зьвярнулася ў абласны суд са скаргай. Пракуратура Першамайскага раёну Віцебску вынесла пратэст на рашэньне суду першай інстанцыі. У цяперашні час скарга жанчыны і пратэст пракуратуры знаходзяцца на разглядзе ў касацыйнай інстанцыі Віцебскага абласнога суду.

**13.01.2013** У ноч з 12 на 13 студзеня была ўчыненая аблава на наведвальнікаў віцебскага клюбу «XXI стагодзьдзе», дзе ў той час ладзілі вечарыну прадстаўнікі


Максім Гайкоў

ЛГТБ-супольнасьці. Супрацоўнікі міліцыі і АМАПу ўварваліся ў клюб і запатрабавалі ад тых, хто знаходзіўся ў ім, стаць ля сьценкі, пасьля чаго распачалі праверку дакумэнтаў. Прысутных здымалі на відэакамэру. Трое наведвальнікаў вечарыны былі затрыманыя.

Пра падрабязнасьці інцыдэнту распавёў **каардынатар праваабарончага праекту «ГейБеларусь» па Віцебскай вобласьці Максім Гайкоў**: «Іх было недзе чалавек 20: пяцёра – людзі ў цывільным, астатнія – спэцназ у форме. І на дварэ яшчэ стаялі. У клюбе ў гэты час было чалавек 40-50 наведвальнікаў. Яны ўварваліся, сабралі ўсіх у адной залі. Хлопцаў направа, дзяўчат налева – усіх расставілі. Адзін зь іх спачатку пайшоў уздоўж шэрагу, у кожнага запытваўся пра дакумэнты. А потым другая чарга пайшла, з запісам на відэакамэру: запытвалі імя, прозьвішча, месца працы ці вучобы, дату нараджэньня і «Што вы тут робіце?». Адным яны казалі, што шукаюць ухілістаў ад вайсковага абавязку, другім паведамлялі, што гэта наркарэйд – нібыта ім паступіў сыгнал, што ў нас тут пакет марыхуаны недзе ляжыць. Некалькіх чалавек забралі – у камэру, мяркуючы па ўсім. Сама меней вывелі траіх».

У клюбе супрацоўнікі спэцназу знаходзіліся цягам хвілін сарака-пяцідзесяці. А на выхадзе стаялі і пасьля – яшчэ каля гадзіны. Паводзіліся груба, лаяліся вельмі моцна, сьцьвярджае Максім Гайкоў. Старшы сярод іх потым падыйшоў да яго асабіста, запытаўся, называючы прозьвішча: «Вы?» – «Так, гэта я». – «З вамі мы потым яшчэ паразмаўляем».

**17.01.2013** Віцебкая абласная арганізацыя партыі БНФ накіравала пракурору Чыгуначнага раёну скаргу на дзеяньні галоўнага архітэктара Віцебску Віталя Дубіка. У заяве гаворыцца, што галоўны архітэктар гораду нахабна ігнаруе палажэньні аховы гістарычнага цэнтру гораду, у прыватнасьці, ён даў дазвол на праектаваньне на тэрыторыі былога Ніжняга замку Палацу ўрачыстых абрадаў. Таксама адзначаецца, што пляны па аднаўленьні і новаму будаўніцтве будынкаў у ахоўным цэнтры Віцебску не выносяцца на шырокае абмеркаваньне грамадзкасьці, а вырашаюцца кулюарна, пры гэтым груба парушаецца закон.

Пракурора просяць праверыць усе аб’екты новага будаўніцтва ў гістарычным цэнтры Віцебску на адпаведнасьць заканадаўству і паведаміць пра выяўленыя парушэньні і прынятыя меры заяўнікам.

**28.01.2013** Пяцёра жыхароў спаленай вёскі Паўлавічы, што ўвайшла ў склад Першамайскага раёну Віцебску, у пошуках справядлівасьці зьвярнуліся ў пракуратуру, суд і да гарадзкіх чыноўнікаў. Прычым шукаць справядлівасьці выказалі гатоўнасьць толькі пяць зь дзевяці пацярпелых. Алена Каравіна кажа, што іншыя ня

тое што зусім ня вераць у пэрспэктыву гэтай справы, але папросту ня ў стане з-за свайго ўзросту хадзіць па інстанцыях.

Вёска Паўлавічы была спаленая на пачатку сьнежня 2012 году. Усё адбылося на вачох людзей. **Алена Каравіна**, **Мікалай Голубеў**, **Георгі Лабачоў**, **Тацьцяна Уліцына** і **Андрэй Салаўёў** аб'ядналі свае намаганьні супраць тых, хто аддаваў загады паліць пабудовы. Каб паўнавартасна зьвяртацца ў дзяржаўныя структуры, яны падрыхтавалі ўсе неабходныя дакумэнты, у тым ліку даведкі аб аплаце падаткаў на нерухомасьць, на зямлю і г.д.

Зварот у пракуратуру Віцебску з просьбай расьсьледаваць ганебны выпадак падалі таксама праваабаронцы. Адтуль яны атрымалі фармальную адпіску (маўляў, гэта ня вашы дамы палілі, вы ня маеце да справы ніякага дачыненьня), але зварот у Генэральную пракуратуру меў станоўчы вынік — праваабаронцаў запэўнілі, што сытуацыю разгледзяць на месцы па сутнасьці. У выніку Менск усё ж такі даручыў пракуратуры Першамайскага раёну Віцебску высьветліць, наколькі законна дзейнічалі прадстаўнікі гарадзкіх уладаў.

**29.01.2013** Віцебскага **актывіста незарэгістраванай партыі "Белая Русь" Сяргея Рыжова** выклікаюць у суд Першамайскага раёну Віцебску. Супраць яго распачатая справа за ўхіленьне ад выплаты алімэнтаў для непаўнагадовай дачкі, хоць ужо зь лютага мінулага году ён застаецца беспрацоўным і нават страціў сацыяльную дапамогу па беспрацоўі.

Сяргей Рыжоў зьвязвае перасьлед у дачыненьні да яго зь ягонай палітычнай актыўнасьцю ў "Белай Русі", у прыватнасьці з арганізацыяй леташняга "Славянскага маршу", а таксама са стварэньнем "Камітэту нацыянальнага выратаваньня". Ён скардзіцца, што яму ня толькі адмаўляюць у працаўладкаваньні, але і адмаўляюць у выдачы неабходных лекаў, у сувязі з чым ён падаў скаргу на віцебскіх мэдыкаў і фармацэўтаў.

**04.02.2013** Пракурор Першамайскага раёну Віцебску старшы дарадца юстыцыі Юры Раманоўскі, разгледзеўшы матэрыялы праверкі па факце прычыненьня цялесных пашкоджаньняў **сябру партыі БНФ Аляксею Гудзіліну**, прыняў пастанову аб узбуджэньні крымінальнай справы паводле артыкулу 153 КК. Такая пастанова была прынятая пасьля заявы ў пракуратуру Віцебскай вобласьці **старшыні Віцебскай абласной рады партыі БНФ Леаніда Аўтухова** з просьбай да пракурора ўзяць пад асабісты кантроль бесстароннасьць, апэратыўнасьць, паўнату і выніковасьць сьледча-вышуковых мерапрыемстваў праваахоўных органаў па выяўленьні і прыцягненьні да адказнасьці вінаватых.

Як адзначаецца ў пастанове пракурора, справы наконт злачынстваў, прадугледжаных артыкулам 153 Крымінальнага кодэксу (наўмыснае прычыненьне лёгкага цялеснага пашкоджаньня), зьяўляюцца справамі прыватнага абвінавачаньня і ўзбуджаюцца асобамі, што пацярпелі ад злачынства. Аднак пракурор мае права таксама ўзбуджаць такога кшталту справы, нават пры адсутнасьці заявы пацярпелага, калі дзеяньні вінаватай асобы закранаюць істотныя інтарэсы дзяржавы і грамадзтва, законныя інтарэсы грамадзян. Менавіта з гэтага свайго права і скарыстаўся пракурор Юры Раманоўскі. Крымінальная справа для далейшага расьследаваньня накіраваная ў Першамайскі райаддзел Віцебску Сьледча-


Сяргей Рыжоў

га камітэту Рэспублікі Беларусь.

**08.02.2013** Віцебскі **актывіст партыі "Белая Русь"** і **ўдзельнік "Камітэту Нацыянальнага выратаваньня" Сяргей Рыжоў** паведаміў, што за яго дзейнасьць улады перасьледуюць яго маці, якая хварэе дыябетам і якой адмаўляюць у выдачы неабходных лекаў: "Яна хворая на цукровы дыябет, вымушаная была зьвярнуцца са скаргамі да кіраўніцтва паліклінікі, у гарадзкі і абласны аддзелы аховы здароўя, і ніхто гэтыя пытаньні не вырашае. Адмаўляюць у выпісцы прэпаратаў, якія ёй рэкамендаваныя для падтрымкі арганізму". Паводле яго слоў, раней таксама яго роднай сястры "хуткая дапамога" адмовіла ў дапамозе, калі тая згубіла прытомнасьць.

**11.02.2013** У сваім звароце да дырэктара ТРК «Віцебск» Анатоля Камовіча **старшыня Віцебскай абласной рады партыі БНФ Леанід Аўтухоў** адзначаў, што грамадзянам краіны не хапае такой праграмы, у якой прадстаўнікі ўсіх зарэгістраваных грамадзкіх і палітычных арганізацыяў маглі б прадставіць сваё бачаньне сёньняшніх рэаліяў, выказаць свае крытычныя заўвагі і абмеркаваць праблемы з запрошанымі службовымі асобамі розных узроўняў. Гэткая праграма, на думку спадара Аўтухова, набыла б найвышэйшы рэйтынг і дапамагла б вырашыць некаторыя застарэлыя праблемы Віцебску і вобласьці.

Мяркуючы па адказе кіраўніка віцебскай тэлерадыёкампаніі, ён нібыта цалкам падтрымлівае прапанову віцебскага старшыні БНФ, але ня можа нічога зрабіць: «Стварэньне новых праектаў у гэтым годзе кампаніяй не заплянаванае з прычыны недахопу фінансавых сродкаў».

**16.02.2013** Прыкладна апоўдні ў Віцебску былі затрыманыя **сябры БХД Стас Лаўрэнаў** і **Аляксей Кішчук**. Іх затрымалі ў цэнтры гораду ля Плошчы Свабоды пасьля таго, як яны вывесілі расьцяжку "Свабоду палітвязьням". Хлопцаў адвезьлі ў Кастрычніцкі РАУС Віцебску. Пазьней актывістаў перавезьлі у ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе пратрымалі да суду.

**25.02.2013** Віцебская абласная канфэрэнцыя Беларускай партыі "Справядлівы сьвет" падтрымала прапанову аб удзеле ў бестэрміновай кампаніі "Дэпутатаў да адказу!". У прынятым рашэньні ўсім сябрам партыі рэкамэндавана ўзяць на кантроль правядзеньне справаздач дэпутатаў перад выбаршчыкамі, запатрабаваць ад райвыканкамаў і рэдакцыяў мясцовых газэт апублікаваць зьвесткі пра памочнікаў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і сябраў Савету Рэспублікі, больш актыўна выступаць супраць спробаў уладнай вэртыкалі ліквідаваць сельскія Саветы дэпутатаў...

У якасьці своеасаблівага "ўступнага ўзносу" у бестэрміновую кампанію ціску на

слуг народу Чашніцкая раённая структура партыі прэзэнтавала свой досьвед процідзеяньня спробе губэрнатара Віцебскай вобласьці аднаасобна вырашыць пытаньне аб пераносе сталіцы раёну ў Новалукомаль. Пасьля агучваньня ім гэтай ідэі ў газэце "СБ" і БЕЛТА, сябры партыі сабралі больш за 300 подпісаў з патрабаваньнем да Савету Міністраў рэспублікі Беларусь паразумецца з народам… Калектыўны зварот ўрад перааадрасаваў Віцебскаму абласному Савету дэпутатаў і аблвыканкаму. Супакойлівы адказ прыйшоў па пошце ад намесьніка Косінца. Савет дэпутатаў маўчыць…

**28.02.2013 Сябра нацыянальнай рады аргкамітэту БХД Уладзімер Сіманковіч** у межах кампаніі "Рада народных дэпутатаў" сабраў 30 подпісаў пад скаргай у Віцебскі гарвыканкам. "У сувязі зь нездавальняючым станам падземнага пераходу па праспэкце Маскоўскім, скрыжаваньні з вуліцай Церашковай і вуліцай П. Броўкі, ініцыятыўная група грамадзян зьвяртаецца з просьбай аб садзейнічаньні гарадзкога выканаўчага камітэту ў рамонце ўсіх лесьвічных маршаў, якія вядуць да ўсіх выхадаў вышэйназванага аб'екту", - гаворыцца ў скарзе.

**28.02.2013** У Віцебскім аблвыканкаме створаная працоўная група для вызначэньня неабходных мер рэагаваньня на неабгрунтаваныя звароты грамадзян, што сыстэматычна накіроўваюцца ў аблвыканкам, паведамілі ў аддзеле па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб аблвыканкаму. У дачыненьні да 17 "хранічных" заяўнікаў прынятыя рашэньні аб спыненьні ліставаньня па выкладзеных у зваротах пытаньнях, у тым ліку з 9 грамадзянамі, якія сыстэматычна накіроўвалі такія звароты ў аблвыканкам і вышэйстаячыя дзяржаўныя ворганы.

Заяўнікі пісьмова папярэджаныя пра тое, што ў адпаведнасьці з п.2 артыкулу 19 (выдаткі, зьвязаныя з разглядам зваротаў) закону "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" зь іх у судовым парадку могуць быць спагнаныя выдаткі, панесеныя ў сувязі з разглядам іх пастаянных неабгрунтаваных скаргаў.

Паводле дадзеных спэцыялістаў аддзелу, ад гэтых грамадзян, да вынясеньня рашэньня аб спыненьні зь імі ліставаньня, паступіла ў цэлым больш за 200 неабгрунтаваных зваротаў. Напрыклад, з вышэйстаячых арганізацыяў у аблвыканкам паступіла 16 зваротаў жыхаркі Сеньненскага раёну - кожны пяты з раёну, якія па выніках разгляду прызнаныя неабгрунтаванымі.

Паводле апублікаванай інфармацыі, у мінулым годзе ў аблвыканкам паступіла каля 3,9 тыс. зваротаў грамадзян. Па выніках разгляду зваротаў грамадзян, якія паступілі ў аблвыканкам, прызнаныя абгрунтаванымі і задаволеныя 429 зваротаў грамадзян, або 13,5% ад колькасьці тых, што паступілі летась і былі ўзятыя на кантроль.

**02.03.2013 Абласны каардынатар Руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў** зьвярнуўся ў Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай абавязаць кіраўніцтва мясцовай міліцыі выконваць заканадаўства. "Я прашу абавязаць кіраўніцтва Ўпраўленьня ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкаму надалей няўхільна выконваць патрабаваньні заканадаўства аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў і заключыць са мной дамову аб ахове грамадзкага парадку падчас правядзеньня масавага мерапрыемства 25 сакавіка ў Віцебску",– адзначае мясцовы каардынатар руху.



Аляксей Габрыэль

Раней УУС Віцебскага аблвыканкаму лістом № 5/Ж-7 ад 2013/02/08 г. адказала Хрыстафору Жаляпаву, што згоднае заключыць дамову пасьля прыняцьця рашэньня адміністрацыяй Першамайскага раёну г. Віцебску аб правядзеньні масавага мерапрыемства. У той самы час, згодна з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму № 881 ад 10.07.2010 г. "Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску", пры падачы заяўкі на правядзеньне акцыі трэба прыкласьці ўжо падпісаныя дамовы зь міліцыяй, мэдыкамі і камунальнымі службамі на, адпаведна, ахову, мэдычнае абслугоўваньне ўдзельнікаў мітынгу і прыборку тэрыторыі пасьля правядзеньня мерапрыемства.

**05.03.2013** Супрацоўнікі аховы Лукомальскай ДРЭС 5 сакавіка не пусьцілі **старшыню пяршоўкі Свабоднага прафсаюзу Беларускага** (СПБ) **Аляксея Габрыэля** на тэрыторыю прадпрыемства. На думку прафсаюзнага лідэра, адміністрацыя спалохалася яго выступу на канфэрэнцыі працоўнага калектыву. Канфэрэнцыя працоўнага калектыву работнікаў Лукомальскай ДРЭС была прысьвечаная падвядзеньню вынікаў выкананьня мінулай калектыўнай дамовы і абмеркаваньню новай. Прафсаюзны лідэр лічыць, што адміністрацыя наўмысна імкнецца абмежаваць дзейнасьць Свабоднага прафсаюзу.

**06.03.2013 Старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Леанід Аўтухоў** падаў заяўку на правядзеньне мітынгу ва ўшанаваньне 95-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Аўтухоў таксама напісаў скаргі ў пракуратуру і Віцебскі аблвыканкам на адмову прадстаўнікоў хуткай дапамогі і міліцыі заключыць дамовы на забеспячэньне суправаджэньня масавага мерапрыемства.

«Мэдыкі адмову абгрунтоўваюць падвышаным узроўнем захворвання і, як наступства, немагчымасьцю забясьпечыць суправаджэньне мерапрыемства хуткай дапамогай. У міліцыі наогул кажуць, што мы спачатку павінны атрымаць дазвол на правядзеньне мітынгу, а потым яны разгледзяць заключэньне дамовы. Хоць паводле закону ўсё павінна рабіцца наадварот", - сказаў ён.

**07.03.2013** Упраўленьне па наркакантролі і супрацьдзеяньні гандлем людзьмі УУС Віцебскага аблвыканкаму паведаміла актывістам **Максіму Гайкову**, **Тацьцяне Быкавай** і **Алегу Квяцінскаму** аб тым, што іх скарга адносна дзеяньняў праваахоўных органаў падчас рэйду на ЛГБТ-вечарыну ў клюбе "21 стагодзьдзе" разгледжаная. Першы намесьнік начальніка УУС Віцебскага аблвыканкаму ўдакладніў, што па факце скаргі была праведзеная праверка. У яе выніку высьветлілася, што 12 студзеня службовыя асобы ў віцебскім клюбе "21 стагодзьдзе" праводзілі "наступныя апэратыўна-пошукавыя мерапрыемствы: абсьледаваньне памяшканьняў, будын-

каў, збудаваньняў, іх агляд з мэтай магчымага выяўленьня прыкмет злачыннай дзейнасьці, а таксама апытаньне грамадзян. Падчас названых пошуковых мерапрыемстваў праводзіўся відэазапіс".

Абапіраючыся на абзац 4 артыкулу 11 разьдзелу 3 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб апэратыўна-пошукавай дзейнасьці" першы намесьнік кіраўніка УУС Віцебскага аблвыканкаму падкрэсьлівае, што ніякіх парушэньняў закону з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў выяўлена не было. "Падчас правядзеньня апэратыўна-пошукавых мерапрыемстваў выкарыстоўваюцца інфармацыйныя сыстэмы, відэа- і аўдыёзапіс, кіна- і фотаздымкі, а таксама іншыя тэхнічныя і іншыя сродкі, што не наносяць шкоды здароўю людзей і навакольнаму асяродзьдзю", - спасылаецца ён на Закон.

Аднак такі адказ не задавальняе віцебскіх актывістаў. Яны зьбіраюцца азнаёміцца з матэрыяламі праверкі і, калі спатрэбіцца, абскардзіць іх у судзе ці вышэйшых інстанцыях. "Па-першае, трэба азнаёміцца з матэрыяламі праверкі і абскардзіць прынятае УУС Віцебскага аблвыканкаму рашэньне ў МУС Рэспублікі Беларусь. Трэба напісаць новую скаргу: на тое, што супрацоўнікі праваахоўных органаў не прадстаўляліся на запатрабаваньне наведвальнікаў клюбу. Таксама яны паводзіліся з намі вельмі некарэктна. На гэтыя пункты нашай скаргі УУС Віцебскага аблвыканкаму не адказала", - удакладніў актывіст Алег Кваціінскі.

**07.03.2013** Віцебскі гарвыканкам адмовіў **актывісту КХП-БНФ Яну Дзяржаўцаву** ў дазволе на правядзеньне вулічнага шэсьця, прымеркаванага да 150-х угодкаў паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Прычына забароны акцыі стандартная: адсутнасьць дамоваў, прадугледжаных рашэньнем гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску».

Паколькі кіраўніцтва Віцебскай гарадзкой цэнтральнай паліклінікі і УУС Віцаблвыканкаму ухілілася ад заключэньня неабходных дамоваў, Ян Дзяржаўцаў разам з заявай на правядзеньне шэсьця падаваў скаргу на дзеяньні службовых асоб, у якой прасіў прымусіць апошніх заключыць дамовы. Бо, на думку Яна Дзяржаўцава, калі грамадзяне, што хочуць правесьці масавае мерапрыемства, маюць абавязак заключаць дамовы з арганізацыямі, пералічанымі ў рашэньні аблвыканкаму, дык тады такі самы абавязак маюць і самі гэтыя арганізацыі.

Аднак намесьнік старшыні гарвыканкаму Ўладзімер Шлома, чый подпіс стаіць пад адказам на скаргу і заяву аб правядзеньні шэсьця, лічыць інакш. Грамадзяне і юрыдычныя асобы свабодныя ў заключэньні дамоваў, прымус да заключэньня дамоваў не дапускаецца, за выключэньнем выпадкаў, калі абавязак заключыць дамову прадугледжаны заканадаўствам або добраахвотна прынятым абавязальніцтвам, – напісаў ён актывісту КХП-БНФ.

Чаму рашэньне гарвыканкаму № 881 зьяўляецца заканадаўчым актам, абавязковым для выкананьня грамадзянамі, і пры гэтым ні да чаго не абавязвае арганізацыі, пазначаныя ў гэтым рашэньні, спадар Шлома не патлумачыў. Як не патлумачыў і тое, якім чынам на практыцы можна выканаць рашэньне гарвыканкаму.

**12.03.2013** Віцебская цэнтральная гарадзкая паліклініка адмовілася заключыць дамову на мэдычнае абслугоўваньне ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі. І гэта



Любоў Кавалёва

можа стацца перашкодай для атрыманьня дазволу на мітынг. Бо наяўнасьць дамоваў на абслугоўваньне — гэта першасная ўмова, рэглямэнтаваная рашэньнем гарвыканкаму «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску». Таму **кіраўнік абласной структуры руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** вырашыў змусіць мэдыкаў да заключэньня дамовы праз суд.

**13.03.2013** Прэс-канфэрэнцыяй, прымеркаванай да гадавіны расстрэлу **Ўладзіслава Кавалёва** і **Дзьмітрыя Канавалава**, маці пакаранага за суўдзел у тэрарызьме Ўладзіслава Кавалёва і праваабаронцы распачалі сэрыю дзеяньняў з мэтай дамагчыся ад уладаў інфармацыі пра месца яго пахаваньня і выдачы цела. Апошняе спатканьне **Любові Кавалёвай** з асуджаным на пакараньне сьмерцю сынам адбылася ў сьледчым ізалятары (СІЗА) КДБ 11 сакавіка 2012 году. Маці пакаранага і праваабаронцы лічаць, што Ўладзіслаў быў пакараны ў пэрыяд з 12 па 15 сакавіка. Дакладнай інфармацыі няма.

Проста на прэсавай канферэнцыі Любоў Кавалёва падпісала заявы ў адрас дэпартамэнту выкананьня пакараньняў МУС, КДБ і старшыні Вярхоўнага суду з просьбай паведаміць, які орган выканаў сьмяротны прысуд у дачыненьні да ейнага сына. Як выказаў здагадку **праваабаронца Раман Кісьляк**, гэта можа быць альбо сьледчы ізалятар № 1 МУС, дзе звычайна ўтрымліваюцца “сьмяротнікі”, альбо СІЗА КДБ, у якім утрымліваўся Кавалёў. Наступным дзеяньнем, паводле слоў Кісьляка, стане патрабаваньне аб раскрыцьці месца пахаваньня Кавалёва.

**22.03.2013** У Віцебску затрыманыя сябры партыі БНФ — цяперашні **старшыня абласной арганізацыі Леанід Аўтухоў** і **намесьнік** гэтай структуры **Кастусь Смолікаў**. У гандлёвым цэнтры «Эвіком» яны раздавалі ўлёткі з запрашэньнем на мітынг 25 сакавіка. Актывістаў адвезьлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, суд над імі прызначаны на 25 сакавіка.

На 25-га сакавіка ў Віцебску замаўлялі два мітынгі. Адзін зь іх — ад імя актывістаў партыі БНФ. Паводле Леаніда Аўтухова, адказ на сваю заяву БНФ ён не атрымаў.

**25.03.2013 Актывісты БХД Стас Лаўрэнаў** і **Аляксей Кішчук** затрыманыя ў Віцебску каля будынку суду Кастрычніцкага раёну, дзе праходзіў працэс над **актывістамі Партыі БНФ Кастусём Смолікавым** і **Леанідам Аўтуховым**. Актывісты спачатку прыйшлі ў Парк чыгуначнікаў, дзе зьбіраліся правесьці мерапрыемства да Дня Волі. Калі даведаліся, што ў гэты момант у судзе Кастрычніцкага раёну праходзіць суд над актывістамі Кастусём Смолікавым і Леанідам Аўтуховым, то вырашылі падтрымаць іх.

Актывісты рушылі да суду, аднак, не праехаўшы і 300 мэтраў, аўто, у якім яны ехалі, было спыненае ДАІ. Іх адвезьлі ў Кастрычніцкі РАУС Віцебску. Хлопцаў




пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны, пасьля чаго адпусьцілі, уцямна не паведаміўшы наконт прычыны затрыманьня.

**25.03.2013 Актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленку** затрымалі ўвечары. На ноч яго адправілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня. На яго склалі два пратаколы пра адміністрацыйнае парушэньне – спачатку за пераход вуліцы ў неналежным месцы, потым – за нецэнзурную лаянку.

**28.03.2013 Кіраўнік абласной структуры руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў** атрымаў адказ зь Міністрэрства ўнутраных спраў на свой зварот, накіраваны ў МУС у сувязі з чарговай адмовай віцебскіх міліцыянтаў чарговую абслугоўваць масавую акцыю. Паводле адпаведнага рашэньня гарвыканкаму, дазвол на акцыю можна атрымаць, толькі маючы адпаведную дамову зь міліцыяй. Адказ МУС складаецца зь пяці сказаў: "Не, міліцыянты зрабілі ўсё слушна, парушэньняў заканадаўства няма", – патлумачыў Хрыстафор Жаляпаў.

Такім чынам, Міністэрства ўнутраных справаў ускосна пацьвердзіла, што патрабаваньняў гарвыканкаму актывістам ня выканаць ніколі. І іхнае права на публічнае выказваньне сваёй грамадзянскай пазыцыі так і застанецца нерэалізаваным.

**03.04.2013** Заяву на імя старшыні Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь Валянціна Шаева жыхар Віцебску **Пётар Іваноў** дасылаў наконт падзеяў, што адбыліся больш за год таму. Ён прасіў узбудзіць у дачыненьні да асоб у цывільным, якія зьдзяйсьнялі незаконны, на яго думку, агляд яго жытла, крымінальную справу паводле артыкулаў 202 («Парушэньне недатыкальнасьці жытла і іншых законных уладаньняў грамадзян») і 426 («Перавышэньне ўлады ці службовых паўнамоцтваў») крымінальнага кодэксу.

Старшыня СК Шаеў пераслаў заяву спадара Іванова ў сьледчы камітэт па Віцебскай вобласьці, стуль яна была перанакіраваная ў Кастрычніцкі (гораду Віцебску) райаддзел СК. Менавіта апошні і займаўся праверкай паводле заявы. Вынікам праверкі стала пастанова аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы «ў сувязі з адсутнасьцю ў дзеяньнях супрацоўнікаў АУС адміністрацыі Кастрычніцкага раёну г. Віцебску Віцебскага аблвыканкаму складу злачынства».

Інцыдэнт з аглядам-«ператрусам» адбыўся 7 студзеня 2012 году. Напярэдадні Пётар Іваноў раздаваў улёткі на вуліцах Віцебску ў падтрымку Сяргея Каваленкі, быў затрыманы міліцыянтамі і зьмешчаны ў ізалятар часовага ўтрыманьня. Міліцыянты, якія зьдзяйсьнялі затрыманьне, напісалі ў пратаколе, што Пётар Іваноў нібыта заклікаў грамадзян да ўдзелу ў незаконных дзеяньнях. Пазьней зьявіўся новы пратакол, дзе пазначалася іншая прычына затрыманьня: нецэнзурная лаянка. Менавіта за лаянку, а не за раздачу ўлётак, потым і судзілі адстаўнога афіцэра ды

пакаралі штрафам у памеры 4-х базавых велічынь.

Як сцьвярджае Пётар Іваноў, згоды на агляд сваёй кватэры ён не даваў. Падчас агляду прасіў тых, хто яго ладзіў, назваць свае дадзеныя, але тыя адмовіліся. Сам жа агляд, лічыць марскі афіцэр у адстаўцы, рабіўся ў выглядзе ператрусу, бо адчынялі дзьверцы шафаў, капаліся ў рэчах. Пратакол агляду гаспадару жытла не паказалі, копію пратаколу ня выдалі.

Намесьнік начальніка райаддзелу СК Ішчук, чый подпіс стаіць пад пастановай аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы, паведаміў аўтару заявы, што супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС Віцебску А. Комар і А. Паўлаў, якія зьдзяйсьнялі агляд жытла, дзейнічалі паводле заканадаўства. Перад пачаткам агляду была ўзятая санкцыя пракурора, былі запрошаныя панятыя. Такім чынам, усё нібыта адбывалася ў адпаведнасьці з артыкулам 10.13 працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

Артыкул 10.13 ПВКаАП, сапраўды, дапускае правядзеньне агляду жытла з санкцыі пракурора нават бяз згоды ўласьніка ці асобы, якая ў ім пражывае. Але такі агляд ажыцьцяўляецца, толькі калі ёсьць «наяўнасьць дастатковых падставаў меркаваць, што падчас агляду могуць быць выяўленыя сьляды адміністрацыйнага правапарушэньня, іншыя матэрыяльныя аб'екты, высьветленыя іншыя абставіны, што маюць значэньне для справы аб адміністрацыйным правапарушэньні».

Пётар Іваноў быў пакараны судом паводле артыкулу 17.1 КаАП («Дробнае хуліганства») на падставе пратаколу, складзенага супрацоўнікамі праваахоўных органаў, і іх сьведкавых паказаньняў. Афіцэр у адстаўцы нібыта нецэнзурна лаяўся ў публічным месцы. Навошта быў патрэбны «агляд» жытла пры абвінавачаньні паводле такога артыкулу, якія «сьляды адміністрацыйнага правапарушэньня» ці «іншыя матэрыяльныя аб'екты, што маюць значэньне для справы», гэты «агляд» мог бы дапамагчы выявіць, – Пятру Іванову не патлумачылі.

**12.04.2013** Віцебскія актывісты атрымалі ліст ад "хуткай дапамогі", якая адмовілася ад дзяжурства на пікеце 12 красавіка. Прычына адмовы – занятасьць мэдыкаў на спаборніцтве па боксе.

Віцебскія актывісты **Аляксей Гаўруцікаў**, аднапартыец палітвязьня Мікалая Статкевіча, і **кіраўнік абласной структуры руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў** хацелі правесьці 12 красавіка пікет салідарнасьці з палітзьняволенымі, а таксама супраць зьбядненьня беларускага насельніцтва. Заяўку падалі ў Першамайскую раённую адміністрацыю, бо хацелі правесьці акцыю ў адмыслова вызначаным для гэтага месцы – Парку 30-годзьдзя ВЛКСМ на тэрыторыі Першамайскага раёну.

Раённая адміністрацыя адмовіла, спаслаўшыся на рашэньне Віцебскага гарвыканкаму. Згодна зь ім, акцыі дазваляюцца толькі ў тым выпадку, калі заключаныя дамовы з ЖКГ, лекарамі і супрацоўнікамі міліцыі. Служба хуткай дапамогі ўхілілася ад гэтага. Адпаведна, раённая адміністрацыя чарговы раз працытавала рашэньне Віцебскага гарвыканкаму "Аб масавых мерапрыемствах" і адмовіла актывістам.

Такім чынам, адхіленая чарговая заяўка прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў, якім за апошнія 3 гады афіцыйна не дазволілі правесьці ніводнай акцыі. Адказныя


Леанід Аўтухоў

службы адмаўляюцца ад заключэньня дамоваў з апазыцыянэрамі ўсемагчымымі способамі.

**19.04.2013** Намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна забараніла партыі БНФ правядзеньне мітынгу, прымеркаванага да 27-х угодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Заяўку на правядзеньне мерапрыемства падаваў **кіраўнік абласной партыйнай арганізацыі Леанід Аўтухоў**. Прычына забароны мітынгу: невыкананьне заяўнікамі патрабаваньняў рашэньня Віцебскага гарвыканкаму № 881.

**22.04.2013 Старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў** зьвярнуўся да старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца са скаргай на дзеяньні адказных асобаў, якія дапусьцілі руйнаваньне гістарычнага будынку ў вёсцы Смаляны Аршанскага раёну. У скарзе ёсьць і канкрэтныя прапановы, як зрабіць гэтую вёску «турыстычнай Мэкай усходняй Беларусі».

Для гэтага ёсьць усе падставы, бо «колькасьць і каштоўнасьць помнікаў у Смалянах нават большая, чымсьці ў такіх турыстычных цэнтрах краіны, як Мір і Нясьвіж», піша Леанід Аўтухоў. Таму партыйцы просяць «неадкладна прыняць праграму па ахове і рэстаўрацыі ўсіх помнікаў, што знаходзяцца ў Смалянах і правесьці археалягічныя дасьледаваньні комплексу дамініканскага кляштару ў Смалянах з абавязковым прыцягненьнем адмыслоўцаў Акадэміі навук».

**24.04.2013 Леаніда Аўтухова** выклікалі ў Кастрычніцкі райаддзел міліцыі Віцебску, дзе азнаёмілі з пратаколам пра парушэньне заканадаўства аб СМІ. “Мяне вінавацяць у тым, што была перавышаная колькасьць асобнікаў партыйнага бюлетэня “Магістрат”, якія мы раздавалі 22 сакавіка. Але тыя асобнікі ніхто пры нас не лічыў, і адкуль узялася выніковая лічба, мне невядома. Акрамя гэтага, на сёньняшні дзень усе асобнікі мусілі быць зьнішчаныя. Аднак – не, яны фігуруюць у маёй новай адміністрацыйнай справе”, - паведаміў **старшыня Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ**.

У міліцыі Аўтухову загадалі даць тлумачэньні. Кажа актывіст: “Я так і напісаў: на бюлетэні “Магістрат” пазначаны наклад – 299 асобнікаў, гэта не пэрыядычнае выданьне, і яно не падлягае абавязковай рэгістрацыі. Як лічылі тыя асобнікі, што ў нас былі, я ня ведаю. Гэта пры нас не рабілі. Стос бюлетэняў забралі, а потым прыйшоў міліцыянт і сказаў таму, хто складаў паперы: “Пішы -1 080 асобнікаў”.

Падзеі, пра якія распавядае спадар Аўтухоў, здарыліся яшчэ 22 сакавіка, напярэдадні Дня Волі. У той дзень яго разам з аднапартыйцам Кастусём Смолікавым затрымалі ў гандлёвым цэнтры “Эвіком”. На абодвух склалі пратаколы за парушэньне заканадаўства аб масавых акцыях: маўляў, у бюлетэні “Магістрат” было запрашэньне на мітынг 25 сакавіка, забаронены мясцовымі ўладамі. Цяпер старшыню віцебскай арганізацыі партыі БНФ зноў чакае суд.


Кастусь Смолікаў

**25.04.2013** У Віцебску забароненыя меркаваныя акцыі да ўгодкаў Чарнобыля. Мясцовыя дэмакратычныя актывісты падавалі заяўкі на імпрэзы, прысьвечаныя памяці ахвяраў чарнобыльскай трагедыі — у месцах, адмыслова вызначаных для масавых акцыяў раённымі адміністрацыямі. Мітынг зьбіраліся арганізаваць **кіраўнік абласной структуры руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** — у парку імя 30-годзьдзя ВЛКСМ, пікет рыхтаваў **сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў** — у Парку культуры і адпачынку «Мазурына».

Прычына адмоваў ва ўсіх адказах з раённых адміністрацыяў аднолькавая — гэта адсутнасьць дамоваў з мэдыкамі і міліцыяй на абслугоўваньне акцыі. Дамовы ўдалося заключыць толькі з камунальнікамі, астатнія адказныя структуры адмовілі заяўнікам на розных падставах.

**30.04.2013** На **сябра КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава** 30 красавіка складзены пратакол пра парушэньне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Міліцыянты выклікалі яго ў Кастрычніцкі РАУС, каб зафіксаваць правапарушэньне, якога яны на свае вочы ня бачылі – пратакол складзены на падставе здымкаў, выкладзеных у інтэрнэце. У пастарунку размова вялася пра акцыю 26 красавіка, на ўгодкі аварыі ў Чарнобылі.

У той дзень Ян Дзяржаўцаў разам з паплечнікам па партыі Віталём Каваленкам выйшлі на вуліцу Замкавую да помніку П. Машэраву з плякатамі "Будаваць АЭС бяз згоды народу можа толькі вораг Беларусі" і "Дыктатар, пабудуеш Астравец — пажнеш Чарнобыль!". Міліцэйская машына пад'ехала ўжо тады, калі актывісты згарнулі плякаты і зьбіраліся сыходзіць.

Супрацоўнікі міліцыі папярэдзілі, што рзгортваньне плякатаў будзе кваліфікаванае як несанкцыянаваная акцыя, але намесьнік начальніка ўправы аховы правапарадку і прафіляктыкі Віцебскага аблвыканкаму Андрэй Іваноў адмыслова папрасіў паказаць, што на іх напісана – маўляў, "каб паглядзець, ці няма там заклікаў да зьвяржэньня дзяржаўнага ладу".

**03.05.2013** Віцебскага **актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленку** выклікалі ў інспэкцыю Першамайскага раёну Віцебску. Там яму вынесьлі другое папярэджаньне. «Мне вынесьлі папярэджаньне за той самы эпізод ад 25 сакавіка, калі мяне абвінавацілі ў тым, што я нібыта ня ў тым месцы перайшоў дарогу. Цяпер яны заяўляюць, што я нібыта яшчэ і нецэнзурна лаяўся на міліцыянтаў», - заявіў Сяргей Каваленка.

Былы палітвязень спадзяецца абскардзіць папярэджаньні: «Я буду спрабаваць абскардзіць гэтыя папярэджаньні, але праблема ў тым, што нават копіі гэтых папер міліцыянты не даюць. Мне нават не даюць магчымасьці іх сфатаграфаваць».

**05.05.2013** Усьлед за віцебскім **абласным кіраўніком партыі БНФ Леанідам Аўтуховым** у міліцэйскі пастарунак быў выкліканы яго аднапартыец **Кастусь Смолікаў**.

Там, як раней і на Аўтухова, на яго склалі пратакол аб парушэньні Закону аб СМІ. Актывістаў абвінавачваюць у тым, што была перавышаная дапушчальная законам колькасьць партыйнага бюлетэню «Магістрат», які яны раздавалі мінакам 22 красавіка.

Згодна з заканадаўствам, наклад пэрыядычнага выданьня, калі яно не зарэгістраванае ўладамі, ня можа быць большым за 299 асобнікаў. Самі актывісты ня ведаюць, колькі асобнікаў выданьня ў іх канфіскавалі падчас затрыманьня, бо, паводле іх слоў, пры іх бюлетэні ніхто не лічыў.

**06.05.2013** Каб скласьці пратакол на **сябра КХП-БНФ Віталя Каваленку**, супрацоўнікі міліцыі прыехалі да яго на працу. Копію пратаколу яму не ўручылі, сказалі, што вышлюць па пошце. Брата **былога палітвязьня Сяргея Каваленкі** абвінавачваюць у правядзеньні несанкцыянаванага пікету ў цэнтры Віцебску 26 красавіка.

Падчас самой акцыі міліцыянты адсутнічалі, таму пратакол складалі на падставе фотаздымкаў пікету, што зьявіліся ў Інтэрнэце.

**12.05.2013 Каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" Тацьцяна Севярынец** атрымала адказ зь Міністэрства аховы здароўя Беларусі за подпісам намміністра Дзьмітрыя Піневіча на калектыўны зварот з заклікам прыняць меры да скарачэньня колькасьці абортаў у краіне. У адказе адзначаецца, што ўва ўсіх жаночых кансультацыях і моладзевых цэнтрах працуюць габінэты па плянаваньні сям'і, рэалізуецца Нацыянальны плян дзеяньняў па забесьпячэньні гендэрнай роўнасьці на 2011-2015 гады, які мусіць узьняць прэстыж сям'і і сфармаваць усьвядомленае бацькоўства.

Намесьнік міністра таксама адзначыў, што ў Беларусі падрыхтоўка да аборту займае ня менш за сем дзён, а значыць жанчыны заўсёды маюць магчымасьць адмовіцца ад яго правядзеньня. А лекары, піша Піневіч, заўжды маюць права не рабіць аборты, калі гэта супярэчыць іх поглядам і не пагражае жыцьцю пацыенткі. Неабходнасьць жа згоды бацькі на правядзеньне аборту намесьнік міністра лічыць не патрэбнай, бо гэта, паводле яго словаў, парушыць гендэрную роўнасьць.

"Акрэсьленыя ў адказе пункты ня маюць нічога агульнага з плянаваньнем сям'і. Дый самі габінэты па плянаваньні сям'і працуюць толькі фармальна і ня маюць ніякіх патрэбных матэрыялаў. Меркаваньне бацькі зачатага дзіцяці абсалютна ігнаруецца. Мяркуючы з адказу, дзяржава не зьбіраецца рабіць нічога, каб спыніць забойствы і выміраньне беларусаў", - адзначыла Тацьцяна Севярынец.

**13.05.2013** Правёўшы пяць сутак у Віцебскім ізалятары часовага ўтрыманьня (ІЧУ) за раздачу ўлётак з запрашэньнем на акцыю 25 сакавіка, **абласны кіраўнік партыі БНФ Леанід Аўтухоў** вымушаны быў зьвярнуцца да лекараў. Паводле палітыка, у ІЧУ ён быў дастаўлены зусім здаровым, а як выйшаў стуль, лекары паставілі яму дыягназ «інфэкцыйная ангіна». На думку Леаніда Аўтухова, інфэкцыю ён, найхутчэй, падчапіў у ІЧУ, таму папрасіў санстанцыю праверыць на адпаведнасьць санітарным нормам умовы ўтрыманьня грамадзян у ізалятары.

Цяпер палітык атрымаў адказ на свой зварот. Намесьнік галоўурача Віцебскага абласнога цэнтру гігіены Аляксей Адзееў паведаміў, што быў праведзены агляд санітарна-гігіенічнага стану ІЧУ. Якіх-кольвек парушэньняў ня выяўлена: камэры


Ганна Папкова

абсталяваныя ўсім неабходным, тэмпэратура ў іх на момант абсьледаваньня складала +20 – +22°C.

**18.05.2013** Жыхары некалькіх дамоў, што знаходзяцца побач з плошчай Перамогі, адрэагавалі на мерапрыемствы газпромаўскага карпаратыву «Факел», што прайшлі літаральна пад іх вокнамі: яны зьвярнуліся да кіраўніка краіны з калектыўным лістом. Каля 50-ці чалавек, якія падпісалі ліст, просяць прэзыдэнта «як гаранта Канстытуцыі і законнасьці ў краіне» «цьвёрдай рукой» разабрацца ў сытуацыі і забараніць правядзеньне забаўляльных імпрэзаў на цэнтральнай плошчы Віцебску пасьля 23:00 гадзін. Копіі ліста накіраваныя таксама старшыням гар- і аблвыканкаму.

«16 і 17 траўня 2013 году ў Віцебску ў межах карпаратыўнага фэстывалю ААТ “Газпром” “Факел” на плошчы Перамогі з 20:30 да 2:00 ночы ладзіліся канцэрт рок-гуртоў і дыскатэка з выкарыстаньнем наймагутнейшых гукаўзмацняльных прыладаў. У выніку чаго ўсе жыхары навакольных шматкватэрных дамоў, населеных пераважна пажылымі і хворымі людзьмі, былі падвергнутыя моцнаму гукавому ўзьдзеяньню. Цягам больш як 5-ці гадзін людзі вымушаныя былі цярпець гучную музыку, ня спаць, пакутаваць ад падвышанага крывяного ціску. Такім чынам, многія жыхары, якія пражываюць у раёне плошчы Перамогі ў горадзе Віцебску, былі падвергнутыя шматдзённым і шматгадзінным катаваньням», – паведамляюць аўтары ліста Лукашэнку.

Фэстываль «Газпрому» завяршыўся, але грамадзяне, якім лёс наканаваў жыць каля віцебскай плошчы Перамогі, ужо з жахам чакаюць наступнай культурнай падзеі – «Славянскага базару». Раней яны неаднаразова зьвярталіся да мясцовых уладаў з просьбай спыніць зьдзек зь іх, што распачаўся ад моманту, як 20 гадоў таму Віцебск быў абвешчаны «культурнай сталіцай Беларусі» і сталі праводзіцца «Славянскія базары». Мясцовыя чыноўнікі усе ранейшыя звароты людзей, якія змагаюцца за сваё здароўе, праігнаравалі.

**22.05.2013** Студэнтка Віцебскага дзяржаўнага мэдычнага ўнівэрсытэту **Ганна Папкова** адмовілася супрацоўнічаць з КДБ. Пра гэта яна распавяла ў аўтаінтэрвію і выклала відэа ў інтэрнэт. Супрацоўнік КДБ прыйшоў да дзяўчыны ва ўнівэрсытэт і паспрабаваў завербаваць. Ёй прапаноўвалася “стучаць” на чалавека, які мае дачыненьне, на думку КДБ, да выбуху ў Віцебску. Гаворка вядзецца пра выбух, які прагрымеў ля будынку КДБ у Віцебску 11 лістапада мінулага году. Ніхто не пацярпеў. У злачынстве абвінавачваецца 42-гадовая жанчына, жыхарка Віцебску.

**26.05.2013 Абласны старшыня партыі БНФ Леанід Аўтухоў** зьвярнуўся да кіраўнікоў навучальных установаў Віцебску з заявамі, у якіх прасіў даць маг-

чымасьць інфармацыйна-прапагандысцкай групе партыі правесьці сустрэчы з работнікамі ўстановаў. Вынік звароту: на ніводную з 54-х заяў не было атрымана станоўчага адказу. Пры гэтым высьветлілася, што працаўнікі на ніве асьветы дрэнна ведаюць законы.

Леанід Аўтухоў паведаміў, што амаль палова дырэктараў школ, гімназіяў і каледжаў ды рэктараў ВНУ тым ці іншым чынам парушылі закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб». Так, у адказах, атрыманых з 15-ці вучэбных установаў, адсутнічае інфармацыя аб парадку іх абскарджаньня. Двое кіраўнікоў – дырэктар сярэдняй школы № 25 і рэктар мэдычнага ўнівэрсытэту – прадэманстравалі зьняважлівае стаўленьне да беларускай мовы: на заявы, напісаныя па-беларуску, яны адказалі не на мове звароту, як таго патрабуе згаданы закон, а па-расейску. І, нарэшце, 9 дырэктараў наогул праігнаравалі заяву старшыні БНФ – у вызначаныя законам тэрміны ад іх не было атрымана ніякіх адказаў.

Факты ўхіленьня ад разгляду заяваў і нядача на іх адказаў асабліва абурылі Леаніда Аўтухова. Ён зьвярнуўся ў адміністрацыі раёнаў, на тэрыторыі якіх разьмешчаныя адпаведныя навучальныя ўстановы, з просьбай распачаць працэсуальныя дзеяньні, прадугледжаныя Працэсуальна-выканаўчым кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэньнях, і ў выпадках, калі правапарушэньні будуць выяўленыя, прыцягнуць вінаватых службовых асоб да адказнасьці. Аналягічныя просьбы былі накіраваныя і ў раённыя пракуратуры.

Аднак ані ўлады, ані супрацоўнікі пракуратур ніякіх парушэньняў у дзеяньнях нядбайных дырэктараў школаў і каледжаў збольшага ня ўбачылі. Маўляў, вінаватыя не яны, а дрэнна спрацавала пошта: у адных выпадках заказных лістоў на іх адрас навучальныя ўстановы зусім не атрымлівалі, у іншых – лісты атрымалі і адказалі на іх, аднак чамусьці адказы недзе згубіліся на шляху да адрасата.

Зрэшты, у адміністрацыі аднаго з раёнаў Віцебску (Чыгуначнага) прызналі, што парушэньні з боку дырэктараў сярэдніх школаў № 9 і № 27 і гімназіяў № 2 і № 4 усё-такі мелі месца. І нават паведамілі, што гэтыя службовыя асобы «прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасьці». Пры тым – ані слова пра прыцягненьне вінаватых да адказнасьці ў адпаведнасьці з адміністрацыйным кодэксам.

Не сьпяшаецца і пракуратура Чыгуначнага раёну: пракурор паведаміў Аўтухову, што ягоная заява накіраваная на разгляд у аддзел адукацыі раённай адміністрацыі, і пасьля гэтага – цішыня. Дык што дырэктарам школ – правапарушальнікам наўрад ці пагражаюць штрафы ў памеры ад 400 тысяч да 2 мільёнаў, прадугледжаныя кодэксам за невыкананьне закону «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», бо адміністрацыйныя спагнаньні могуць быць накладзеныя цягам двух месяцаў з моманту зьдзяйсьненьня правапарушэньняў, цягам якога могуць; па заканчэньні гэтага тэрміну справы ў адносінах да іх мусяць быць спыненыя…

**02.06.2013** Зьезд аб'яднаньня сябраў аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" Віцебшчыны быў ледзь не сарваны, пасьля таго як прадстаўнікі з вобласьці ня змаглі даехаць у Віцебск. У выходны дзень на працу тэрмінова і без папярэджаньня былі выкліканыя сябры БХД з Наваполацку і Лепеля.


Віталь Рымашэўскі

**Сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі**: "Адбылася правакацыя з боку рэжыму, таму што ў дзень правядзеньня віцебскага абласнога сходу людзей павыклікалі на працы, хоць сёньня выходны, тэрмінова зь некалькіх раённых арганізацыяў. Зразумела, толькі з той мэтай, каб яны ня трапілі на гэты абласны сход віцебскай гарадзкой арганізацыі. Вось такім чынам чыняцца перашкоды. Безумоўна, ва ўлады няма намеру рэгістраваць рэгіянальныя аб'яднаньні, але тым ня менш мы сходы ладзім, бо дзейнасьць БХД цалкам легальная, і гэтыя сходы - яшчэ адзін доказ таго, што БХД не рэгіструюць з-за нейкіх юрыдычных падстаў".

**06.06.2013** Па сканчэньні чатырох месяцаў з моманту ўзбуджэньня крымінальнай справы па факце зьбіцьця **сябра партыі БНФ Аляксея Гудзіліна** ён зьвярнуўся ў сьледчы камітэт, каб даведацца, як ідзе расьсьледаваньне справы. Высьветлілася: справу пасьпелі прыпыніць, прычым афіцыйна праінфармаваць пра гэта пацярпелага чамусьці не палічылі патрэбным. Затое літаральна на наступны дзень пасьля накіраваньня звароту ў СК была прынятая пастанова аб аднаўленьні справы, актывіст атрымаў пра гэта адпаведнае паведамленьне.

**06.06.2013** Надыход каляндарнага лета моладзь Віцебску адзначыла флэш-мобам «Мокрыя войны», падчас якога змагалася ў гарадзкіх фантанах. Акцыя была арганізаваная праз сацыяльную сетку «ВКонтакте». Флэшмоб працягваўся паўгадзіны, а затым мокрую моладзь, якая весялілася, разагналі байцы палка міліцыі спэцыяльнага прызначэньня, якія прыбылі да фантанаў на двух аўтамабілях.

Удзел у разагнанай спэцназаўцамі акцыі бралі больш за сотню падлеткаў. Вадзяныя бітвы адбываліся ў фантанах на плошчы Перамогі.

**10.06.2013** Віцебскі гарвыканкам прынёс выбачэньні жыхарам дамоў, размешчаных побач з плошчай Перамогі, за канцэрты, якія да глыбокай ночы ладзіліся пад іх вокнамі падчас фэстывалю «Факел». Аднак цешыцца з таго, што цяпер пасьля 23:00 тых, хто жыве паблізу самай вялікай плошчы ў Беларусі, ня будзе турбаваць шум ад гукаўзмацняльнай апаратуры, не выпадае.

Тыя, каму «пашчасьціла» жыць недалёка ад плошчы Перамогі ў Віцебску, спадзяваліся, што ў справу ўмяшаецца асабіста Аляксандар Лукашэнка – менавіта да яго яны зьвярнуліся, каб ён «цьвёрдай рукой» аднавіў іх правы і законныя інтарэсы, а ў гарадзкі і абласны выканкамы накіравалі копію свайго звароту. Але прэзыдэнт ня стаў разьбірацца ў сытуацыі. З адміністрацыі прэзыдэнта іх зварот быў перанакіраваны ў Віцебскі аблвыканкам, а адтуль – у гарвыканкам.

Адказ гарвыканкаму: Забаўляльныя імпрэзы позна ўвечары на плошчы будуць


Віктар Жаркоў

праводзіцца і надалей. Праўда, як запэўніў намесьнік старшыні Ўладзімер Шлома, толькі ў выключных выпадках – у дні дзяржаўных сьвятаў і падчас фэстываляў «Славянскі базар». Таксама «сіла гучаньня музычнай апаратуры будзе скарэктаваная з улікам спэцыфікі разьмяшчэньня жылых дамоў і з улікам Вашых пажаданьняў», – пабяцаў спадар Шлома аўтарам калектыўнай скаргі.

Аўтары звароту да ўладаў, якія прасілі больш не праводзіць канцэрты на плошчы Перамогі позна ўвечары і ўначы, такім адказам, вядома, не задаволеныя.

**25.06.2013** Тры заяўкі на адзіночныя пікеты – тры забароны на іх правядзеньне. Гэтак сьцісла можна апісаць гісторыю нядаўніх зносін віцебчука **Віктара Жаркова** з раённымі адміністрацыямі гораду над Дзьвіной. Віктар Жаркоў падаў скаргі на чыноўнікаў, якія пазбавілі яго магчымасьці праінфармаваць жыхароў пра парушэньне ягоных правоў з боку міліцыянтаў, у суды ўсіх трох раёнаў Віцебску.

**26.06.2013** Службоўцы віцебскага абл- і гарвыканкамаў, абласнога і гарадзкога саветаў дэпутатаў не задаволілі просьбу **старшыні партыі БНФ** вобласьці **Леаніда Аўтухова** аб тым, каб сябры партыі маглі прысутнічаць на паседжаньнях згаданых органаў улады. Прычына: маўляў, няма прававых падставаў для пастаяннага ўдзелу прадстаўніка партыі БНФ у паседжаньнях.

Згодна з законам «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусь», «сэсія Савету праводзіцца адкрыта і публічна». Вызначае гэты закон і тое, хто можа прысутнічаць на паседжаньнях выканкамаў: «На паседжаньнях выканаўчага і распарадчага воргану ва ўстаноўленым парадку могуць прысутнічаць прадстаўнікі іншых дзяржаўных ворганаў і іншых арганізацыяў, ворганаў тэрытарыяльнага грамадзкага самакіраваньня, а таксама грамадзяне».

Такім чынам, калі, як абвяшчае закон, усё «адкрыта і публічна», калі «могуць прысутнічаць… грамадзяне», дык незразумела, якія яшчэ «прававыя падставы» патрэбныя былі кіраўнікам саветаў і выканкамаў, каб задаволіць просьбу лідэра БНФ.

## Маніторынг судовых працэсаў


Алена Семенчукова

**04.07.2012** У Віцебску судзілі **маладафронтаўца Яўгена Гуцалава**. Судзьдзя Іна Грабоўская прызнала актывіста вінаватым у правапарушэньнях, прадугледжаных артыкуламі 17.1 і 23.4 КаАП. За брыдкаслоўе Яўгену Гуцалаву прызначылі штраф у памеры 3 базавых велічынь. За тое, што падчас затрыманьня ён нібыта не падпарадкаваўся патрабаваньням супрацоўнікаў аховы правапарадку, яго пакаралі штрафам у 21 базавую велічыню. Такім чынам, агульная сума, якую сябра "Маладога Фронту" павінен сплаціць у бюджэт дзяржавы, складае 24 "мінімалкі" - 2,4 мільёна рублёў.

Каб падтрымаць Яўгена, яго паплечнікі, грамадзянскія актывісты і праваабаронцы прыйшлі ў Кастрычніцкі райсуд нараніцы. Аднак даведацца пра час пачатку судовага паседжаньня ім не ўдалося. Толькі калі суд ужо распачаўся, выпадкова высьветлілася, што Яўген Гуцалаў быў дастаўлены з ізалятару часовага ўтрыманьня, дзе правёў ноч, у будынак суду загадзя, і што судзьдзя Іна Грабоўская вырашыла праводзіць судовы разбор у сваім габінэце. У выніку ніхто з тых, хто хацеў прысутнічаць на працэсе, на паседжаньне дапушчаны ня быў.

Яўген Гуцалаў быў затрыманы напярэдадні, падчас распаўсюду ім улётак у падтрымку байкоту парлямэнцкіх выбараў у межах кампаніі "Ігнор-2012". Затрымлівалі маладфронтаўца не звычайныя міліцыянты, а супрацоўнікі АМАПу, якія потым выступалі ў судзе ў якасьці сьведак. Пасьля затрыманьня быў праведзены асабісты надгляд рэчаў актывіста. У ягоным заплечніку былі знойдзеныя ўлёткі і нацыянальны сьцяг, аднак канфіскоўваць іх ня сталі.

Рашэньне, вынесенае судзьдзёй Грабоўскай, Яўген Гуцалаў лічыць несправядлівым ды палітычна матываваным.

**05.07.2012** Суд Кастрычніцкага раёну Віцебску разгледзеў справу **актывісткі "Эўрапейскай Беларусі" Алены Семенчуковай**. Судзьдзя Іна Грабоўская прызнала дзяўчыну вінаватай ў парушэньні артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне арганізацыі або правядзеньня масавага мерапрыемства) і пакарала яе 10-дзённым адміністрацыйным арыштам. Алена Семенчукова заявіла, што вырак судзьдзі лічыць несправядлівым.

Такому лютаму пакараньню судзьдзя Грабоўская падвергнула актывістку за распаўсюд улётак з заклікам байкатаваць маючыя адбыцца парлямэнцкія выбары. На думку судзьдзі, рух дзяўчыны па ходніках з раздачай друкаваных матэрыялаў - гэта ня што іншае як пікет, на правядзеньне якога трэба было атрымаць адмысловы дазвол ад уладаў.

Аргумэнт Алены Семенчуковай, агучаны ў залі суду, што пікетаваньне, згодна з законам аб масавых мерапрыемствах, - гэта мерапрыемства, якое не суправаджаецца шэсьцем (а, раздаючы ўлёткі, яна менавіта ішла, а не стаяла на месцы), судзьдзя пакінула без увагі. Таксама як пакінула без увагі і заяву актывісткі пра тое, што ейны ўчынак не падпадае ні пад адно з азначэньняў масавых мерапрыемстваў у вышэй названым законе, таму караць за парушэньне гэтага закону яе нельга.

Сьведкамі на паседжаньні выступалі выключна супрацоўнікі міліцыі. Алена Семенчукова прасіла дапусьціць да ўдзелу ў працэсе ў якасьці сьведкі ейнага брата Сяргея. Аднак судзьдзя адхіліла гэтае хадайніцтва на той падставе, што Сяргею яшчэ ня споўнілася 18-ці гадоў, таму, маўляў, для яго ўдзелу ў судзе неабходная прысутнасьць пэдагога-псыхоляга. Адкласьці судовы разбор, каб выклікаць у суд псыхоляга, судзьдзя палічыла немэтазгодным. Пры гэтым яна зачытала паказаньні Сяргея, дадзеныя ім у міліцэйскім пастарунку - маладзёна там дапытвалі без якіх-кольвек пэдагогаў.

**20.07.2012** Суд Кастрычніцкага раёну Віцебску 20 ліпеня прызнаў вінаватай чыноўніцу аблвыканкаму Вікторыю Дубко ў сьмерці чалавека на пешаходным пераходзе ў верасьні 2011 году. Абвінавачаная сваёй віны не прызнала. Вырак суду – абмежаваньне свабоды на 5 гадоў без накіраваньня ў папраўчую ўстанову (так званая “хатняя хімія”) з пазбаўленьнем права займацца дзейнасьцю, зьвязанай з кіраваньнем транспартнымі сродкамі (таксама на 5 гадоў). Акрамя таго, вінаватая мусіць выплаціць у якасьці кампэнсацыі маральнай шкоды 40 млн. рублёў жонцы загінулага і 20 млн. рублёў – ягонаму сыну.

Максымальнае пакараньне, якое прадугледжвае артыкул 317 ч. 2 КК (Парушэньне правіл дарожнага руху, якое прывяло да сьмерці чалавека па неасьцярожнасьці), - пазбаўленьне волі на 5 гадоў (а не абмежаваньне, як у выпадку з выракам Дубко). Справу разглядаў судзьдзя Марцірасян. Сваякі загінулага, якія выступалі ў судзе ў якасьці пацярпелых, былі абураныя мяккасьцю прысуду і абскардзілі яго у Віцебскім абласным судзе.

Як мяркуе сын загінулага, прызначанае судом пакараньне не адпавядае цяжкасьці і наступствам зьдзейсьненага злачынства. Да таго ж, абвінавачаная так і не прызнала сваёй віны. “Гэты прысуд выклікае ў нас, пацярпелых, толькі ўсьведамленьне безабароннасьці перад самавольствам службовых асобаў дзяржаўных органаў, уключна з пракуратурай і судом, і адназначна выяўляе нецывілізаванасьць дзяржавы, дзе жыцьцё грамадзяніна, загубленае вінаватым чыноўнікам, недапушчальна абясцэненае”, - гаворыцца ў касацыйнай скарзе на прыгавор суду Кастрычніцкага раёну Віцебску.

На думку касатараў, “у дзеяньнях дзяржаўных органаў, якія маюць дачыненьне да вынясеньня прыгавору суду, праглядаецца выразна бачны карупцыйны складнік”. Да такой высновы сын загінулага прыйшоў пасьля таго, як запатрабаваныя ў якасьці матэрыяльнай кампэнсацыі сумы (150 і 100 млн. рублёў) былі зьніжаныя судзьдзёй адпаведна да 40 (жонцы) і 20 млн. (сыну) рублёў. Пры гэтым дачка і ўнук загінулага навогул не атрымаюць аніякай матэрыяльнай кампэнсацыі.

Раней абвінавачаная часткова кампэнсавала маральную шкоду, нанесеную сваякам загінулага ў здарэньні. Яна выплаціла па паўтары мільёна рублёў жонцы і сыну



Яўген Гуцалаў

загінулага. Суд прызнаў гэты факт зьмякчаючай віну акалічнасьцю.

Спадарыня Дубко зьбіла пешахода ўвечары 29 верасьня 2011 году на нерэгуляваным пераходзе (цяпер на ім стаіць сьвятлафор) на вуліцы Смаленскай (раён дому №11-5) у Віцебску. Паводле вынікаў сьледчага экспэрымэнту, аўтамабіль "Volkswagen Passat", якім кіравала Дубко, рухаўся з боку вуліцы Праўды ў накірунку праспэкту Фрунзэ з хуткасьцю 50,7 км/гадз. па крайняй правай паласе. Агляд зьлева захінаў "мінівэн", які ехаў па суседняй левай паласе. Перад самай "зебрай" "мінівэн" рэзка затармазіў, прапускаючы пешахода. Дубко затармазіць не пасьпела і наехала на чалавека.

Вікторыя Дубко працавала памочніцай намесьніка старшыні Віцебскага аблвыканкаму Алега Мацкевіча. Зыходзячы з таго, што яе прозьвішча дагэтуль фігуруе на сайце аблвыканкаму, працуе і зараз.

**05.08.2012** У Віцебскім абласным судзе разглядалася касацыйная скарга **сябра "Маладога Фронту" Яўгена Гуцалава**, які 4 ліпеня за распаўсюд улётак з заклікам байкатаваць маючыя адбыцца выбары судзьдзёй Кастрычніцкага райсуду Віцебску Інай Грабоўскай быў пакараны штрафам. Судовае паседжаньне ў аблсудзе працягвалася толькі тры хвіліны. Скарга актывіста задаволеная не была. Цяпер Яўген Гуцалаў мусіць сплаціць дзяржаве 2,4 млн. рублёў.

**13.08.2012** У Гарадку адбыўся разгляд скаргаў Віцебскага абласнога камітэту БСДП (Грамада) і Віцебскай абласной Рады Партыі БНФ на рашэньне Гарадоцкага райвыканкаму па фармаваньні ўчастковых выбарчых камісіяў. Скаргі разглядаў старшыня суду Аляксандар Ляшковіч. Нягледзячы на доказы грубых парушэньняў заканадаўства, на якія зьвярталі ўвагу судзьдзі партыйныя актывісты, скаргі задаволеныя не былі.

Першай разглядалася скарга ад Віцебскай Рады Партыі БНФ. Прадстаўніком партыі у судзе быў **Леанід Аўтухоў**. Спадар Аўтухоў спрабаваў пераканаць суд, што Гарадоцкі райвыканкам ушчамляе права палітычных партыяў удзельнічаць у выбарах, калі адмаўляе сябрам партыі на ўключэньне ў камісіі. Пры гэтым, на думку Леаніда Аўтухова, парушаюцца канстытуцыйныя нормы дэмакратыі, што партыі ўдзельнічаюць у выбарах, тым больш у Савецкай участковай камісіі няма ніводнага прадстаўніка ад партыяў. Але суд гэтыя нормы заканадаўства ня ўзяў пад увагу і не палічыў незаконным рашэньне Гарадоцкага райвыканкаму па фармаваньні Савецкай участковай камісіі № 34, куды не была ўключаная прадстаўніца Партыі БНФ Вольга Аўтухова.

Наступнай разглядалася скарга ад БСДП (Грамада) па фармаваньні Гагарынскай участковай камісіі № 36, куды ня быў уключаны **Леанід Гаравы**. Леанід Гаравы сам



Яніна Лясьнеўская

прадстаўляў інтарэсы партыі ў гэтым судовым працэсе. Напачатку актывіст дэмакратычнага руху заявіў адвод судзьдзі А. Ляшковічу ў сувязі з наяўнасьцю ускосных і прамых абставін у зацікаўленасьці ў выніках разгляду скаргі, бо ягоная жонка – Натальля Ляшковіч працуе намесьнікам старшыні камісіі па справах непаўнагадовых Гарадоцкага райвыканкаму і знаходзіцца ў кадравым рэестры старшыні райвыканкаму, а яе непасрэдная кіраўніца – Надзея Бурунова рыхтавала пытаньне пра фармаваньне ўчастковых камісіяў. Але судзьдзя Ляшковіч не задаволіў гэтае хадайніцтва. Таксама не было задаволенае хадайніцтва аб удзеле перакладчыка ў судовым паседжаньні, бо прадстаўнік заяўніка карыстаўся роднай беларускай мовай, а ўдзельнікі працэсу маюць праблемы зь яе выкарыстаньнем — у першаю чаргу гэта датычылася пракурора.

У сваім выступе ў судзе спадар Гаравы зьвярнуў увагу суду на нормы артыкулу 5 Канстытуцыі і артыкулу 34 Выбарчага кодэксу, што надаюць прыярытэт палітычным партыям у выбарах, у якім адмоўлена сябру БСДП (Грамада). Таксама праваабаронца асабліва спыніўся на парушэньнях выбарчага заканадаўства падчас вылучэньня праз збор подпісаў трох прадстаўнікоў у склад Гагарынскай камісіі, на якія заплюшчыла вочы працоўная група. Гэтыя парушэньні – адсутнасьць запісу пра населены пункт, адсутнасьць назвы вуліцы, дзе пражывае выбаршчык, а таксама нумару кватэры – паводле пастановы Цэнтарвыбаркаму робяць заяву несапраўднай. Таксама ў спадарыні Леванчук не быў пазначаны хатні адрас пражываньня, што робіць заяву аб яе вылучэньні несапраўднай. Несапраўднай была і заява аб вылучэньні Ірыны Раманюгі, дзе выбаршчыкі ня ставілі сваёй рукой дату подпісу заявы, як таго патрабуе выбарчае заканадаўства. Між тым працоўная група на гэтае парушэньне не зьвярнула ўвагі, пазначыўшы ў даведцы, што Раманюга будзе задзейнічаная ў культурным абслугоўваньні выбараў на гэтым участку.

Пракурор у сваіх прамовах трымаўся боку замоўцы і ніякім чынам не карыстаўся нарматывамі выбарчага заканадаўства адносна пытаньня пра заявы грамадзян. Падчас апошняга слова наогул заявіў, што сябры райвыканкаму могуць карыстацца асабістым стаўленьнем да Леаніда Гаравога і не ўключаць яго ў склад камісіі.

Па выніках спрэчак, прадстаўленьня доказаў судзьдзя Ляшковіч прыняў рашэньне не задаволіць скаргу Віцебскага абласнога камітэту БСДП (Грамада) на рашэньне Гарадоцкага райвыканкаму па фармаваньні ўчастковых камісіяў. Пры гэтым судзьдзя ніяк не аргумэнтаваў той факт, што двое сябраў камісіі незаконна ўключаныя ў яе склад на падставе несапраўдных заяў. Таксама судзьдзя не улічыў, што з 17 сапраўдных сябраў камісіі больш за траціну зьяўляюцца дзяржслужачымі Гарадоцкага райвыканкаму.

**22.08.2012** Віцебскі абласны суд разгледзеў скаргу **актывісткі грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Яніны Лясьнеўскай** на пастанову аршанскай судзьдзі Іны Ко-


Пётра Сарапеня

хавай. Адміністрацыйная справа паводле артыкулу 17.8 «Распаўсюд твораў, якія прапагандуюць культ гвалту і жорсткасьці» была спыненая "ў сувязі з заканчэньнем тэрмінаў накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня"». Аднак актывістка лічыць такую фармулёўку фактычна прызнаньнем яе віны, з пастановай яна ня згодная.

Лясьнеўская патрабавала аднавіць яе права на доступ да кампэтэнтнага, незалежнага і бесстароньняга суду, у сувязі з адсутнасьцю ў яе дзеяньнях складу адміністрацыйнага правапарушэньня, а таксама вярнуць рэчавы доказ паводле справы - адзіную кніжку-размалёўку «Мой тата міліцыянт. Што ён робіць на працы?». Судзьдзя Віцебскага абласнога суду Смалякова Ірына Васільеўна аргумэнтаў Лясьнеўскай не пачула, пакінуўшы без увагі і вынікі экспэртызы, якая выявіла сцэны жорсткасьці і гвалту ў кніжцы-размалёўцы. У судзе актывістку падтрымлівалі віцебскія праваабаронцы і актывісты.

**03.09.2012** Чатыры базавыя велічыні або інакш 400 тысяч рублёў штрафу – такі прысуд вынесла судзьдзя суду Чыгуначнага раёну Віцебску Алена Цыганкова мясцоваму **апазыцыянэру Барысу Хамайду** за заклік да байкоту парлямэнцкіх выбараў. Актывіст выйшаў на вуліцу Леніна з плякатам «Незаконным выбарам у незаконную "палатку" - байкот!». Ён каля дзьвюх гадзінаў прастаяў з плякатам каля гэтак званага "сіняга дому", затым апазыцыянэра затрымалі міліцыянты і адвезьлі ў Чыгуначны РАУС, дзе склалі пратакол за несанкцыянаваны пікет, а плякат адабралі.

**17.09.2012** Суд Першамайскага раёну Віцебску не задаволіў скаргу **сябра партыі КХП БНФ Пётры Сарапені** на рашэньне Першамайскай адміністрацыі аб забароне пікету за байкот выбараў. Скаргу разглядала намесьніца старшыні суду Вольга Ільлюшонак. На пачатку паседжаньня Сарапеня заявіў хадайніцтва, каб працэс вёўся на беларускай мове. Судзьдзя адмовіла. Маўляў, мовамі судовых паседжаньняў у нашай краіне зьяўляюцца дзьве – руская і беларуская.

Пасьля рэплікі аб зьневажэньні роднай мовы, якая прагучала з залі, судзьдзя выдаліла зь яе паплечніка Сарапені **Яна Дзяржаўцава**, пасьля чаго Пётра Сарапеня таксама адмовіўся прысутнічаць на паседжаньні. У заяве з просьбай разглядаць скаргу безь яго Пётра Сарапеня адзначыў, што сыходзіць, бо судзьдзя адмовіла яму ў хадайніцтве весьці паседжаньне на беларускай мове, а рускай ён не разумее, "бо размаўляе і думае па-беларуску".

**19.09.2012** Суд Кастрычніцкага раёну Віцебску прызнаў вінаватым **Яўгена Гуцалава** ў парушэньні парадку арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КаАП) і пакараў яго 7 суткамі адміністратыўнага арышту. У судзе Яў-




ген Гуцалаў прызнаў, што насамрэч браў удзел у несанкцыянаваным пікеце, але такім чынам хацеў выявіць свае погляды.

Гуцалаў заявіў падчас судовага паседжаньня ўсяго адно хадайніцтва – каб да ўдзелу ў працэсе дапусьцілі адваката (Міхаіл Замалін). Хадайніцтва было задаволенае.

Артыкул 23.34 прадугледжвае пакараньне ў выглядзе грашовага штрафу (да 40 базавых велічынь), але судзьдзя Грабоўская, ўзяўшы пад увагу, што абвінавачаны пакуль нідзе не працуе, прыняла рашэньне пакараць актывіста арыштам на 7 сутак. Яўген Гуцалаў сёлета ўжо быў аштрафаваны той жа Грабоўскай на 2,4 млн. рублёў за распаўсюд улётак з заклікам да байкоту парлямэнцкіх выбараў у Беларусі.

**22.09.2012** Прафсаюз РЭП накіраваў скаргу ў судовую калегію па грамадзянскіх справах Віцебскага абласнога суду, спадзеючыся, што спэцыялісты змогуць разабрацца і вынесьці справядлівае рашэньне, якое паставіць кропку ў зацятай працоўнай спрэчцы паміж былымі працаўніцамі і адміністрацыяй «Віцебскмясамалпраму». Справа ў тым, што суд Чыгуначнага раёну Віцебску не задаволіў пазову прафсаюзу наконт абароны дзелавой рэпутацыі і пакрыцьці маральнай шкоды, прычыненай наймальнікам ААТ «Віцебскмясамалпрам» былым працаўніцам **Сьвятлане Лапуновай** і **Алене Шандзюковай**.

Прафсаюз прасіў суд абавязаць наймальніка выплаціць працаўніцам грашовую кампэнсацыю за нанесеную маральную шкоду ў памеры 10 мільёнаў рублёў кожнай, паколькі наймальнік абвінаваціў работніц ў буйной нястачы, але віна іх доказаная не была. **Юрыст прафсаюзу РЭП Валер Місьнікаў** сцьвярджае, што адказчык ня змог даць суду дакладных і дастатковых доказаў таго, што ягонай віны ў прычыненьні маральнай шкоды няма. Прафсаюз РЭП не прызнае рашэньне аб адмове законным і абгрунтаваным.

Як адзначыў прафсаюзны юрыст, судзьдзя выключыў працэдуру спаборнасьці судовай спрэчкі паміж пазоўнікам і прадстаўніком адказчыка, што зьяўляецца парушэньнем артыкулу 19 ГК. «Судзьдзя з нейкай прычыны узяў на сябе абавязак прадстаўляць інтарэсы адказчыка. Ён стаў пярэчыць прадстаўніку пазоўніка супраць пазоўных патрабаваньняў і прыводзіць факты і доказы. У той час, як прадстаўнік адказчыка, начальнік аддзелу прававой і кадравай працы ААТ "Віцебскмясамалпрам", адмовіўся матываваць свае пярэчаньні супраць пазову, ані фактамі, ані нормамі права. І паспрабаваў падмануць судзьдзю сваімі здагадкамі пра тое, што на прадпрыемстве не было ані лішак, ані недастачаў», - распавёў Валер Місьнікаў.

Акрамя таго, паводле слоў юрыста, рашэньне зьяўляецца незаконным, бо судзь-


Барыс Хамайда


дзя ужыў норму матэрыяльнага права, што не прымяняецца, і да таго ж няправільна яе вытлумачыў. У прыватнасьці, на думку суду, факты, на якія спасылаецца прафсаюз, не зьяўляюцца падставай для грашовай кампэнсацыі маральнай шкоды. У той самы час, нагадвае прафсаюзны юрыст, у самім рашэньні суду адзначана, што наймальнік парушыў права работнікаў на ахову працы, за што прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці.

**06.10.2012** Гаспадарчы суд Віцебскай вобласьці правёў першае інтэрактыўнае судовае паседжаньне з выкарыстаньнем сыстэмы відэаканфэрэнцсувязі на базе раённага выканкаму, паведаміла судзьдзя гаспадарчага суду Віцебскай вобласьці Вольга Гаціла. Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі ініцыяваў арганізацыю відэаканфэрэнцсувязі на базе райвыканкамаў, патлумачыла суразмоўца. У Віцебскай вобласьці першая такая сыстэма запрацавала ў Расонскім райвыканкаме, дзякуючы чаму і атрымалася правесьці дыстанцыйнае паседжаньне.

Падчас паседжаньня судзьдзя і пазоўнік знаходзіліся ў розных населеных пунктах: судзьдзя - у Віцебску, а пазоўнік, які заяўляў патрабаваньне аб выдачы выканаўчага дакумэнту на прымусовае выкананьне рашэньня Арбітражнай камісіі, - у Расонах. Сучасныя тэхнічныя сродкі дазволілі скараціць час на правядзеньне судовага слуханьня, зэканоміць заяўніку сродкі на камандзіровачных выдатках. З разьвіцьцём сыстэмы відэаканфэрэнцсувязі гэткая практыка будзе толькі пашырацца, падкрэсьліла прадстаўніца суду.

**15.10.2012** Суд Чыгуначнага раёну Віцебску пакараў 15 кастрычніка вядомага віцебскага **апазыцыянэра Барыса Хамайду** штрафам у 2 базавыя велічыні за тое, што той бараніў герб Віцебскай вобласьці ад нападак загадчыцы прадуктовай крамы "Веста". Справу разглядала судзьдзя Алена Цыганкова.

Суд каля паўгадзіны чакаў, пакуль зьявіцца пазоўнік Натальля Беліжэнка – загадчыца крамы №87 ААТ "Веста" (вул. Леніна, 28), што месьціцца ў тым самым "Сінім доме".

Паводле пратаколу, Хамайда "6 верасьня ў грамадзкім месцы ў адказ на заўвагу Беліжэнкі паспрабаваў штурхнуць яе і схапіў за руку, чым парушыў грамадзкі парадак і спакой грамадзян". Барыс Хамайда з пратаколам не згадзіўся. Сказаў, што "не было ніякага парушэньня грамадзкага спакою, ніякіх хуліганскіх матываў таксама не было". Распавёў, што загадчыца "Весты" зьявілася пасьля таго, як ад яго адышлі міліцыянты, якія папрасілі яго сысьці, але той адмовіўся. Расказаў, што на тым месцы, дзе ён стаіць ужо шмат гадоў, ніколі не вялося ніякага гандлю. Канфліктаў з пазоўніцай ніколі ня меў, але тая часта бурчэла нешта, праходзячы міма.


Кастусь Мардзьвінцаў

Пазоўнік, Натальля Беліжэнка, патлумачыла, што вынесьці 6 верасьня столікі для гандлю яе абавязала ўпраўленьне гандлю. На пытаньне судзьдзі, чаму нельга было карыстацца столікамі, якія звычайна стаяць за вуглом будынку пад навесам, адказала, што тыя столікі ўжо прыбралі, бо было халодна. На пытаньне, чаму не гандлявалі на вынесеным століку, адказала спачатку, што не было лішняй прадавачкі, а потым, што гэта мусіў быць дадатковы столік для пакупнікоў. Маўляў, яны, купіўшы ў краме вады, маглі выйсьці пасядзець ды выпіць. "І гэта называецца "вынасны гандаль"?.." – задала рытарычнае пытаньне судзьдзя.

Выслухаўшы бакі, не абвясьціўшы перапынку, судзьдзя Цыганкова на некаторы час пакінула залю паседжаньня. Сьледам за ёй з залі выйшла Беліжэнка. Празь пяць хвілін, задаўшы яшчэ некалькі пытаньняў удзельнікам працэсу, судзьдзя, нібыта паміж іншым, абвясьціла, што Хамайда падвяргаецца штрафу ў памеры дзьвюх базавых велічынь (200 тыс. рублёў) за парушэньні арт. 17.1 КаАП. Хамайда заявіў у судзе, што не зьбіраецца ані абскарджваць рашэньне суду, ані выплачваць штраф. І ў прысутнасьці судзьдзі папрасіў загадчыцу прадуктовай крамы наступным разам адразу выклікаць міліцыю, а не чыніць супраць яго незразумелых правакацыяў.

**17.10.2012** У судзе Віцебскага раёну працягваецца судовае паседжаньне ў справе пазову **актывіста віцебскай арганізацыі "Белая Русь" Сяргея Рыжова** да абласных мэдыкаў: "Гэта працяг маіх патрабаваньняў па прызнаньні палітматываванага ціску на віцебскіх мэдыкаў, які працягваецца з 2010 году. Прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі і праваабаронцам адмовілі ў допуску ў залю адчыненага судовага паседжаньня. Яны ня мелі магчымасьці весьці аўдыё і відэазапіс". Паводле слоў Рыжова, судзьдзя Ліпская публічна пагражала Рыжову прыцягненьнем да адказнасьці нібыта за паразытызм.

Як паведамляе сам віцебскі актывіст, яго праблемы з працай і мэдычнай апекай пачаліся пасьля таго, як ён задумаў выставіць сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах. З таго часу ён ня можа ўладкавацца на працу, не атрымлівае неабходных яму лекаў. Раней Сяргей Рыжоў падаў скаргу ў Раду па правох чалавека ААН.

**19.10.2012** «Акруговая выбарчая камісія не зьяўляецца арганізацыяй, таму Закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб на яе не распаўсюджваецца», - гэтак судзьдзя Юры Урбан абгрунтаваў сваю адмову задаволіць пазоў віцебскага актывіста **Кастуся Мардзьвінцава** супраць Аляксандра Красоўскага, старшыні АВК Віцебскай сельскай выбарчай акругі № 21 падчас выбараў, і Ірыны Жулевай, сакратаркі камісіі.

Разгляд грамадзянскай справы ў судзе працягваўся паўтара тыдні. Актывіст прасіў суд спагнаць з адказных сябраў выбарчай камісіі выдаткі, якія ён панёс у выніку таго, што апошнія, як ён лічыць, парушылі заканадаўства. Таксама ён прасіў суд спагнаць са спадара Красоўскага і спадарыні Жулевай кампэнсацыю за нанесеную яму маральную шкоду.

Падчас парлямэнцкіх выбараў, што завяршыліся блізу месяц таму, Кастусь Мардзьвінцаў быў даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты ад партыі БНФ Леаніда Аўтухова. Таксама ён зьяўляўся назіральнікам на адным з участкаў.

«Выконваючы свае абавязкі, я, натуральна, ня раз зьвяртаўся ў акруговую выбарчую камісію зь пісьмовымі заявамі. Адна з такіх заяваў тычылася таго, каб мне дазволілі прысутнічаць на паседжаньні камісіі падчас праверкі сапраўднасьці подпісаў, сабраных ініцыятыўнымі групамі за вылучэньне кандыдатаў. Заяву, як і ўсе іншыя свае заявы ў АВК, пісаў на роднай мове - беларускай. Аднак адказ, які падпісаў старшыня АВК Красоўскі і сакратар Жулева, мне чамусьці прыйшоў па-расейску. Прычым адказ быў такім цьмяным, што, каб зразумець сэнс напісанага, я мусіў зьвярнуцца па пераклад на беларускую ў бюро перакладаў», - распавядае Кастусь Мардзьвінцаў.

Адмовіўшы актывісту ў задавальненьні яго пазоўнай заявы, судзьдзя Урбан, фактычна, зацьвердзіў, што закон аб зваротах грамадзян выбарчай камісіі ня пісаны і яна не абавязаная яго выконваць.

Актывіст лічыць рашэньне суду, прынятае наконт ягонага пазову, несправядлівым і дыскрымінацыйным. На думку спадара Мардзьвінцава, судзьдзя Юры Урбан, выносячы рашэньне, не кіраваўся літарай і духам закону.

**30.10.2012** Маці Ўладзіслава Кавалёва, расстралянага за тэрарызм, лічыць, што Вярхоўны Суд парушыў тэрміны адказу на наглядную скаргу, складзеную адвакатам сына. Таксама яна просіць ініцыяваць праверку па фактах фальсыфікацыяў у справе выбуху ў менскім мэтро і парушэньняў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу падчас сьледзтва і суду, які прыгаварыў **Уладзіслава Кавалёва** і **Дзьмітрыя Канавалава** да сьмяротнага пакараньня.

Наглядная скарга была пададзеная 27 верасьня. Адказ прыйшоў на імя адваката 30 кастрычніка: “30-дзённы тэрмін разгляду парушаны. Але і гэта яшчэ ня ўсё: ніякага канкрэтнага адказу мы не атрымалі – нам даслалі толькі паведамленьне, што тэрмін разгляду скаргі працягнуты. Гэта цынізм найвышэйшай ступені: цяпер, калі сына расстралялі, у Вярхоўным судзе робяць выгляд, што будуць разьбірацца дасканальна, зноў пераглядаючы ўсю справу”, – лічыць **Любоў Кавалёва**.

Затрымка з адказам Вярхоўнага суду стала падставай для скаргі ў Генпракуратуру, кажа Любоў Кавалёва: “Гэта скарга на імя Аляксандра Канюка, Генэральнага пракурора Рэспублікі Беларусь. Я пішу, што Вярхоўны суд парушае заканадаўства і мае правы, своечасова не даслаўшы адказ на наглядную скаргу. Але галоўнае – я зноў пішу пра парушэньні, заўважаныя падчас сьледзтва і судовага працэсу”.

**20.12.2012** Судзьдзя Першамайскага райсуду Валянціна Кісьмярошкіна ўзяла пад увагу паказаньні сьведкаў-міліцыянтаў, якія заявілі, што двое віцебскіх **прыхільнікаў БХД** іх нецэнзурна абражалі. Суд над актывістамі праходзіў у габінэце


Станіслаў Лаўрэнаў

судзьдзі. **Аляксея Кішчука** і **Станіслава Лаўрэнава** прывезьлі на працэс зь ізалятару часовага ўтрыманьня, дзе яны правялі мінулую ноч.

Аляксей Кішчук: «Нас затрымалі ўчора каля 11 раніцы — машыну, дзе мы ехалі, спынілі супрацоўнікі ДАІ. Яны ж запатрабавалі нашы дакумэнты. У мяне не было пашпарту, таму загадалі ехаць у Першамайскі РАУС. На судзе супрацоўнікі ДАІ і спэцназаўцы расказвалі, нібыта мы лаяліся на іх матам. Хаця нічога такога не было і блізка. Пра Станіслава спачатку казалі, што ён адмаўляўся падпарадкоўвацца патрабаваньням міліцыянтаў, але такі пратакол не складалі. Судзілі нас толькі за хуліганства — за „нецэнзурную лаянку", прысудзілі штрафы — кожнаму па 3 базавыя велічыні».

Яшчэ 19 сьнежня актывістаў вазілі ў суд. Але нават ня выпусьцілі зь міліцэйскай машыны: супрацоўнікі Першамайскага РАУС некуды патэлефанавалі, і хлопцаў без усялякіх тлумачэньняў павезьлі адразу ў ізалятар часовага ўтрыманьня. Гэтая акалічнасьць дае падставы меркаваць, што затрыманьне Лаўрэнава і Кішчука было прэвэнтыўным.

**03.01.2013** Судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Натальля Караблiна адмовіла ў задавальненьні хадайніцтва **распаўсюдніку газэты «Віцебскі Кур'ер» Міхаілу Жураўлёву** аб растэрміноўцы выкананьня адміністрацыйнага спагнаньня ў выглядзе штрафу ў памеры 2 500 000 рублёў. Цяпер Міхаіл, які зьяўляецца інвалідам ІІ групы, атрымлівае пэнсію менш за 1 800 000 рублёў і плаціць крэдыт, мусіць ня есьці, ня піць і ўлезьці ў даўгі, каб выканаць пастанову Караблінай аб накладаньні на яго адміністрацыйнага спагнаньня.

Міхаіл Жураўлёў судзьдзёй Караблінай быў падвергнуты штрафу за распаўсюд газэты «Віцебскі Кур'ер» 22 кастрычніка 2012 году. Судзьдзя віцебскага абласнога суду Ірына Смалякова і старшыня гэтага суду Мікалай Хамічонак ня ўгледзелі падстаў для адмены пастановы судзьдзі Караблінай.

**14.01.2013** З прычыны несвоечасовай дастаўкі паштовага адпраўленьня **Пётар Іваноў** зьвяртаўся ў суд Кастрычніцкага раёну Віцебску з патрабаваньнем кампэнсаваць яму маральную шкоду. У судзе работнікі «Белпошты» сваю віну прызналі, прынесьлі заяўніку свае прабачэньні і прапанавалі міравое пагадненьне. Такое пагадненьне было заключанае, і актывіст тут жа ў будынку суду атрымаў ад паштальёнаў 600 тысяч рублёў кампэнсацыі.

**13.02.2013 Адвакат Станіслаў Абразей**, які бараніў **Уладзіслава Кавалёва**, абвінавачанага ў тэрарызьме і расстралянага, зьвярнуўся да старшыні Вярхоўнага Суду з патрабаваньнем неадкладна разгледзець наглядную скаргу. Гэта належала зрабіць не пазьней як у кастрычніку мінулага году. Але спадар Абразей не атры-


Станіслаў Абразей

маў ніякага адказу дагэтуль, хоць скарга была накіраваная яшчэ паўгода таму.

Пра зварот Станіслава Абразея да старшыні Вярхоўнага Суду апавяла маці Ўладзіслава Кавалёва. **Любоў Кавалёва** лічыць пратэрміноўку з адказам на наглядную скаргу ўжо далёка ня першым парушэньнем заканадаўства адказнымі службовымі асобамі.

**21.02.2013** У Віцебску прайшоў суд над **актывістамі аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" Аляксеем Кішчуком** і **Стасам Лаўрэнавым**, якіх затрымалі 16 лютага падчас "Хвалі салідарнасьці". Адвакат знайшоў у матэрыялах справы мноства працэсуальных парушэньняў, дапушчаных супрацоўнікамі міліцыі. У прыватнасьці, міліцыянты для "аб'ектыўнасьці" прыплялі да матэрыялаў справу жанчыну, якая нібыта была сьведкам затрыманьня.

У сваю чаргу сьведка з боку падабаронных заявіў, што міліцыянты, затрымліваючы актывістаў, парушылі ўсе магчымыя правілы дарожнага руху, едучы на машыне па тратуары. Пададзенае міліцыянтамі відэа затрыманьня ня выявіла ніякіх пярэчаньняў са словамі сьведкі пра дзеяньні міліцыянтаў.

У выніку судзьдзя прысудзіла актывістам штраф у памеры 30 базавых велічынь кожнаму.

**23.02.2013** У Кастрычніцкім райсудзе Віцебску разглядалася грамадзянская справа паводле пазову **сябра КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава** супраць намесьніка гендырэктара УКВП «Віцебская гарадзкая ЖКГ» Вадзіма Ільінца. На думку палітыка, чыноўнік, не заключыўшы зь ім дамову на прыборку тэрыторыі пасьля правядзеньня меркаванага шэсьця і мітынгу, парушыў яго грамадзянскія і палітычныя правы ды прычыніў яму маральную шкоду. Судзьдзя Вікторыя Лешчанка пазоў аб кампэнсацыі маральнай шкоды не задаволіла.

Не было задаволенае і другое патрабаваньне пазоўнай заявы: вынесьці асобнае вызначэнне ў дачыненьні да Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту аб неабходнасьці ўзмацненьня кантролю над выкананьнем патрабаваньняў дырэктывы прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 2.

У згаданай дырэктыве гаворыцца: «Фармалізм, цяганіна, папяратворчасьць, фанабэрыя, непавага да людзей, абыякавасьць да іх лёсу і патрэб, якія праяўляюць некаторыя чыноўнікі, пра што сьведчаць звароты грамадзян, што паступаюць на разгляд кіраўніка дзяржавы, падрываюць іх давер да дзяржавы. Такі стан спраў недапушчальны».

Ян Дзяржаўцаў вымушаны быў зьвярнуцца ў суд пасьля таго, як у якасьці адказу



Валер Місьнікаў

на заяву ў «Віцебскую гарадзкую жыльлёва-камунальную гаспадарку» наконт заключэньня дамовы аб прыборцы тэрыторыі пасьля правядзеньня масавага мерапрыемства атрымаў чарговую адпіску за подпісам Вадзіма Ільінца. Апошні папросту «адфутболіў» заяўніка: напісаў, што па заключэньне дамоваў трэба зьвяртацца не ў яго прадпрыемства, а ў іншыя арганізацыі – «Гардармост» і «Зелянгас».

Існуе рашэньне Віцебскага гарвыканкаму – № 881: калі нехта хоча зладзіць мітынг, пікет ці вулічнае шэсьце – яму да заявы аб правядзеньні масавага мерапрыемства трэба прыкласьці копіі дамоваў аб прыбіраньні тэрыторыі з УКВП «Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка» (а не зь нейкімі «Гардармостам» і «Зелянгасам», пра якія напісаў Ільінец), а таксама з мэдыкамі і міліцыянтамі аб абслугоўваньні падчас мерапрыемства.

Дамагчыся заключэньня патрэбных дамоваў з названымі службамі ня здолеў яшчэ ніхто. У выніку з-за невыкананьня рашэньня № 881 усе акцыі апазыцыянэраў, праваабаронцаў і грамадзкіх актывістаў, аб дазволе на якія падаюцца заяўкі, ужо цягам некалькіх год забараняюцца мясцовымі ўладамі.

Так здарылася і чарговым разам. Каб зладзіць акцыю, заплянаваную на 7 лістапада 2012 году, Ян Дзяржаўцаў папрасіў УКВП «Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка» і іншыя службы заключыць зь ім дамовы, безь якіх аніяк не атрымаць дазволу на правядзеньне акцыі. Адбылося, як заўсёды: ніхто, спасылаючыся на розныя прычыны, дамоваў заключаць ня стаў. У выніку з прычыны адсутнасьці дамоваў гарвыканкам акцыю забараніў.

Відавочна, што судзьдзя Лешчанка сваім рашэньнем разьвязала рукі чыноўнікам і дала ім магчымасьць надалей на ўласны одум не заключаць дамоваў з палітычнымі і грамадзкімі актывістамі на абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў і пазбаўляць іх тым самым права ладзіць мірныя сходы і публічна выказваць свае думкі.

**24.02.2013 Прававы інспэктар прафсаюзу РЭП Валер Місьнікаў** ад імя прафсаюзнай арганізацыі зьвяртаўся да старшыні Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь з заявай аб узбуджэньні крымінальнай справы ў дачыненьні да судзьдзі Чыгуначнага райсуду Віцебску Сьвятланы Варатынскай. Сьледчы камітэт ня стаў разглядаць заяву і выносіць працэсуальны дакумэнт, прадугледжаны КПК, а адказаў адпіскай, у якой начальнік аддзелу па працы са зваротамі грамадзян С. Тухто паведаміў спадару Місьнікаву, што зварот пакінуты без разгляду па сутнасьці.

У заяве ў Сьледчы камітэт адзначалася, што судзьдзя Варатынская, разглядаючы пазоўныя заявы сябраў прафсаюзу РЭП супраць наймальніка, парушыла шэраг

артыкулаў грамадзянска-працэсуальнага кодэксу і закону РБ «Аб прафэсійных саюзах». Прафсаюз угледзеў у дзеяньнях судзьдзі наяўнасьць прыкметаў складу злачынства, прадугледжанага артыкуламі 190 (парушэньне раўнапраўя грамадзян), 395 (фальсыфікацыя доказаў) і 424 (злоўжываньне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, таму і была складзеная заява ў Сьледчы камітэт.

«Цягам доўгага часу Прафсаюз працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасьці ня можа дагрукацца да Сьледчага камітэту наконт пытаньня ўзбуджэньня крымінальнай справы ў дачыненьні да судзьдзі, якая сьвядома вынесла незаконнае вызначэньне. На абарону судзьдзі ўсталі абсалютна ўсе дзяржаўныя адказныя службовыя асобы: пракуроры, Сьледчы камітэт. І нават зварот у адміністрацыю прэзыдэнта выніку ня даў», – распавёў юрыст прафсаюзу РЭП.

**15.03.2013** Віцебскія актывісты ўжо каторы раз спрабавалі выканаць рашэньне гарвыканкаму “Аб правядзеньні масавых мерапрыемствах у г. Віцебску”. Згодна зь ім, заяўнікі масавых акцыяў мусяць заключыць дамовы на абслугоўваньне з ЖКГ, паліклінікай і міліцыяй. Але гэтыя структуры адмаўляюцца супрацоўнічаць з апазыцыянерамі, і Кастрычніцкі райсуд пацьвердзіў: рашэньне гарвыканкаму дазваляе дзяржаўным структурам ухіляцца ад дамоваў.

Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Ігар Рымша вырашыў пакінуць без задавальненьня скаргу **Хрыстафора Жаляпава**, **кіраўніка абласной структуры руху “За свабоду”**, і **Аляксея Гаўруцікава** – яны зьвярнуліся ў суд, каб змусіць цэнтральную гарадзкую паліклініку заключыць дамовы на абслугоўваньне мітынгу 25 сакавіка. Галоўурач мэдычнай установы спаслаўся на загружанасьць урачоў “падчас піку сэзонных захворваньняў”, і адмовіў заяўнікам мітынгу. Гэта і стала прычынай звароту ў суд. Працэс паводле скаргі Хрыстафора Жаляпава ішоў два дні. Актывістам было заяўлена, што нязгода заключыць зь імі дамову на абслугоўваньне – гэта права адміністрацыі дзяржаўных установаў.

**21.03.2013** Суд Кастрычніцкага раёну Віцебску наклаў арышт на 1 400 000 рублёў, якія знаходзяцца на дэпазытным рахунку суду Кастрычніцкага раёну і належаць **Тамары Кандаковай**. Гэта стала вядома з пастановы судзьдзі Эдгара Марцірасяна ад 21 сакавіка 2013 году па прадстаўленьні судовага выканаўцы суду Кастрычніцкага раёну Віцебску.

Тамара Кандакова была ў сьнежні 2011 году прыцягнутая судом да адміністрацыйнай адказнасьці за распаўсюд газэты «Віцебскі Кур’ер». Кандакову аштрафавалі на 700 000 рублёў. Пастанова суду яшчэ не ўступіла ў сілу, але судовы выканаўца, не паставіўшы Тамару Піліпаўну ў вядомасьць, накіраваў выканаўчы ліст па месцы атрыманьня Кандаковай Т.П. пэнсіі (аддзел сацыяльнай абароны Кастрычніцкага раёну Віцебску), дзе зь яе пэнсіі была ўтрыманая сума ў памеры 700 000 рублёў і пералічаная трыма аплатнымі даручэньнямі № 793 ад 30 чэрвеня 2012 году, № 771 ад 23 ліпеня 2012 году і № 593 ад 21 жніўня 2012 году ў фінансавае ўпраўленьне віцебскага гарвыканкаму.

Па ўступленьні пастановы суду ў законную сілу, Тамара Кандакова добраахвотна выканала пастанову праз пералічэньне сумы штрафу ў памеры 700 000 рублёў у фінансавае упраўленьне віцебскага гарвыканкаму. Паралельна ёй была пададзе-

ная скарга на пастанову Старшыні Віцебскага абласнога суду Мікалаю Хамічонку, які адмяніў пастанову аб прыцягненьні распаўсюдніцы недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі да адміністрацыйнай адказнасьці і накіраваў справу на новы разгляд. Пасьля чаго фінансавае ўпраўленьне віцебскага гарвыканкаму вымушанае было вярнуць незаконна ўтрыманую судом і добраахвотна выплачаную Кандаковай суму штрафу ў памеры 1 400 000 рублёў на дэпазытны рахунак суду Кастрычніцкага раёну Віцебску для перадачы апошняй.

Пры новым разглядзе адміністрацыйнай справы суд падвергнуў Тамару Кандакову штрафу ў памеры 2 000 000 рублёў. 20 лютага 2013 г. пастанова ўступіла ў законную сілу і павінна была быць добраахвотна выкананая Тамарай Пііпаўнай ў тэрмін да 20 сакавіка 2013 году. 19 сакавіка Тамара Піліпаўна памерла…

**25.03.2013** Затрыманых 22 сакавіка **актывістаў партыі БНФ Кастуся Смолікава** і **Леаніда Аўтухова** асудзілі да 5 сутак арышту. Суд цягнуўся з 11-й гадзіны да 20:45. Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтухова, якія знаходзіліся ў ізалятары часовага ўтрыманьня, каля 11 гадзіны прывезьлі ў Кастрычніцкі райсуд. У будынку суду сабралася дзясятка паўтара віцебскіх актывістаў і ня менш — міліцыянтаў на чале з начальнікам раённай міліцыі грамадзкай бясьпекі Андрэем Івановым.

На пачатку паседжаньня ў залю яшчэ пускалі ўсіх ахвотных, але ад першай жа хвіліны пачаліся і выдаленьні: судзьдзя Іна Грабоўская загадала выйсьці актывісту **Пятру Іванову**, які гучна павіншаваў яе з Днём Волі. Судзьдзя запатрабавала таксама, каб залю пакінуў чалавек, які здымае падсудных і прысутных у залі. Але высьветлілася, што гэта быў міліцэйскі апэратар, і судзьдзя тут жа выправілася — чалавеку ў цывільным і з відэакамэрай было дазволена застацца.

Кастусь Смолікаў на пачатку паседжаньня перадаў судзьдзі скаргу пра тое, што ён знаходзіўся пад вартай да суду больш за 48 гадзін. Гэта парушэньне адміністрацыйна-працэсуальнага заканадаўства, дапушчанае супрацоўнікамі Кастрычніцкага РАУС: затрымаўшы актывістаў 22 сакавіка а 13:40, яны мусілі б у той самы дзень перадаць іх справы ў суд.

Старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў запатрабаваў перакладчыка з расейскай на беларускую мову. Гэтая просьба была прадугледжаная: у залі ўжо знаходзіўся перакладчык, настаўнік сярэдняй школы № 10 Юры Самсонаў. Спадар Аўтухоў таксама запатрабаваў часу на знаёмства з дакумэнтамі судовай справы. Быў абвешчаны перапынак на паўгадзіны. А потым — яшчэ на дзьве гадзіны, бо Аўтухоў выступіў з хадайніцтвам, каб наняць адваката.

Звычайна суд дае на гэта некалькі дзён — з улікам таго, што вольных адвакатаў можа і ня быць, тым больш калі вядзецца пра запрашэньне канкрэтнага адваката. Але Іна Грабоўская заявіла, што абвяшчае перапынак толькі да 15 гадзіны. За гэты час Леанід Аўтухоў, жыхар райцэнтру Гарадок, мусіць недзе пазычыць грошы, знайсьці ў Віцебску адвакацкую кантору і заключыць дамову з абаронцам.

Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтухова абвінавацілі паводле артыкулу 23.34 адміністрацыйнага заканадаўства — за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавай акцыі. Затрымалі іх у памяшканьні гандлёвага цэнтру «Эвіком», дзе яны раздавалі запрашэньні на мітынг, заплянаваны на вечар 25 сакавіка ў Парку


Сяргей Каваленка

культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Заяўку ў Чыгуначную раённую адміністрацыю падаваў спадар Аўтухоў, і ў дзень затрыманьня ён яшчэ ня меў адказу ад уладаў, хоць спавясьціць яго яны мусілі за 5 дзён да меркаванага мерапрыемства.

**29.03.2013** Судзьдзя Першамайскага райсуду аштрафавала **сябра КХП-БНФ** на падставе міліцэйскага пратакола, дзе было напісана, што ўвечары 25 сакавіка **Сяргей Каваленка** быў "у стане алькагольнага ап'яненьня", ды яшчэ "нецэнзурна выказваўся" і "размахваў рукамі". Актывіст ніводнага з гэтых абвінавачаньняў не прызнаў. Памер накладзенага штрафу – 1 мільён рублёў.

Судовы працэс над Сяргеем Каваленкам 26 сакавіка распачала судзьдзя Натальля Карабліна, а пасьля перапынку на тры дні судзіць актывіста прызначылі іншай судзьдзі, Валянціне Кісьмярошкінай. Чаму так адбылося, прысутным не патлумачылі.

Усё астатняе было па-ранейшаму: у судзе сабралася больш за два дзесяткі супрацоўнікаў міліцыі, у форме і ў цывільным. Частка супрацоўнікаў у цывільным яшчэ да пачатку суду заняла месцы ў залі, тады як "людзі ў форме" пераконвалі ахвотных сысьці, бо судовая заля зачыненая.

Двое супрацоўнікаў міліцыі былі ў судзе сьведкамі – гэта супрацоўнікі патрульна-паставой службы Аляксей Новікаў і Аляксандар Давыдоўскі. Яны распавядалі, што спынілі Сяргея Каваленку на дарозе за адсутнасьць флікера. Хаця потым работнікі ДАІ склалі на яго пратакол за пераход дарогі ў неналежным месцы.

Паводле міліцыянтаў, актывіст абураўся тым, што яго затрымлівалі міліцыянты з патрульна-паставой службы, а не ДАІ. І рабіў гэта "зь нецэнзурнай лаянкай" і "размахваючы рукамі". Ды ўсяго, Каваленка адмаўляўся ехаць зь імі ў пастарунак, і яго папярэдзілі, што гэтыя дзеяньні – "непадпарадкаваньне супрацоўнікам міліцыі". Пасьля гэтага ён ужо пагадзіўся сесьці ў машыну. Але падчас спрэчкі міліцыянты адчулі пах алькаголю, згадалі, што ў яго была "няцьвёрдая паходка", і павезьлі Сяргея Каваленку на мэдычны агляд.

Далей сьведчыць працягваў лекар, псыхіятар-нарколяг Аляксандар Лебедзеў. Ён зазначыў, што актывіст адмовіўся праходзіць алькатэст. Але пацьвердзіў толькі словы міліцыянтаў пра пах алькаголю, усе іншыя зьнешнія прыкметы ён кваліфікаваў як нармальныя паводзіны: не было ні "няцьвёрдай паходкі", ні буйных паводзінаў…

**05.04.2013** У Віцебскім абласным судзе адбыўся разгляд скаргі **актывіста партыі БНФ Леаніда Аўтухова** на рашэньне судзьдзі Кастрычніцкага суду Віцебску Іны



Ян Дзяржаўцаў

Грабоўскай аб пакараньні яго пяцьцю суткамі арышту. Як звычайна, разгляд скаргаў дэмакратычных актывістаў даручылі судзьдзю Віцебскага абласнога суду Ірыне Смаляковай.

На пачатку разгляду скаргі Леанід Аўтухоў заявіў хадайніцтва аб вядзеньні працэсу на дзяржаўнай беларускай мове. Ірына Смалякова пачала яго распытваць пра мову навучаньня ў школе, а потым мову вывучэньня геаграфіі у Гарадоцкім сельгастэхнікуме і адмовіла ў вядзеньні паседжаньня на дзяржаўнай мове.

Пасьля незадавальненьня хадайніцтва аб вядзеньні разгляду на беларускай мове Леанід Аўтухоў заявіў адвод судзьдзю за ігнараваньне беларускай мовы. Але Смалякова не задаволіла гэтае хадайніцтва. Падчас паседжаньня Аўтухоў распавёў пра тое, што іх незаконна ўтрымлівалі ў пастарунку больш за 48 гадзін, пра тое што Іна Грабоўская ігнаравала іх хадайніцтвы, разглядаючы справу, пра тое, што кіраўніцтва Чыгуначнага райвыканкаму, якое несвоечасова разгледзела іх заяўку, парушыла заканадаўства, і г.д. Дарэчы, калі прысутны на паседжаньні **Кастусь Смолікаў** не стрымаўся і выказаўся: “Гэта чыноўнікі перш парушылі закон!”, то Смалякова яго адразу выдаліла з залі.

Але Ірына Смалякова, выслухаўшы аргумэнты пацярпелага Аўтухова, вынесла кароткае рэзюмэ: рашэньне суду першай інстанцыі пакінуць у сіле.

**05.04.2013** Канстытуцыйны суд ня стаў разглядаць пытаньне, пастаўленае перад ім віцебскім **сябрам КХП-БНФ Янам Дзяржаўцавым**. Апошні прасіў суд разабрацца з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску». На думку палітыка, згаданае рашэньне мясцовых уладаў супярэчыць нормам Канстытуцыі, бо, фактычна, пазбаўляе грамадзян права на мірныя сходы.

Асноўная праблема рашэньня № 881 – патрабаваньне да арганізатараў масавых мерапрыемстваў загадзя заключаць дамовы з ЖКГ, міліцыяй і лекарамі на абслугоўваньне мерапрыемстваў. Яшчэ ні разу не было, каб усе неабходныя дамовы атрымалася заключыць: арганізацыі, пералічаныя ў рашэньні гарвыканкаму, знаходзяць разнастайныя прычыны, каб пазьбегнуць заключэньня дамоваў. А бяз гэтых дамоваў атрымаць дазволу на пікет, мітынг або шэсьце немагчыма.

Каб пацьвердзіць, што рашэньне № 881 выканаць немагчыма, і што ў выніку немагчыма скарыстацца з правоў, гарантаваных Канстытуцыяй, Ян Дзяржаўцаў далучыў да свайго звароту ў Канстытуцыйны суд ажно 26 адмоваў віцебскіх органаў улады на правядзеньне масавых мерапрыемстваў, атрыманых ім і сябрамі яго партыі цягам 2012 і пачатку 2013 гадоў.

Аднак Канстытуцыйны суд заплюшчыў вочы на відавочнае парушэньне Канстытуцыі: «Канстытуцыйны суд разглядае пытаньні аб канстытуцыйнасьці нарматыўных прававых актаў па прапановах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, Палаты прадстаўнікоў, Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу, Вышэйшага гаспадарчага суду, Савету міністраў Рэспублікі Беларусь… Такім чынам, нарматыўныя прававыя акты могуць быць разгледжаныя Канстытуцыйным судом на прадмет іх адпаведнасьці Канстытуцыі толькі пры ўмове ўнясеньня адпаведнай прапановы адным з вышэйназваных дзяржаўных ворганаў і службовых асоб», – паведамляецца ў лісьце за подпісам першага намесьніка начальніка сакратарыяту Канстытуцыйнага суду В.І. Селядзеўскага.

**16.04.2013** «У ходзе праведзенай праверкі фактаў грубых і непаважлівых адносін да ўдзельнікаў працэсу з боку судзьдзі суду Кастрычніцкага раёну г. Віцебску Грабоўскай І. В. ня выяўлена, падстаў для прыцягненьня яе да дысцыплінарнай адказнасьці ня ўгледжваю», – гэтак першы намесьнік начальніка галоўнага ўпраўленьня юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму Ігар Каржоў адказаў на заяву, якую накіроўваў у згаданае ведамства **кіраўнік віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў**.

Леанід Аўтухоў прасіў галоўнае ўпраўленьне юстыцыі ўзбудзіць дысцыплінарную вытворчасьць у адносінах да судзьдзі Іны Грабоўскай, якая 25 сакавіка вынесла пастанову аб пакараньні яго і ягонага аднапартыйца **Кастуся Смолікава** адміністрацыйным арыштам за раздачу газэты і ўлётак у гандлёвым цэнтры. Названая пастанова, на думку палітыка, выносілася з парушэньнем дзеючага заканадаўства, суд быў староннім і прадузятым, а судзьдзя не абараніла яго грамадзянскія і палітычныя правы ды законныя інтарэсы.

Леанід Аўтухоў адзначыў у сваёй заяве, што судзьдзя падчас працэсу паводзілася груба і непаважліва ў адносінах да прысутных у судзе грамадзян. Партыйны лідэр таксама прывёў шэраг фактаў парушэньня ёю заканадаўства: выносячы рашэньне, судзьдзя Грабоўская не ўлічыла той акалічнасьці, што ён знаходзіўся пад вартаю больш за 48 гадзін, што супярэчыць частцы 2 артыкулу 11.2 працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях; апроч таго, яму было дадзена не дастаткова часу на пошук адваката і падрыхтоўку сваёй абароны. Таму, мяркуе сябра партыі БНФ, рашэньне, прынятае ў дачыненьні да яго судом, зьяўляецца несправядлівым і не грунтуецца на законе, а судзьдзю Грабоўскую трэба было б пакараць. Аднак у галоўным упраўленьні юстыцыі аблвыканкаму не прыслухаліся да аргумэнтаў палітыка і адмовіліся задаволіць просьбу, выкладзеную ў ягонай заяве.

**17.04.2013** Рашэньне Першамайскага райсуду, якое спрабаваў абскардзіць віцебскі **актывіст КХП БНФ**, засталося безь зьменаў – **Сяргей Каваленка** мусіць выплаціць 1 мільён штрафу, прысуджанага яму за дробнае хуліганства. Судзьдзя абласнога суду Ірына Смалякова падтрымала рашэньне судзьдзі Першамайскага райсуду Валянціны Кісьмярошкінай.

Судом былі безь пярэчаньняў прынятыя факты, выкладзеныя ў міліцэйскіх пратаколах. Там гаварылася, што Каваленка ішоў па праезнай частцы вуліцы 2-ая Прадольная. Парушэньне правілаў дарожнага руху заўважыў міліцэйскі патруль,

які пад'ехаў на машыне і зрабіў заўвагу. Але Сяргей Каваленка ў нецэнзурнай форме нібыта адмовіўся сысьці на ходнік. Актывіст казаў у судзе, што пасля сьнегападу на гэтай вуліцы не было відаць ходнікаў. І ў добрае надвор'е ходнікі можна заўважыць толькі з аднаго боку дарогі. Яшчэ адна прэтэнзія міліцыянтаў – адсутнасьць флікеру. Але на тэрыторыі горада яго мець пры сабе не абавязкова.

Тым не менш за парушэньне правілаў дарожнага руху, зафіксаванае ў міліцэйскіх пратаколах, інспэкцыя выкананьня пакараньняў Першамайскага раёну 16 красавіка абвясьціла Сяргею Каваленку папярэджаньне. Актывіст знаходзіцца на прафіляктычным уліку пасьля вызваленьня з Магілёўскай калёніі №19 у верасьні мінулага году. І цяпер, калі абласны суд адхіліў ягоную скаргу, цалкам імавернае і другое папярэджаньне – ужо за дробнае хуліганства, факт якога Каваленка катэгарычна адмаўляе. А пасьля трэцяга папярэджаньня да яго могуць ужыць прэвэнтыўны нагляд, які абмяжоўвае свабоду ў перасоўваньні і выкарыстаньні вольнага часу.

**10.05.2013 Пётар Іваноў** абскарджваў пастанову судзьдзі Першамайскага райсуду Валянціны Кісьмярошкінай, якая пакарала яго штрафам у памеры 4 млн рублёў за нібыта лжэсьведчаньне супраць супрацоўнікаў ДАІ і непадпарадкаваньне міліцыянтам. На думку спадара Іванова, судзьдзя Кісьмярошкіна судзіла яго з грубымі парушэньнямі працэсуальна-выканаўчага кодэксу, і таму прасіў адмяніць яе рашэньне. Аднак судзьдзя віцебскага аблсуду пакінула пастанову суду першай інстанцыі ў сіле.

Цёзка віцебскага праваабаронцы па прозьвішчы, судзьдзя абласнога суду Сьвятлана Іванова, якая займалася справай, не задаволіла амаль ніводнага яго хадайніцтва. У прыватнасьці, не было дазволена весьці аўдыёзапіс судовага паседжаньня. Таксама Пётар Іваноў прасіў судзьдзю адкласьці разбор справы. Бо на 17 траўня прызначанае іншае судовае разьбіральніцтва: у гэты дзень мусіць распачацца разгляд у судзе яго скаргі на пастанову, на падставе якой была ўзбуджаная супраць яго адміністрацыйная справа. Гэтае хадайніцтва таксама было адхіленае.

Зрэшты, адно хадайніцтва ўсё-такі было задаволенае. Пётар Іваноў прасіў далучыць да матэрыялаў справы дыск з аўдыё, якое даказвае, што існуе дзьве розныя пастановы па справе: судзьдзя Кісьмярошкіна ў судзе зачытала зусім іншую пастанову, чымся тая пастанова, якую ён пазьней атрымаў на рукі ў друкаваным выглядзе. Так, у вэрсіі пастановы, агучанай Кісьмярошкінай у залі суду, пра Пятра Іванова гаворыцца, што ён нібыта «раней прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці», а з выпраўленага варыянту пастановы вынікае, што да адміністрацыйнай адказнасьці ён не прыцягваўся.

Судзьдзя Іванова нават абвясьціла перапынак, каб азнаёміцца са зьместам дыску. А пасьля перапынку запыталася, дзе знаходзіцца арыгінал аўдыёзапісу (маўляў, на той копіі, што пададзеная ў суд, пазначана, што запіс зроблены нібыта 1 студзеня 1995 году), і ці была папярэджаная судзьдзя Кісьмярошкіна пра аўдыёзапіс. «Гэта ня можа быць доказам», – паведаміла пры канцы судзьдзя Іванова. Вэрдыкт, вынесены ёй: «Пастанова [судзьдзі Кісьмярошкінай] зьяўляецца законнай ды абгрунтаванай і адмене не падлягае».

**17.05.2013** Па 20 базавых велічыняў штрафу прысудзілі віцебскім актывістам **Яну**


Віталь Каваленка

**Дзяржаўцаву** і **Віталю Каваленку**. Іх абвінавацілі ў правядзеньні несанкцыянаванага пікету. 26 красавіка яны проста стаялі з плякатамі «Будаваць АЭС бяз згоды народу можа толькі вораг Беларусі» і «Дыктатар, пабудуеш Астравец — пажнеш Чарнобыль». Актывістаў судзіла Іна Грабоўская, вядомая ў Віцебску сваімі шматлікімі абвінаваўчымі пастановамі ў дачыненьні да апазыцыянэраў.

**17.05.2013** У судзе Чыгуначнага раёну Віцебску завяршылася разьбіральніцтва па грамадзянскім пазове **Антаніны Піванос** супраць галоўнага ўпраўленьня Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласьці. Актывістка патрабавала, каб, у адпаведнасьці з рашэньнем КПЧ ААН, ёй выплацілі грашовую кампэнсацыю маёмасьці, якая была канфіскаваная ў яе 25 сакавіка 2008 году, а таксама вярнулі суму штрафу, якім яе пакаралі незаконна.

На 90-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР Антаніна Піванос хацела ўручыць падарунак віцебскаму апазыцыянэру Барысу Хамайду – габэлен з уласнаручна вышытымі ёю словамі малітвы «Ойча наш». Аднак зьдзейсьніць задуманае не далі супрацоўнікі праваахоўных органаў: габэлен адабралі, а на актывістку склалі пратакол аб парушэньні парадку і правядзеньня масавага мерапрыемства. Пазьней быў суд, які пакараў Антаніну Піванос штрафам. Актывістка зьвярнулася па абарону сваіх правоў у Камітэт па правах чалавека, які прызнаў, што былі парушаныя грамадзянскія і палітычныя правы актывісткі, і абавязаў беларускія ўлады аднавіць справядлівасьць. Аднак апошнія не зрабілі нічога, каб рашэньне КПЧ выканаць.

Пэнсіянэрка ў судзе патрабавала кампэнсаваць ёй 7 мільёнаў рублёў: свой гафт яна ацаніла ў 5 мільёнаў (ручная праца, памер - 0,9х0,64 мэтраў, тэрмін выкананьня - паўгода); 2 мільёны ў якасьці маральнай шкоды і плюс да гэтага судовыя выдаткі.

Прадстаўнік адказчыка (Міністэрства фінансаў) пазоў не прызнаў, паколькі адміністрацыйная справа не была адмененая, а, згодна зь беларускім заканадаўствам, толькі ў гэтым выпадку робіцца кампэнсацыя. Апроч таго, Міністэрства замежных спраў патлумачыла, што рашэньне Камітэту па правах чалавека носіць, маўляў, «рэкамэндацыйны» характар.

Суд прыняў рашэньне не на карысьць аўтарытэту Рэспублікі Беларусь: судзьдзя Валянціна Кавалёва адмовіла ў задавальненьні пазову Антаніны Піванос, матывуючы сваё рашэньне «неабгрунтаванасьцю».

**17.05.2013** Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску Алена Протас, упершыню судзячы дэмакратычных актывістаў, прысудзіла **сябрам партыі БНФ Леаніду Аўтухову** і **Кастусю Смолікаву** па 30 базавых велічыняў (па 3 мільёны) штрафу на кожнага. Аднак найбольш прысутных на працэсе актывістаў, журналістаў і праваабаронцаў уразіў не памер штрафаў, а тое, што судзьдзя практычна пазбавіла


Віктар Стукаў

старшыню абласной суполкі партыі БНФ Леаніда Аўтухова магчымасьці ўдзельнічаць у судовым працэсе.

Алена Протас каля сямі разоў адхіляла хадайніцтвы Аўтухова, каб запрасіць перакладчыка, бо ён недасканала валодае расейскай мовай. Судзьдзя адмовіла ў гэтым, заявіўшы, што Леанід Аўтухоў вучыўся ў школе і там вывучаў расейскую мову. У такім выпадку, на яе думку, перакладчык не патрэбны. На пытаньне, ці вучыла яна ў школе беларускую, і чаму ня можа фармуляваць свае пытаньні на гэтай дзяржаўнай мове, Алена Протас не адказала. Спадар Аўтухоў быў вымушаны заявіць хадайніцтва аб адводзе судзьдзі, але яно таксама было адхілена. Калі ж ён зьвярнуўся са скаргай на неправамоцныя дзеяньні судзьдзі Протас да старшыні суду, то ў адказ пачуў, што ягоную скаргу разгледзяць і дадуць адказ цягам месяцу.

Без перакладчыка Аўтухоў ня мог быць пэўным, што ўсё разумее падчас працэсу, і таму шмат разоў перапытваў альбо не адказваў на дзе-якія пытаньні судзьдзі. Алена Протас загадала, каб сакратарка запісала ў пратакол, што Аўтухоў адмаўляецца даваць тлумачэньні. Але ён не пагадзіўся, і папрасіў занатаваць адваротнае: што гатовы адказваць на пытаньні суду, калі будзе мець магчымасьць іх зразумець. На якой мове запісваюцца словы Аўтухова і ягонага аднапартыйца Смолікава, які таксама гаварыў па-беларуску, даведацца так і не ўдалося. Таму актывісты ня пэўныя, што іх паказаньні не былі скажоныя праз непрафэсійны пераклад.

Не дапамагло нават апэляваньне да канстытуцыі: Леанід Аўтухоў даводзіў, што кожны грамадзянін мае права карыстацца роднай мовай, і ніхто ня мае права дыскрымінаваць чалавека па нацыянальнай прыкмеце. Але судзьдзя стаяла на сваім. І вынесла абвінаваўчую пастанову: прызнала Леаніда Аўтухова і Кастуся Смолікава вінаватымі ў парушэньні заканадаўства аб СМІ: 22 сакавіка, перад Днём Волі, актывісты раздавалі ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» партыйны бюлетэнь «Магістрат», іх затрымалі, абвінавацілі ў закліках да арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу і пасадзілі на 5 сутак, празь месяц супраць іх было выстаўлена яшчэ адно абвінавачаньне – колькасьць канфіскаваных асобнікаў бюлетэня перавышае заяўлены наклад. Прычым бюлетэні супрацоўнікі міліцыі ў прысутнасьці затрыманых не пералічвалі.

Падчас судовага працэсу міліцыянты сьведчылі, ужываючы такую адзінку вымярэньня, як «вялікі стос» ці «тоўсты пачак». Судзьдзю Алену Протас такая аргумэнтацыя цалкам задавальняла. Яна толькі ўдакладняла, ці выглядала гэта большым за дазволеныя заканадаўствам 299 асобнікаў. І міліцыянты згаджаліся. Працэс доўжыўся каля 2-х гадзінаў.

**03.06.2013** Судзьдзі пакінулі без задавальненьня касацыйную скаргу **старшыні суполкі незалежнага прафсаюзу Віктара Стукава**. Той спрабаваў абскардзіць паста-

нову Полацкага гарадзкога суду, які пацьвердзіў слушнасьць звальненьня актывіста з прадпрыемства "Полацак-Шкловалакно". На паседжаньні судовая калегія вырашыла, што Полацкі гарсуд вынес справядлівую пастанову пра законнасьць звальненьня кіраўніка пяршоўкі СПБ.

У абласным судзе Віктар Стукаў даводзіў, што полацкая судзьдзя Ірына Даротка не ўлічыла ніводнага аргумэнту на ягоную карысьць. Не зьвярнула ўвагі на тое, што прафсаюз не даваў згоды на яго звальненьне. Не ўлічыла і вынікі экспэртызы сродкаў бясьпекі працы, прызнаных шкоднымі для работнікаў. Абласны суд таксама не прыняў гэты аргумэнт, гаворыць Віктар Стукаў:

"Мяне звольнілі за парушэньні патрабаваньняў рэжыму і аховы працы. У прыватнасьці, аднойчы заўважылі адсутнасьць акуляраў, у якіх трэба працаваць. Гэтыя акуляры ніхто ня хоча насіць, бо яны нязручныя і болей шкодзяць, чымся дапамагаюць. За ўласны кошт я замовіў экспэртызу, якая пацьвердзіла: ад акуляраў ня толькі няма карысьці, але хутчэй наадварот… Полацкі гарадзкі суд вырашыў, што паколькі іх загадана насіць, то і адмова ад гэтага кваліфікуецца як парушэньне. Абласны суд таксама пагадзіўся. Адпаведна, абодва суды "легалізавалі" рашэньне адміністрацыі "Шкловалакна", якая патрабуе, каб работнікі карысталіся непрыдатнымі для аховы здароўя сродкамі".

Віктар Стукаў перакананы, што ягонае звальненьне з прадпрыемства зьвязанае з узмацненьнем даверу да СПБ – і на "Полацак-Шкловалакне", і на іншых полацкіх прадпрыемствах. І ў гэтым суды падтрымалі пазыцыю адміністрацыі.

**12.06.2013** У Віцебскім абласным судзе былі разгледжаныя дзьве скаргі апазыцыйных палітыкаў. **Актывіст КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** спрабаваў аспрэчыць рашэньне Кастрычніцкага райсуду, дзе яму прысудзілі штраф за несанкцыянаваны пікет у дзень угодкаў Чарнобыльскай трагедыі. **Старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў** падаваў касацыйную скаргу на рашэньне таго ж суду: за распаўсюд партыйнага бюлетэню «Магістрат» яму прысудзілі штраф як парушальніку заканадаўства пра СМІ. Абедзьве касацыйныя скаргі адмовілася задаволіць судзьдзя Ірына Смалякова.

Леанід Аўтухоў: «Судзьдзя пачала разбор, нават не патлумачыўшы мне мае правы. Сказала: „Вы тут па тры разы на месяц судзіцеся, усе вашыя правы мусіце ведаць!“ Я прасіў, каб выклікалі перакладчыка — гэта ж таксама маё права. Але судзьдзя заявіла, што я вывучаў расейскую мову ў школе і таму перакладчык мне не патрэбны. Пасьля гэтага я папросту выйшаў з залі».

Рашэньне спадарыня Смалякова агучыла ў адсутнасьць актывіста: пакінуць рашэньне райсуду ад 17 траўня бязь зьменаў. Дык што аштрафаваны Леанід Аўтухоў павінен выплаціць 3 мільёны рублёў за перавышэньне дазволенага накладу бюлетэню «Магістрат», хоць ён і настойваў, што пералічваньне ў ягонай прысутнасьці не праводзілася, а працэс у Кастрычніцкім райсудзе праходзіў з парушэньнямі.

Паводле сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава, разбор ягонай скаргі таксама заняў у абласным судзе ўсяго некалькі хвілінаў. І з тым самым вынікам: рашэньне Кастрычніцкага райсуду пакінуць у сіле, за несанкцыянаваны пікет сплаціць штраф памерам 2 мільёны рублёў.

Ян Дзяржаўцаў: «Я тлумачыў, што гэта быў не пікет, а выказваньне маёй пазыцыі адносна будаўніцтва АЭС у Беларусі. Але судзьдзя Смалякова хутка зачытала пастанову, што незаконны пікет быў і што я аштрафаваны на законных падставах. Выйшаўшы з залі, мы з Аўтуховым хацелі трапіць на працэс Андрэя Гайдукова, якога судзілі недзе на вышэйшых паверхах. Але нас не прапусьцілі вышэй за першы, дзе разьбіраліся нашы скаргі. Сказалі: суд закрыты. І я ніколі яшчэ ня бачыў у будынку абласнога суду так шмат міліцыянтаў у форме ды ў цывільным».

## Факты парушэньняў выбарчага заканадаўства

**09.07.2012** Аб’яднаная грамадзянская партыя плянавала вылучыць сваіх прадстаўнікоў у склад 7-мі з 14-ці акруговых выбарчых камісіяў Віцебскай вобласьці. Адпаведны пратакол паседжаньня Палітрады АГП быў дасланы ў Віцебск 6 ліпеня раніцай экспрэс-поштай. Прыйшоў ліст да 18:00, у пятніцу, апошні дзень падачы. Аднак, як паведамляецца на сайце АГП, дата па штэмпелі цяпер ня ўлічваецца. У аблвыканкаме палічылі, што пратакол ад АГП прыйшоў са спазьненьнем - маўляў, яны атрымалі яго толькі 9-га, - таму ніводзін прадстаўнік АГП у склад выбарчых камісіяў ня быў уключаны.

**09.07.2012** Па ўсёй краіне адбылося фармаваньне акруговых выбарчых камісіяў па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Дэмакратычная апазыцыя ўвесь час прапаноўвае ўладам дзеля легітымнасьці выбарчага працэсу ўключаць у склад камісіяў прадстаўнікоў апазыцыйных структур. Але колькасьць уключаемых прадстаўнікоў фільтруецца выканаўчай вэртыкальлю, і ў камісіі ў абсалютнай большасьці трапляюць толькі тыя прадстаўнікі, на каго магчыма ўплываць, або тыя, хто ня здольны займаць прынцыповай пазыцыі.

На Віцебшчыне ў склад 14 акруговых камісіяў было вылучана 243 прадстаўнікі. Сярод гэтых прадстаўнікоў было і 9 прадстаўнікоў ад Партыі БНФ. У тым ліку і **Вольга Аўтухова**, **сябра Партыі БНФ**, якую прапанавалі ў Віцебскую сельскую акруговую выбарчую камісію. Але як і падчас папярэдніх выбарчых кампаніяў 2004 і 2008 гадоў прадстаўніка ад дэмакратычнай апазыцыі Вольгу Аўтухову зноў не ўключылі ў акруговую камісію. Наогул, з 9 вылучэнцаў Партыі БНФ у склад акруговых камісіяў уключылі толькі двух – 22% ад вылучаных прадстаўнікоў. Гэта прыблізна ў чатыры разы менш, чымся доля ўключаных прадстаўнікоў ад праўладных партыяў і арганізацыяў.

Цяпер выбарчую кампанію у Палату прадстаўнікоў на Віцебшчыне будуць арганізоўваць 14 камісіяў, якія складаюцца пераважна з надзейных прадстаўнікоў існуючай улады.

**17.07.2012** “Аршанская газета” дае неіснуючыя тэлефоны выбаркамаў. У № 79 выданьня за 17 ліпеня апублікаваныя зьвесткі пра ўчасткі для галасаваньня па выбарах Палаты прадстаўнікоў па Аршанскім раёне з указаньнем іх межаў і нумароў тэлефонаў участковых камісіяў. Праўда, не на ўсе зь іх можна датэлефанавацца. “Няправільна набраны нумар. Калі ласка, удакладніце нумар і ператэлефануйце, - гэтую фразу чуюць у слухаўцы выбаршчыкі, якія тэлефануюць на пазначаны ў газэце нумар тэлефону ўчастковай камісіі па Крапівенскім участку № 10. Як паведамілі ў Аршанскім вузьле электрасувязі, гэты нумар бесправаднога тэлефону (WLL) зьняты яшчэ 5 ліпеня.

**20.07.2012** Жыхары дому № 32 па вуліцы Энэргетыкаў Новалукомлю павінны на маючых адбыцца выбарах у Палату прадстаўнікоў галасаваць двойчы. Такая выснова напрошваецца з апублікаванага на сайце Чашніцкага райвыканкаму рашэньня № 542 аб стварэньні ўчасткаў для галасаваньня. У адпаведнасьці з гэтым рашэньнем вышэйназваны дом уключаны ў склад участку для галасаваньня № 77, разьмешчанага ў Палацы культуры энэргетыкаў Лукомальскай ДРЭС… і ў склад


Мікалай Статкевіч

участку для галасаваньня № 78, які знаходзіцца ў сярэдняй школе № 2 гораду Новалукомлю.

**20.07.2012** У рэгістрацыі ініцыятыўных груп за вылучэньне **Мікалая Статкеівіча** адмовілі ўсе 14 акруговых камісіяў Віцебшчыны, у якія падаваліся адпаведныя дакумэнты. Паводле **Аляксея Гаўруцікава**, віцебскага аднапартыйца палітвязьня, мэтай падачы дакумэнтаў было прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці да таго, што ў беларускіх турмах людзей утрымліваюць за апазыцыйныя погляды.

Першай адмовілася рэгістраваць ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за вылучэньне Мікалая Статкевіча камісія Віцебскай Кастрычніцкай акругі № 20. **Назіральнік Анатоль Родзік**, сябар партыі левых “Справядлівы сьвет”, прысутнічаў на паседжаньні камісіі: “Не зарэгістравалі групу Статкевіча, назваўшы цэлы шэраг парушэньняў. Па-першае, няправільна афармленая даверанасьць ад імя Статкевіча. Па-другое, ён знаходзіцца ў турме № 4 гораду Магілёва, пра гэта ёсьць даведка. А паводле Выбарчага кодэксу, у выбарах ня маюць права ўдзельнічаць асуджаныя і зьняволеныя, якія адбываюць тэрмін пакараньня. Урэшце, у заяве на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы было пазначана, што яе арганізуюць для ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў 4-га скліканьня, а насамрэч – 5-га”.

“Нумар скліканьня тут ні на што не ўплывае. Гэта сьмешна! І мы ўсе гэта разумеем. Увогуле дакументы мусіць падаваць патэнцыйны ўдзельнік выбараў, але ж Мікалай Статкевіч ня можа гэтага зрабіць! Людзі, вартыя таго, каб быць абранымі ў парлямэнт, у нас сядзяць у турмах. І мы хочам прыцягнуць увагу да гэтай праблемы. Таму падаем заявы на рэгістрацыю ва ўсе 14 камісіяў Віцебшчыны”, - сказаў Аляксей Гаўруцікаў, сябра і аднапартыец Мікалая Статкевіча.

**24.07.2012** “Голас Сенненшчыны” апублікаваў бясплатную рэкляму праўладнага кандыдата. Тэмай публікацыі стала вылучэньне на кандыдата ў дэпутаты парлямэнту Аляксандра Папкова, які ўжо зьяўляецца дэпутатам палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Паводле артыкулу “Вылучаны кандыдат у дэпутаты па Сеньненскай выбарчай акрузе”, дзейнага дэпутата вылучыў калектыў ДЛГУ «Багушэўскі лясгас». На канфэрэнцыі прысутнічалі 53 дэлегаты ад 324 чальцоў працоўнага калектыву, а таксама прадстаўнікі улады - Зоя Фаміна, намесьніца старшыні райвыканкаму, і Любоў Трубека, старшыня выканкаму Багушэўскага пасялковага Савету дэпутатаў.

“Любоў Трубека нагадала землякам, што з дапамогай Аляксандра Папкова ўдалося абмежаваць доступ хворых з адкрытай формай сухотаў у грамадзкія месцы Багушэўску, адрамантаваць і ўкамплектаваць сучасным абсталяваньнем паліклініку,

заасфальтаваць шэраг вуліц, вырашыць праблему газыфікацыі ўсходняй часткі гарпасёлку. На думку Л. Трубекі, багушэўцы, жыхары Сеньненскага, іншых раёнаў, што ўваходзяць у склад выбарчай акругі № 30, калі выберуць сваім прадстаўніком у найвышэйшым заканадаўчым воргане краіны Аляксандра Папкова, у далейшым могуць разьлічваць на дапамогу чалавека, які мае вопыт работы на пасадах рознага ўзроўню — ад кіраўніка сельгаспрадпрыемства да намесьніка прэм'ер-міністра" – піша "Голас Сенненшчыны".

Як незаконную датэрміновую агітацыю можна расцэньваць і наступныя радкі: "Яго дэпутацкая работа носіць прадметны характар, вядзецца ў інтарэсах выбаршчыкаў. Нездарма на прыём да яго заўжды прыходзіць шмат людзей. Аляксандар Папкоў за апошнія 4 гады добра вывучыў праблемы рэгіёну".

Аўтар артыкулу Аляксандар Лазюк – дарэчы, рэдактар "Голасу Сенненшчыны" – трансьлюе і абяцаньні будучага кандыдата: "Пасьля таго, як удзельнікі канфэрэнцыі прагаласавалі за вылучэньне Аляксандра Папкова ў якасьці кандыдата ў дэпутаты, ён не хаваў, над чым ён зьбіраецца працаваць у акрузе. Для багушэўцаў і жыхароў навакольных вёсак актуальна будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі. Найбліжэйшымі гадамі будуць пачатыя работы па добраўпарадкаваньні Сянна і Талачына. Кандыдат эканамічных навук Аляксандар Папкоў абяцае актыўна працаваць у законатворчай сфэры, якая зьяўляецца галоўнай у дзейнасьці дэпутата".

Пакуль "Голас Сенненшчыны" – адзіная рэгіянальная газэта, дзе надрукаваныя матэрыялы, якія можна расцэньваць як піяр праўладных кандыдатаў.

А вось яшчэ адна "раёнка" Віцебшчыны, "Лепельскі край", вырашыла перад выбарамі запалохаць сваіх чытачоў. Тут працытавалі выказваньне старшыні Цэнтарвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай пра тое, што "з боку апазыцыі на выбарах будзе шмат правакацыяў". На гэтую тэму Л. Ярмошына выказалася у інтэрвію тэлеканалу "Беларусь 1". І "раёнка" дасканальна паўтарыла ўсё "страшылкі" – пра тое, што "кожнае дзеяньне выбарчых камісіяў і ўладаў знарок будзе абскарджвацца", што "націск будзе рабіцца на тое, каб вывесьці нас зь цярпеньня" і "кампанія пройдзе ў нэрвовай абстаноўцы".

**25.07.2012** Афіцыйная абласная газэта "Народнае слова" агітуе за праўладных прэтэндэнтаў у кандыдаты. Выданьне пайменна ўзгадала патэнцыйных кандыдатаў, блізкіх да ўлады, а наконт астатніх абышлося адным сказам. У артыкуле ад 25 ліпеня "Прэтэндэнты пайшлі ў народ" гаворыцца, што "сярод прэтэндэнтаў апынулася нямала народных выбраньнікаў мясцовых Саветаў". У тэксьце пералічваюцца прозьвішчы дзесяці прэтэндэнтаў, у прыватнасьці, дэпутатаў абласнога Савету віцебскага настаўніка матэматыкі Міхаіла Волкава, дырэктара Віцебскай кадэцкай вучэльні Ўладзімера Шыцько, дырэктара мэдычнага каледжу Аляксандра Цацохі.

Афіцыйны ворган аблвыканкаму прыгадвае таксама дэпутата Віцебскага гарсавету Сяргея Бохана (намесьнік начальніка Віцебскага аддзяленьня Беларускай чыгункі), старшыняў Полацкага і Аршанскага гарсаветаў дэпутатаў Натальлю Гуйвік і Людмілу Дабрыніну, кіраўнікоў Лепельскага, Аршанскага і Шаркоўшчынскага райвыканкамаў – адпаведна Пятра Шыкшняна, Уладзімера Дзедушкіна і


Мікалай Петрушэнка

Мечыслава Морхата. Асаблівы акцэнт робіцца на зьяўленьне ў сьпісе патэнцыйных кандыдатаў намесьніка начальніка абласнога УКДБ Васіля Папко.

Астатнім прэтэндэнтам прысьвячаецца ўсяго адзін сказ пры канцы артыкулу. Пра іх гаворыцца як бы між іншым: “Сярод патэнцыйных кандыдатаў пакуль восем чалавек палічылі неабходным заявіць аб сваёй партыйнасьці, дык што ў выбарчай гонцы ўжо ўдзельнічаюць па чатыры сябры Беларускай партыі левых «Справядлівы сьвет» і Партыі БНФ”. Прозьвішчы апанэнтаў праўладных прэтэндэнтаў не называюцца, што ставіць іх у вачох звычайных чытачоў-выбарцаў у заведама пройгрышнае становішча. У такім кантэксьце гэткі прыём успрымаецца як непрыхаваная агітацыя і парушэньне выбарчага заканадаўства, бо агітацыйная кампанія яшчэ не распачалася.

Цікава, што гарадзкая газэта “Віцьбічы” (афіцыйны рупар Віцебскага гарвыканкаму) у артыкуле, які зьявіўся ў той самы дзень, навогул не называе ніякіх прозьвішчаў. Але кажа пра зарэгістраваныя ініцыятыўныя групы 36 прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат, у той час як “Народнае слова” падае лічбу 35.

**26.07.2012 Актывіст кампаніі «Наш дом»** і партыі **«Справядлівага сьвету» Мікалай Петрушэнка** накіраваў у акруговую камісію па Аршанскай Дняпроўскай акрузе № 27 заяву з просьбайануляваць рэгістрацыю ягонай ініцыятыўнай групы. Заяву Петрушэнкі камісія разгледзела. Было прынятае рашэньне накіраваць гэтую заяву ў пракуратуру, бо камісія ўгледзела ў ёй парушэньне арт. 47 Выбарчага кодэксу РБ “Недапушчальнасьць злоўжываньня правам перадвыбарчай агітацыі, агітацыі па рэферэндуме.” Таксама камісія вынесла Петрушэнку папярэджаньне.

У такіх дзеяньнях камісіі прасочваецца нейкая нэрвовасьць і неадэкватнасьць. Папершае, акруговая камісія можа выносіць папярэджаньні толькі кандыдатам у дэпутаты і іх даверанным асобам. А грамадзянін Петрушэнка на цяперашні момант такім статусам не валодае. Па-другое, каб у заяве аб зьняцьці з рэгістрацыі ініцыятыўнай групы ўбачыць прыкметы агітацыі, трэба мець ужо занадта разьвітае ўяўленьне.

**27.07.2012 Старшыня Гарадоцкай раённай суполкі парты БНФ Леанід Аўтухоў**, які зьбірае подпісы за сваё вылучэньне ў кандыдаты ў Віцебскай сельскай акрузе № 21, напісаў скаргу ў Цэнтральную выбарчую камісію на тое, што акруговая камісія адмовілася паказаць яму сьпіс ініцыятыўнай групы Ўладзімера Шыцько. Паводле зьвестак Леаніда Аўтухова, у вёсках на тэрыторыі акругі подпісы за яго вылучэньне зьбіраюць зусім не сябры ініцыятыўных груп. Актывіст гаворыць, што

пра такія выпадкі яму паведамляюць самі выбарцы.

“Канкурэнт” спадара Аўтухова – дырэктар кадэцкай вучэльні Ўладзімер Шыцько, і апазыцыянэр лічыць, што ў гэткай сытуацыі можа незаконна выкарыстоўвацца так званы “адміністрацыйны рэсурс”.

Яшчэ адна скарга Леаніда Аўтухова – на тое, што ў акруговай камісіі адмовіліся паказаць яму пратаколы паседжаньняў. Ён лічыць, гэта таксама адкрытая інфармацыя. Але ў камісіі сказалі, што для выбарцаў і ўдзельнікаў выбарчай кампаніі цалкам дастаткова інфармацыі, разьмешчанай на афіцыйных сайтах райвыканкамаў.

**31.07.2012** Дзяржаўныя СМІ Віцебшчыны асьвятляюць выбары зь недакладнасьцямі. Таксама яны працуюць выключна на станоўчы імідж патэнцыйных “кандыдатаў ад улады”. Такія высновы робіць **назіральнік ад БХК Анатоль Родзік**, прааналізаваўшы шэраг публікацыяў у абласных газэтах “Народнае слова” і “Віцебскі рабочы”.

Спадар Родзік кажа, што заўважыў недакладнасьці ўжо з таго моманту, як газэты пачалі распавядаць чытачам пра колькасьць зарэгістраваных ініцыятыўных груп: “Гэта можа заўважыць кожны чытач. Вось газэта ‘Віцебскі рабочы’ за 21 ліпеня піша пра тое, што ў вобласьці было пададзена 53 заявы на рэгістрацыю груп па зборы подпісаў. Тая самая газэта ад 26 ліпеня паведамляе, што зарэгістравана ўжо толькі 39 заяў, і ініцыятыўных груп зарэгістравана 36. Здаецца, што так ‘прыхавалі’ заявы ад прыхільнікаў Мікалая Статкевіча, пададзеныя ў 14 акруговых камісіяў Віцебшчыны”.

“Другая абласная газэта, ‘Народнае слова’, таксама спачатку інфармуе чытачоў пра рэгістрацыю 36 ініцыятыўных груп. Але праз пару дзён на старонках выданьня зьяўляецца артыкул пра тое, што 35 прэтэндэнтаў атрымалі права распачаць збор подпісаў… Такое стаўленьне да інфармацыі пра выбары, калі не абыходзіцца без памылак і недакладнасьцяў, адлюстроўвае і адносіны да саміх выбараў – як да нечага нязначнага ці незалежнага ад беларусаў, для якіх нават колькасьць ініцыятыўных груп уважліва падлічыць ня хочуць!” - кажа Анатоль Родзік.

**04.08.2012** Атрымаўшы адказ на сваю скаргу з цэнтральнай выбарчай камісіі, **сябра партыі БНФ Леанід Аўтухоў** з Гарадка, які вылучаецца ў дэпутаты праз збор подпісаў, зьвярнуўся ў Вярхоўны суд. Ён просіць судзьдзяў найвышэйшага судовага воргану краіны прызнаць незаконным рашэньне акруговай выбарчай камісіі, падтрыманае старшынёй ЦВК. Таксама ён просіць вынесьці асобнае вызначэньне ў адрас спадарыні Лідзіі Ярмошынай наконт недапушчальнасьці парушэньня Выбарчага кодэксу.

Інцыдэнт, які вымусіў апазыцыйнага палітыка накіраваць скаргу сьпярша ў ЦВК, а пасьля ў Вярхоўны суд, адбыўся тыдзень таму. Леанід Аўтухоў зьвяртаўся у акруговую выбарчую камісію з заявай аб выдачы яму сьпісу ініцыятыўнай групы дырэктара кадэцкай вучэльні Ўладзімера Шыцько, які, як і Аўтухоў, вылучаецца ў кандыдаты праз збор подпісаў па Віцебскай сельскай акрузе № 21. Аднак у задавальненьні просьбы, выкладзенай у заяве, яму адмовілі.


Вольга Аўтухова

Факт утойваньня інфармацыі сябрамі акруговай выбарчай камісіі, на думку Леаніда Аўтухова, пацьвярджае тое, што цяперашнія парлямэнцкія выбары не зьяўляюцца ані адкрытымі, ані публічнымі. І калі ўжо на пачатковым этапе выбарчай кампаніі старшыня Цэнтарвыбаркаму Лідзія Ярмошына падтрымлівае рашэньні акруговых камісіяў, якія робяць выбарчы працэс закрытым і негалосным, дык, відавочна, лічыць гэтыя выбары сумленнымі і справядлівымі нельга, мяркуе Леанід Аўтухоў.

**11.08.2012** Віцебскі абласны камітэт БСДП (Грамада) і Віцебская абласная Рада Партыі БНФ патрабуюць прызнаць рашэньне Гарадоцкага райвыканкаму ад 8 жніўня па фармаваньні ўчастковых выбарчых камісіяў Гагарынскай № 36 і Савецкай № 34 незаконным, якое ўшчамляе інтарэсы сяброў партыі. У пададзеных скаргах адзначаецца, што неўключэньне ў выбарчыя камісіі **Леаніда Гаравога** (**БСДП [Грамада]**), **Вольгі Аўтуховай** (**Партыя БНФ**) адбылося з парушэньнем нормаў выбарчага заканадаўства аб адкрытасьці і галоснасьці, якія Гарадоцкі раённы выканаўчы камітэт праігнараваў.

Фармаваньне ўчастковых выбарчых камісіяў па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага скліканьня Гарадоцкім раённым выканаўчым камітэтам праводзілася закрыта і таемна - на паседжаньні нейкай працоўнай групы. Само ж паседжаньне райвыканкаму, на якім прымалася рашэньне на падставе праекту, падрыхтаванага працоўнай групай, адбылося з грубымі парушэньнямі выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а менавіта: склад сяброў райвыканкаму (сьпісачны і прысутны) не абвяшчаўся, абмеркаваньне вылучаных у склад камісіі кандыдатур не праводзілася, абмяркоўваемае пытаньне на галасаваньне ня ставілася.

Працэдура «фармаваньня» трыццаці адной участковай выбарчай камісіі Гарадоцкага раёну па колькасным і пэрсанальным складзе заняла ўсяго толькі 15 хвілін. Дэлегаваныя апазыцыйнымі партыямі прадстаўнікі стоадсоткава не былі ўключаныя ў склад участковых камісіяў. Крытэр фармаваньня ўчастковых выбарчых камісіяў не вядомы. Заяўнікі лічаць, што пры такіх абставінах рашэньне Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэту ад 8 жніўня 2012 году «Аб утварэньні ўчастковых выбарчых камісіяў па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага скліканьня» зьяўляецца незаконным, якое ўшчамляе правы сяброў партыяў.

Адпаведна заяўнікі патрабуюць абавязаць Гарадоцкі раённы выканаўчы камітэт


Леанід Гаравы

прыняць новае рашэньне па фармаваньні ўчастковых выбарчых камісіяў па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага скліканьня.

**18.08.2012 Леанід Гаравы**, **актывіст руху "За свабоду"**, **сябар БСДП (Грамада)** атрымаў хуткі адказ з Цэнтарвыбаркаму на заяву аб выключэньні са складу Гагарынскай участковай камісіі № 36 трох сябраў, прызначэньне якіх адбылося з парушэньнямі нормаў Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Леанід Гаравы 16 жніўня накіраваў заяву ў Цэнтарвыбаркам, а ужо 18 жніўня атрымаў адказ за подпісам Л. Ярмошынай пра тое, што ў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэферэндумаў няма паўнамоцтваў "па прымусу выканаўчых органаў да зьмяненьня прынятых імі рашэньняў".

Пры гэтым у Выбарчым кодэксе ў артыкуле 33 існуе норма аб тым, што Цэнтарвыбаркам мае паўнамоцтвы на ажыцьцяўленьні на ўсёй тэрыторыі краіны кантролю за выкананьнем выбарчага заканадаўства. Склалася патавая сытуацыя, калі суд не кіраваўся нормамі выбарчага заканадаўства і не зьвярнуў увагі на яго парушэньні пры вылучэньні трох сябраў Гагарынскай камісіі, пра якія казаў у судовым паседжаньні Леанід Гаравы. А Цэнтарвыбаркам таксама ухіліўся ад разгляду заявы па сутнасьці выяўленых парушэньняў пры вылучэньні грамадзян у Гагарынскую выбарчую камісію.

**18.08.2012** Раёнка «Голас Сенненшчыны», не дачакаўшыся рэгістрацыі кандыдатаў, распачала раскрутку Аляксандра Папкова. Газэта выйшла зь перадавіцай "Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ 4-га скліканьня Аляксандр Папкоў дапаможа пабудаваць у Багушэўску перасоўную АЗС". Калі чытаеш матэрыял, становіцца абсалютна незразумелым, пры чым тут Аляксандар Папкоў.

У Багушэўск прыехаў першы намесьнік старшыні аблвыканкаму Ўладзімер Навацкі, які зь мясцовай адміністрацыяй і вырашаў пытаньні будаўніцтва аўтазапраўкі. У артыкуле ж Навацкі прыгадваецца толькі мімаходам, а асноўныя лаўры "змагара за народнае шчасьце" аддаюцца менавіта Папкову, які да таго ж названы кандыдатам у дэпутаты, хоць рашэньня аб рэгістрацыі акруговая камісія па Сеньненскай акрузе № 30 яшчэ не прымала.

Аўтар артыкулу Аляксандар Лазюк, відаць, сам адчувае некаторую фальшывасьць і паказушнасьць працэсу. Бо між іншым прыгадвае, што… "некаторая неадпаведнасьць пляцоўкі (для будаўніцтва АЗС) існуючым прыродаахоўным, санітарным і пажарным нарматывам лёгка ўхіляецца". І, нарэшце, ён сам ня можа па-


Уладзімер Правальскі

збавіцца ад сумненьняў у тым, што такая аўтазапраўка наогул будзе пабудаваная. Толькі гэтым можна растлумачыць наступныя радкі з артыкулу: "Была вызначаная нават канкрэтная дата запуску АЗС у эксплёатацыю, якую называць мы ня будзем. Каб не сурочыць. Паведамім лепш тады, калі факт будзе мець месца". Гэта азначае, што насамрэч нявырашанымі застаюцца шматлікія праблемы, і зусім ня факт, што станцыя будзе навогул пабудаваная.

**23.08.2012** Сябры партыі КХП БНФ падалі 7 заявак на правядзеньне пікетаў за байкот ва ўсе гарадзкія адміністрацыі і атрымалі столькі ж адмоваў. Пікеты забаранілі з прычыны адсутнасьці ў заяўнікаў дамоваў са службамі, якія маюць абслугоўваць мерапрыемствы.

Прыхільнікі байкоту спадзяваліся, што падчас агітацыйнай кампаніі, змогуць ладзіць пікеты за байкот у спрошчаным парадку, не заключаючы дамоваў з ЖКГ, міліцыяй і мэдыкамі на абслугоўваньне пікетаў. Адзін з заяўнікаў пікетаваньняў **Ян Дзяржаўцаў** лічыць, што забараніўшы пікеты, улады наўпрост парушылі Канстытуцыю: "Пра якія выбары можа весьціся гаворка, калі ідзе гульня ў адны вароты? За выбары бяз выбараў. Калі ласка, ідзіце агітуйце, але, крый божа, не за байкот. Аднак жа, згодна з Канстытуцыяй, можна агітаваць і за байкот. Апынаецца, што – не… Нават Канстытуцыю парушаюць".

**25.08.2012** Акруговыя выбарчыя камісіі Віцебску адмовілі ў рэгістрацыі ў якасьці кандыдатаў чатыром прэтэндэнтам на ўдзел у выбарах.

Найбольш патэнцыйных кандыдатаў "адсеяла" выбарчая камісія Віцебскай-Кастрычніцкай выбарчай акругі № 20. Тут зарэгістравалі толькі 4 прэтэндэнтаў з 7, у тым ліку трох партыйных вылучэнцаў: **ад партыі левых "Справядлівы сьвет"** - **Аляксандара Вінаградава**, **Аляксандра Дзядзінкіна - ад КПБ**, **Андрэя Рэзьнічэнку** - **ад АГП**. Не зарэгістравалі **актывіста кампаніі "Гавары праўду" Сяргея Парсюкевіча** і **Ўладзімера Правальскага**, у якіх выявілі недакладнасьці ў пададзеных на праверку подпісах, а таксама **Сяргея Рогалева**, **вылучэнца ад ЛДПБ**, – у сувязі зь несапраўднымі дадзенымі ў дэкляацыі пра прыбыткі і маёмасьць. Сяргей Парсюкевіч і Ўладзімер Правальскі зьвярнуліся са скаргамі ў ЦВК.

Актывіст кампаніі "Гавары праўду" Сяргей Парсюкевіч лічыць, што яго не зарэгістравалі знарок: "Я зразумеў, што будуць праблемы, калі мяне не паклікалі на папярэдняе паседжаньне камісіі, дзе вырашалася пытаньне, каб наладзіць дадатковую праверку здадзеных мной подпісаў. Паводле вынікаў абедзьвюх праверак, у падпісных аркушах нібыта знайшлі шмат недакладнасьцяў, і таму подпісы пры-

зналі несапраўднымі. Буду гэта аспрэчваць, бо подпісы сапраўдныя, дый ніхто зь людзей падчас праверак ад подпісаў не адмовіўся. Нейкія хібы знайшла пашпартная служба – гэта памылкі ў імёнах, адрасах і гэтак далей. Я магу сабе ўявіць, як гэта бывае: нехта з камісіі ня так прачытаў прозьвішча і ў сьпісе для праверкі напісаў, скажам, "Іваноў" замест "Іванцоў". Тое самае зь лічбамі – у кожнага ж розны почырк… Але магу пра ўсё гэта толькі меркаваць, бо мне не паказалі тыя аркушы, дзе знайшлі памылкі, як я ні прасіў!"

Удзельнік мінулай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі Ўладзімер Правальскі заявіў у ЦВК, што акруговая камісія парушыла выбарчае заканадаўства: "У рашэньні камісіі напісана, што я здаў 1 024 подпісы, гэта яны самі прызнаюць. Пасьля праверкі яны нібыта знайшлі 32 несапраўдныя подпісы. Гэта 16% ад колькасьці правераных, і таму камісія мусіла праводзіць дадатковую праверку. Аднак пра гэта ў рашэньні, дзе мне адмовілі ў рэгістрацыі, нічога не сказана. Яны зрабілі так: аднялі 32 ад 1 024, атрымалі 992 подпісы і запісалі, што мяне не падтрымала неабходная паводле заканадаўства тысяча грамадзян. Такога ў выбарчым заканадаўстве няма, каб штосьці ад чагосьці адымаць."

Выбарчая камісія Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі № 18 зарэгістравала кандыдатамі **Аляксея Гаўруцікава з "Народнай Грамады"**, **актывіста кампаніі "Гавары праўду" Аляксандра Мікуліна**, **сябра ЛДПБ Анатоля Раўнейку** і беспартыйнага настаўніка **Міхаіла Волкава**. Адмоўлена ў рэгістрацыі **прадстаўніцы АГП Ірыне Яскевіч** – камісія знайшла недакладнасьці ў дэкларацыі аб прыбытках і маёмасьці.

У Віцебскай-Чыгуначнай акрузе № 19 зарэгістравалі ўсіх чатырох ахвотных стаць кандыдатамі ў дэпутаты парлямэнту. Гэта намесьнік начальніка Віцебскага аддзяленьня чыгункі **Сяргей Бохан** і тры партыйныя вылучэнцы: **ад Партыі левых "Справядлівы сьвет"** зарэгістравалі **Вадзіма Кузьміна**, **ад Партыі БНФ - Кастуся Смолікава** і **ад ЛДПБ - Дзьмітрыя Шчаглова**.

Па Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акрузе № 17 таксама будуць балятавацца ўсе чацьвёра ахвотных: дзейны дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Генадзь Грыцкевіч**, **Алена Фаміна**, **прыхільніца "Народнай Грамады"** Мікалая Статкевіча, **сябра партыі БНФ Аляксандар Кузьняцоў** і **старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ЛДПБ Сяргей Ярмыкін**.

Зарэгістравалі кандыдатамі ўсіх прэтэндэнтаў на ўдзел у выбарчай гонцы і ў Віцебскай сельскай акрузе № 21. Тут сярод кандыдатаў у дэпутаты дырактар кадэцкай вучэльні **Ўладзімер Шыцько** і двое партыйцаў: **старшыня Гарадоцкай раённай суполкі партыі БНФ Леанід Аўтухоў** і **сябра ЛДПБ Ігар Цеплякоў**.

**25.08.2012** Віцебскага **сацыял-дэмакрата Аляксея Гаўруцікава** папярэдзілі, што ягоны тэлевыступ можа быць зьняты з этэру. Бо ён, паводле словаў дырэктара тэлерадыёкампаніі "Віцебск" Анатоля Камовіча, "дэманстраваў партрэт 'крымінальніка', што зьяўляецца недапушчальным пры цяперашнім рэжыме". Аляксей Гаўруцікаў распавёў, што пасьля запісу ягонага тэлевыступу ў студыю забег чалавек, які назваўся дырэктарам тэлерадыёкампаніі, ды прапанаваў усё перазапісаць нанова:

“Я некалькі разоў паказваў партрэт Мікалая Статкевіча – калі казаў, што я прыхільнік стварэньня ‘Народнай Грамады’ і што патрабую вызваленьня і поўнай рэабілітацыі ўсіх палітвязьняў. Напрыканцы зноў нагадаў, што я за вызваленьне палітзьняволеных, і ў тым ліку Статкевіча, які знаходзіцца ў турме за пратэст супраць фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў. Дырэктар Анатоль Камовіч, які зьявіўся ў студыі пасьля здымак, заявіў, што гэта недапушчальна. Аднак я ад перазапісаў прамовы адмовіўся, і спадар Камовіч сказаў, што будзе раіцца ў ЦВК, ці пускаць мой выступ у этэр”.

**26.08.2012** З пытаньнем, ці мае мае права назіральнік на выбарчым участку выкарыстоўваць разнастайную оптыку - акуляры, бінокаль, манокаль, падзорную трубу, лярнэт і іншыя, - зьвярнуўся ў цэнтральную выбарчую камісію віцебскі актывіст **Кастусь Мардзьвінцаў**.

Адказ, атрыманы ад старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай: карыстацца акулярамі назіральнік мае права, “што тычыцца спэцыяльных аптычных прыбораў, то іх скарыстаньне для ажыцьцяўленьня нагляданьня на ўчастку для галасаваньня выбарчым заканадаўствам не прадугледжана”. На якой падставе, у такім разе, дазваляюцца акуляры, бо ж іх нашэньне таксама “выбарчым заканадаўствам не прадугледжана”, спадарыня Ярмошына не патлумачыла.

Пытаньне наконт прымяненьня сродкаў візуальнага назіраньня для таго, каб прасачыць працэс выдачы бюлетэняў, ход галасаваньня, падлік галасоў, зьяўляецца не такім пустым, як можа падацца на першы позірк. Практыка ранейшых выбараў у Беларусі паказала, што часьцяком на выбарчых участках ад назіральнікаў патрабуюць знаходзіцца ад удзельнікаў выбараў і сяброў выбарчых камісіяў на такой адлегласьці, што ўбачыць нешта можна, сапраўды, толькі калі карыстацца падзорнай трубою або, прынамсі, тэатральным біноклем.

**28.08.2012** Прайшло першае паседжаньне Цэнтральнай выбарчай камісіі наконт разгляду скаргаў незарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У ліку «адмоўнікаў», што асабіста зьявіліся на гэтае паседжаньне, быў і **актывіст грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Парсюкевіч** зь Віцебску. Ён аспрэчваў рашэньне акруговай выбарчай камісіі, якая адмовіла яму ў далейшым удзеле ў выбарчай кампаніі з прычыны фальшаваньняў подпісаў грамадзян, што нібыта мелі месца.

Аднак нягледзячы на тое, што патэнцыйным кандыдатам была праведзеная вялікая праца па зборы доказаў адсутнасьці парушэньняў (узятыя, у прыватнасьці, пісьмовыя заявы выбаршчыкаў, у сапраўднасьці подпісаў якіх усумнілася акруговая камісія, пра тое, што яны сапраўды падпісваліся за прэтэндэнта), ЦВК пакінуў скаргу без задавальненьня.

**29.08.2012** Выступ кандыдата ў дэпутаты **Сяргея Разьнічэнкі** мусіў трансьлявацца напярэдадні ўвечары. Але ў этэр ён так і ня выйшаў. **Актывіст АГП** зьвярнуўся ў Віцебскую тэлерадыёкампанію, дзе яму паказалі паперу з ЦВК. Аднак яго прозьвішча ў дакумэнце пра забарону тэлевыступаў не было.

Сяргей Разьнічэнка распавёў пра сваю гутарку з супрацоўнікамі “Тэлерадыёкам-


Ігар Казьмерчак

паніі Віцебск": "Дырэктара на месцы ў 9:30 не было, намесьніка таксама. Да мяне выйшла жанчына, сказала, што выступ мой учора быў паказаны, і што яна не разумее маіх прэтэнзіяў. Потым да нашай размовы далучыўся рэдактар Юры Давыдоўскі. Толькі ён пацьвердзіў, што тэлевыступ быў зьняты з этэру. Прычына – нібыта забарона ЦВК. Мне паказалі дакумэнт зь нейкімі артыкуламі, паводле якога мой выступ забаронены. Але гэта быў 'ананімны' дакумэнт – там увогуле не было ніводнага прозьвішча. Тым ня менш, спадар Давыдоўскі настойваў, што мой выступ быў накіраваны ў Менск, і менавіта ЦВК прыняў рашэньне яго не трансьляваць. Я запатрабаваў, каб прычыны адмовы мне далі ў пісьмовым выглядзе, і з пазначэньнем менавіта майго прозьвішча".

Сам кандыдат, які балятуецца па Віцебскай-Кастрычніцкай акрузе №20, не выключае, што прычынай нявыхаду ў этэр стала згадка кампаніі АГП "За справядлівыя выбары без Лукашэнкі", пра якую ён гаварыў у сваім тэлевыступе.

**30.08.2012** Напрыканцы ліпеня **назіральнік ад Беларускага Хельсынскага камітэту** пры акруговай камісіі Лепельскай акругі № 23 **Ігар Казьмерчак** зьвярнуўся ў Віцебскі аблвыканкам ў сувязі з адзначанымі ім памылкамі ў рашэньнях аб утварэньні выбарчых участкаў на тэрыторыі акругі.

У адказе, які прыйшоў з аблвыканкаму гаворыцца, што "кіраўніцтвам арганізацыйна-кадравай работы Віцебскага аблвыканкаму разгледжаныя звароты аб недакладнасьці ў рашэньнях Чашніцкага райвыканкаму ад 12 ліпеня 2012 № 524 і Лепельскага райвыканкаму ад 16 ліпеня № 700 аб утварэньні ўчасткаў для галасаваньня па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага скліканьня. У названыя рашэньні ўнесеныя адпаведныя зьмены".

**31.08.2012** Прэтэндэнты на ўдзел у выбарах на Віцебшчыне спрабавалі аспрэчыць рашэньні акруговых выбарчых камісіяў, якія не зарэгістравалі іх у кандыдаты на ўдзел у парлямэнцкіх выбарах. І ўсе атрымалі адмовы.

Так, Цэнтарвыбаркам не задаволіў скаргу **Ірыны Яскевіч**, віцебскай **прадстаўніцы АГП**, якая хацела балятавацца ў Віцебскай-Чкалаўскай акрузе № 18, і якую выбарчая камісія не зарэгістравала на падставе памылкі ў дэклярацыі пра маёмасьць. Аспрэчыць нерэгістрацыю не ўдалося двум палачанам – пэнсіянэру **Сяргею Рабцаву** і стваральніку прыватнага музэю Леніна **Мікалаю Панкрату**. Абодвух не зарэгістравалі, бо камісіі заявілі пра вялікую колькасьць няпраўдзівых подпісаў.



Аляксей Янукевіч

Хібы і памылкі ў падпісных аркушах знайшла камісія Полацкай гарадзкой выбарчай акругі № 28 і ў **актывісткі кампаніі “Гавары праўду” Лідзіі Сагідулінай**. ЦВК падтрымаў гэтае рашэньне.

**31.08.2012 Кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў** па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18 **Аляксей Гаўруцікаў** накіраваў скаргу пракурору Першамайскага раёну Віцебску на дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі і ДПС. Кандыдата ў дэпутаты затрымалі больш як на тры гадзіны, надглядзелі рэчы дачкі і канфіскавалі выбарчыя матэрыялы. Кандыдат патрабуе прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасьці.

**02.09.2012** Віцебскі **сябра КХП БНФ Пётар Сарапеня** распаўсюджваў на Полацкім рынку ўлёткі «Ня будзь скотам», дзе гаварылася пра байкот будучых парляманцкіх выбараў. 100 улётак у яго забралі міліцыянты ў Чыгуначным РАУС. Паводле спадара Сарапені, яго затрымлівалі АМАПаўцы, пабачыўшы ўлёткі ў рукох кагосьці зь мінакоў.

**05.09.2012 Старшыня партыі БНФ Аляксей Янукевіч** браў удзел у спрэчках у якасьці даверанай асобы **старшыні гарадзкой суполкі партыі БНФ Аляксандра Кузьняцова**, кандыдата па Віцебскай-Горкаўскай акрузе № 17. Запіс тэледэбатаў праводзіўся на тэлерадыёкампаніі «Віцебск» 4 верасьня. А 5 верасьня Лідзія Ярмошына агучыла рашэньне, што тыя давераныя асобы, якія самі балятуюцца ў іншых акругах, ня могуць выступаць па радыё і тэлевізіі за кагосьці іншага.

А 19:00 былі праанансаваныя дэбаты кандыдатаў па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18, а ў 19:30 — па Віцебскай-Горкаўскай № 17. Аднак першыя паўгадзіны па тэлевізары ішла праграма «Кошт перамогі», прысьвечаная ўспамінам пра Вялікую айчынную вайну. Потым пачалася трансьляцыя дэбатаў кандыдатаў па 18-й акрузе. Пра тое, што дэбаты іншых кандыдатаў у этэр ня выйдуць, нікога не папярэдзілі.

Аляксандар Кузьняцоў: «Толькі ў 19:40 мне патэлефанавалі з камісіі і папярэдзілі, што дэбаты не пакажуць. А дагэтуль я марна чакаў каля тэлевізара паўгадзіны. Так, за мяне браў удзел у дэбатах Аляксей Янукевіч, лідэр нашай партыі. Але гэта было ўчора. І толькі сеньня Цэнтравыбаркамам былі абвешчаныя новыя „правілы гульні“. Прадстаўніца камісіі сказала, што атрымалі з ЦВК тэлеграму, каб не паказвалі нашы дэбаты. Атрымліваецца, мы змарнавалі час і міжволі падманулі нашых выбаршчыкаў. Нам паведамілі, што мы маем магчымасьць перазапісаць дэбаты 7 верасьня».

У тэледэбатах таксама бралі ўдзел незалежная кандыдатка **Алена Фаміна**, пры-

хільніца Мікалая Статкевіча, і **Аляксандар Грыцкевіч**, дзейны дэпутат Палаты прадстаўнікоў.

**10.09.2012 Давераная асоба** гарадоцкага **кандыдата ў дэпутаты Леаніда Аўтухова Кастусь Мардзьвінцаў** накіраваў скаргу ў суд Чыгуначнага раёну Віцебску на рашэньне Віцебскага райвыканкаму аб забароне агітацыйнага пікету ў вёсцы Буяны. Кастусь Мардзьвінцаў 6 верасьня апавясьціў райвыканкам аб сваім намеры як даверанай асобы кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Віцебскай сельскай выбарчай акрузе №21 зладзіць 10 верасьня пікетаваньне ў вёсцы Буяны Віцебскага раёну. Але ўжо на наступны дзень атрымаў паперу з адмовай у правядзеньні пікету.

У лісьце за подпісам намесьніка старшыні Віцебскага райвыканкаму Генадзя Філіпенкі гаворыцца, што "вёска Буяны Віцебскага раёну ня ўключаная ў сьпіс населеных пунктаў, якія маюць дазвол на правядзеньне масавых мерапрыемстваў". Чыноўнік спасылаецца пры гэтым на рашэньне Віцебскага райвыканкаму ад 8 жніўня 2012 году «Аб вызначэньні месцаў для правядзеньня ў паведамляльным парадку масавых мерапрыемстваў (сходаў па-за памяшканьнямі, мітынгаў, пікетаваньняў), якія арганізуюцца кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага скліканьня, іх даверанымі асобамі».

У сваёй скарзе Кастусь Мардзьвінцаў тлумачыць, што правесьці пікет менавіта ў Буянах было вырашана пасьля атрыманьня пісьмовага звароту ад выбаршчыка – жыхара гэтай вёскі. Той паведаміў, што ён і ягоныя аднавяскоўцы ўжо даўно жывуць ва ўмовах, небясьпечных для жыцьця. Бо па чатырох вуліцах вёскі праходзяць і дагэтуль эксплёатуюцца занядбаныя і безгаспадарныя газаправоды. Сяляне жывуць як на бочцы пораху. Улады ніякіх мер не прымаюць. "Вызваліць выбаршчыкаў ад рэальна створанай пагрозы для іх жыцьцяў і здароўя" і было мэтай пікетаваньня.

"Правядзеньне на зварот выбаршчыка вёскі мэтавага масавага мерапрыемства ў якім-небудзь іншым населеным пункце зьяўляецца загадзя бессэнсоўным і недарэчным. Аднак выбаршчыкі гэтай вёскі, а таксама шмат якіх іншых населеных пунктаў, што знаходзяцца на тэрыторыі Віцебскай сельскай выбарчай акругі № 21, ня маюць ад улады, закліканай служыць людзям, найвышэйшага дазволу нават на правядзеньне якога-небудзь кшталту масавага мерапрыемства па месцы іх кампактнага пражываньня", - гаворыцца ў скарзе.

У сваёй скарзе Кастусь Мардзьвінцаў просіць суд прызнаць незаконнымі рашэньне Віцебскага райвыканкаму ад 8 жніўня і забароннае паведамленьне намесьніка старшыні выканкаму ад 7 верасьня. А таксама - вынесьці асобнае вызначэньне на адрас райвыканкаму і выбарчай камісіі Віцебскай сельскай выбарчай акругі № 21 і абавязаць іх давесьці праз СМІ да ведама выбаршчыкаў вёскі Буяны прабачэньні кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Леаніда Аўтухова за тое, што пляналы пікет у вызначаны час так і не адбыўся.


Аляксандар Мікулін

**13.09.2012 Кандыдат у дэпутаты** па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе №18 **Аляксандар Мікулін** праводзіў дзень інфармаваньня насельніцтва. Ва ўпраўленьні сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці агітаваць яму забаранілі. "На стэндзе ў сьледчых не было аніякай інфармацыі пра зарэгістраваных кандыдатаў. Але разьмясьціць сваю агітацыйную прадукцыю нам забаранілі. Спасылаліся на загад кіраўніцтва. Маўляў, на тэрыторыі сьледчага камітэту выбарчы закон ня дзейнічае", – распавёў кандыдат Мікулін.

**17.09.2012** Участковыя выбарчыя камісіі рассылаюць жыхарам абласнога цэнтру паперкі-паведамленьні з запрашэньнем узяць удзел у датэрміновым галасаваньні на імя грамадзян, якіх ужо колькі гадоў няма на гэтым сьвеце… Так, віцяблянка **Вольга Каваленка** атрымала запрашэньне, адрасаванае ейнаму мужу, які памёр яшчэ ў 2009 годзе. Зьняважаная, яна накіравала скаргу ў акруговую камісію Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі №18 з просьбай "навесьці парадак з улікам выбарцаў і выключыць са сьпісу выбарцаў памерлага мужа".

**17.09.2012 Кандыдат у дэпутаты** па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе №18 **Аляксандар Мікулін** накіраваў заяву ў ЦВК з прапановай адмяніць рэгістрацыю кандыдатам Міхаілу Волкаву ў сувязі з парушэньнямі ім заканадаўства. Мікулін паведаміў у ЦВК, што зарэгістраваны кандыдат Волкаў утойвае сваю прыналежнасьць да дэпутацкага корпусу Віцебскага абласнога Савету, бо на агітацыйных плякатах не падае ў аўтабіяграфічных зьвестках факт выбраньня яго ў дзейны склад Савету. На партрэце Волкава адсутнічае нават дэпутацкі значак.

Гэтым самым, як мяркуе Мікулін, спадар Волкаў парушыў, па-першае, артыкул 8 Закону "Аб статусе дэпутата мясцовага Савету", якая прадпісвае "мець з сабой службовае пасьведчаньне і нагрудны знак дэпутата і карыстацца імі на працягу тэрміну сваіх паўнамоцтваў". Па-другое, парушыў Палажэньне "Аб нагрудным знаку дэпутата мясцовага Савету". Па-трэцяе, – рэглямэнт Віцебскага абласнога Савету.

Яшчэ адна заява за подпісам **даверанай асобы** Мікуліна **Лідзіі Сагідулінай** была накіраваная ў акруговую выбарчую камісію Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі. Сагідуліна просіць даць пісьмовы адказ на некалькі пытаньняў. У прыватнасьці, чые фотаздымкі знаходзяцца над слёганам "Выбіраем Волкава!" на ягоным агітацыйным плякаце, і чаму пад партрэтамі грамадзян не падаюцца іхныя прозьвішчы.

Сагідуліна зьвярнула таксама ўвагу на тое, што для кандыдата Волкава ў памяш-


Вадзім Кузьмін

каньні акруговай камісіі выдзелены асобны стэнд. На яе думку, гэта парушае выбарчае заканадаўства, бо ставіць кандыдатаў у няроўныя ўмовы. Вядомы ў Віцебску матэматык Міхаіл Волкаў лічыцца кандыдатам ад улады. Мікуліна ж падтрымлівае кампанія "Гавары праўду!"

**17.09.2012** Месца насупраць прахадной віцебскага кандытарскага камбінату "Віцьба" вызначанае для пікетаваньня згодна з рашэньнем мясцовых уладаў. Але кіраўніцтва прадпрыемства вырашыла, што агітацыйны пікет тут непажаданы. Тым больш, што мясцовыя жыхары актыўна дзяліліся з "групай падтрымкі" **кандыдата Аляксандра Мікуліна** сваімі праблемамі.

А. Мікулін, кандыдат у дэпутаты па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе №18, **актывіст кампаніі "Гавары праўду"**. Пад гэтым лёзунгам і праходзіў пікет у новым віцебскім мікраараёне "Білева". Кандыдат праводзіў пікет разам са сваімі **даверанымі асобамі**, **Лідзіяй Сагідулінай** і **Анатолем Гнеўкам**.

Прымусіць пікетоўцаў пакінуць пляцоўку каля "Віцьбы" спрабавалі і ахоўнік прадпрыемства, і работнікі адміністрацыі. Маўляў, гэта наша тэрыторыя, а мы не дазваляем. Пераканаў іх толькі паказаны дазвольны дакумэнт. І тое прадстаўнікі "Віцьбы" абураліся: аказваецца, адміністрацыю не папярэдзілі, што пляцоўка каля прадпрыемства ўваходзіць у пералік месцаў, вызначаных для вулічнай агітацыі.

**18.09.2012 Кандыдат Вадзім Кузьмін** скардзіцца на ўмовы агітацыйнай кампаніі. Яго канкурэнт па Віцебскай-Чыгуначнай акрузе – намесьнік начальніка Віцебскага аддзяленьня беларускай чыгункі Сяргей Бохан. "Таму з улёткамі і плякатамі ў падведамасныя ўстановы мы вырашылі нават не хадзіць, бо нават у крамах нам адмаўляюць", – вымушаны канстатаваць кандыдат.

Вайсковы пэнсіянэр Вадзім Кузьмін, вылучэнец партыі левых "Справядлівы сьвет", ліквідатар аварыі на Чарнобыльскай АЭС, уражаны, зь якімі цяжкасьцямі даводзіцца рабіць самыя простыя, здавалася б, рэчы – разносіць па ўстановах і арганізацыях свае агітацыйныя ўлёткі:

"Чыгунка для мяне ўвогуле закрытая: там мае ўлёткі браць катэгарычна адмаўляюцца, нават у ведамасных інтэрнатах і ОРС-аўскіх крамах. Паказваю дазвол на разьмяшчэньне, кажуць: 'Нам гэта не дазвол! І пачынаюць тэлефанаваць кіраўніцтву. Адзін службовец з чыгункі мне навогул заявіў: Запішыцеся да мяне на прыём у прыёмныя дні, тады будзем вырашаць наконт вашага плякату'. На ўзгадненьне, каб разьмясьціць улётку, марнуецца ад дзьвюх гадзін да двух дзён. Усё ўзгадняюць ці то з кіраўніцтвам чыгункі, ці то з раённай адміністрацыяй".

Спадар Кузьмін скардзіўся ў акруговую камісію. Але там, паводле ягоных словаў, прапанавалі "неяк вырашаць пытаньні самому". Таму давялося напісаць заяву ў пракуратуру – пра перашкоды ягонай кандыдацкай працы. Улёткі ж ягонага канкурэнта, намесьніка начальніка Віцебскага аддзяленьня беларускай чыгункі Сяргея Бохана, вісяць паўсюдна. "Прычым трох відаў - з партрэтам спадара Бохана, і з абяцаньнямі ды праграмай. А з намі ніхто нават ня хоча размаўляць", - кажа Вадзім Кузьмін.

**19.09.2012** Рашэньнем старшыні ўчастковай выбарчай камісіі ўчастку для галасаваньня № 36 Віцебскай сельскай выбарчай акругі № 21 па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Пятра Прасолава ад 19 верасьня 2012 году **назіральнік Леанід Гаравы** выдалены з участку для галасаваньня за нібыта перашкоды нармальнай працы выбарчай камісіі і правядзеньню галасаваньня. Назіральнік з гэтым рашэньнем ня згодны, бо у адпаведнасьці з палажэньнямі артыкулу 13 Выбарчага кодэксу назіральнік мае права ня толькі знаходзіцца ў памяшканьні для галасаваньня, але і ў праве назіраць за выдачай бюлетэняў, ходам галасаваньня і захаваньнем вызначанага Кодэксам парадку галасаваньня.

Старшынём камісіі месца знаходжаньня назіральнікаў на ўчастку для галасаваньня было адмыслова вызначана такім чынам, каб назіральнікі не змаглі ў поўнай меры рэалізаваць гарантаванае Кодэксам права. Леанід Гаравы на мінулым тыдні пісьмова зьвярнуўся да старшыні камісіі з заявай, у якой прасіў зрабіць захады для аднаўленьня правоў назіральнікаў назіраць за выдачай бюлетэняў, ходам галасаваньня і захаваньнем устаноўленага Кодэксам парадку галасаваньня. У адказ атрымаў адпіску за подпісам сакратара камісіі Натальлі Гамзюк - прытым, што адпаведна з Пастановай ЦВК правам подпісу адказу на зварот валодае толькі старшыня камісіі або яго намесьнік.

Неаднаразовыя вусныя звароты да старшыні і сакратара камісіі з просьбай зьмяніць месца знаходжаньня назіральнікаў для рэалізацыі імі права на назіраньне падчас датэрміновага галасаваньня засталіся не пачутымі. Тады 19 верасьня назіральнік пісьмова праінфармаваў кіраўніцтва камісіі аб тым, што ў мэтах рэалізацыі права на назіраньне будзе знаходзіцца ў адзіным месцы на ўчастку для галасаваньня, зь якога магчыма рэалізаваць права на назіраньне. Пры гэтым Леанід Гаравы заявіў, што ня будзе перашкаджаць працы камісіі і правядзеньню галасаваньня, пасьля чаго заняў месца паміж сталамі для выдачы бюлетэняў і кабінамі для тайнага галасаваньня. Гэтае месца назіральнік займаў дзьве гадзіны і ніякіх перашкодаў працы камісіі, ходу галасаваньня не чыніў.

Пасьля 16:00 знаходжаньне назіральніка ў гэтым месцы старшынём камісіі было расцэненае як перашкода нармальнай працы выбарчай камісіі, і ён запатрабаваў, каб назіральнік пакінуў памяшканьне. На просьбу Леаніда Гаравога выдаць адпаведнае распараджэньне, як патрабуе заканадаўства, адказаў адмовай і выклікаў дзяжурнага міліцыянта для выдаленьня назіральніка. На зварот Леаніда Гаравога даць кнігу заўваг і прапаноў для запісу аб выдачы распараджэньня Пётар Прасолаў адказаў адмовай. Назіральнік быў вымушаны па мабільным тэлефоне зьвярнуцца да старшыні акруговай камісіі № 21 Аляксандра Красоўскага, зьвярнуцца ў


Сяргей Парсюкевіч

саму акруговую камісію, патэлефанаваць у Цэнтарвыбаркам. Толькі пасьля гэтага Леаніду Гаравому быў выдадзены акт № 2 бяз даты, бяз подпісаў, у якім пазначана, што рашэньнем старшыні камісіі яго выдаляюць з участку для галасаваньня.

**20.09.2012** На выбарчым участку №44 Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі № 18 дагэтуль адсутнічаюць сьпісы больш за тысячу выбарцаў, якія жывуць у новым мікраараёне Мэдцэнтар у Віцебску. Адсутнасьць сьпісаў выявіў **назіральнік Сяргей Парсюкевіч**. Апынулася, што жыхароў дамоў №№ 37 і 39 па вуліцы Петруся Броўкі няма ў сьпісах выбарцаў.

Сакратар акруговай камісіі патлумачыў, што яны ня ведалі пра тое, што гэтыя дамы ўваходзяць у межы выбарчага участку № 44, бо, згодна з рашэньнем адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску, апублікаваным у газэце “Віцьбічы” ад 24 ліпеня 2012 году, новыя дамы па Броўкі, 37 і 39 у склад акругі ня ўключаныя. Між тым, на гарадзкой мапе, якая вісіць у памяшканьні акруговай камісіі, гэтыя два дамы знаходзяцца якраз на тэрыторыі Віцебскай-Чкалаўскай акругі.

Чальцы ўчастковай камісіі кажуць, што пра гэтыя дамы даведаліся толькі 18 верасьня, і таму ў сьпісах выбарцаў жыхароў гэтых дамоў няма. Маўляў, калі будуць людзі адтуль ісьці галасаваць, уключым іх у дадатковыя сьпісы. Цікава, што ў пераліку дамоў, замацаваных за 44-м участкам, які зьмешчаны на ўваходзе ў школу, дамы №№ 37 і 39 па Петруся Броўкі адсутнічаюць. Але ў сьпісе на ўваходных дзьвярох на ўчастак для галасаваньня яны ўжо маюцца. Дом па вуліцы Петруся Броўкі, 37 у Віцебску быў здадзены ў эксплёатацыю напрыканцы 2010 году. У доме 246 кватэр. Столькі ж – у доме па Петруся Броўкі, 39. Гэты дом здалі крыху пазьней – у 2011 годзе. На пад’ездах дамоў ужо вісяць запрашэньні ўзяць удзел у выбарах на участку № 44.

“Такім чынам, колькі б людзей ні прыйшло галасаваць з гэтых дамоў – усё адно цяпер атрымаецца па гэтых дамох 100-працэнтная яўка. Наколькі я ведаю, на ўчастак ня выдалі нават дадатковых бюлетэняў”, – пракамэнтаваў сытуацыю назіральнік Сяргей Парсюкевіч.

У сваю чаргу, **кандыдат у дэпутаты** па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18 **Аляксей Гаўруцікаў** накіраваў заявы у Цэнтарвыбаркам і Віцебскі аблвыканкам, у якіх распавёў аб парушэньнях выбарчага заканадаўства. У заявах ён сьцьвярджае, што факт адсутнасьці больш як тысячы жыхароў Віцебску ў выбарчых сьпісах можа выклікаць зрыў выбараў 23 верасьня і просіць аказаць садзейнічаньне ў складаньні сьпісу выбарцаў, якія пражываюць у дамох па вуліцы Броў-

кі, 37 і 39, да дня выбараў. Акрамя таго, Аляксей Гаўруцікаў просіць Віцебскі аблвыканкам прыцягнуць да адказнасьці службовых асобаў адміністрацыі Першамайскага раёну і Віцебскага гарвыканкаму, вінаватых у тым, што ў Віцебскай-Чкалаўскай акрузе выбары могуць быць сарваныя.

**22.09.2012 Назіральніка ад Беларускага Хэльсынскага Камітэту Яна Дзяржаўцава** выдалілі з участку №14 Віцебскай-Чыгуначнай выбарчай акругі №19. Ён нібыта перашкаджаў працаваць камісіі. Пра гэта сам назіральнік даведаўся, калі прыйшоў на выбарчы ўчастак пасьля абеду. Дзеля таго, каб пазбавіць яго права назіраць за выбарамі, была скліканая ўся камісія. Сямнаццаць чалавек выбарчай камісіі адзінагалосна прагаласавалі за тое, каб выдаліць назіральніка з участку. Яму нават ня далі слова.

Са слоў Дзяржаўцава, з самага ранку на выбарчы ўчастак прыйшла невядомая асоба. Паразмаўляўшы аб нечым зь сябрамі камісіі і сакратаркай, яна села побач з назіральнікам. “Я запытаўся ў яе, як ейнае прозьвішча і ад якой яна партыі. Адказала, што яе клічуць Натальля Генадзьеўна. А прозьвішча не сказала. Тады я запытаўся, зь якой яна арганізацыі, і тая паведаміла, што з Чыгуначнага райвыканкаму. Празь некаторы час я зноў запытаўся пра прозьвішча, бо пабачыў, як вакол яе ўсе танчаць. А калі яна пабочная асоба – дык ня мае права знаходзіцца на выбарчым участку. Падышоў да сакратаркі і папрасіў дазволу патэлефанаваць ў акруговую камісію, каб даведацца, хто ж такая. Уцямнага адказу ў АВК мне ня далі. Але ў той момант, калі я тэлефанаваў, адна з назіральніц мяне сфатаграфавала. І тут жа сакратарка заявіла мне, што я ёй перашкаджаю працаваць…” – распавёў Ян Дзяржаўцаў.

Абвінавацілі яго і ў тым, што ён нібыта абражаў іншых назіральнікаў… “Я ўпэўнены, што гэта было толькі нагодай, а мэтай было выдаліць мяне з участку пад любым соўсам. На той момант за паўдні прагаласавала усяго 32 чалавекі, і я ім не даваў магчымасьці фальсыфікаваць яўку выбарцаў, вось у чым была справа”, – паведаміў Дзяржаўцаў.

**23.09.2012 Назіральнік ад Беларускага Хэльсынскага камітэту** ў Віцебскай Кастрычніцкай акруговай камісіі №20 **Анатоль Родзік** напісаў заяву, што хоча прысутнічаць пры перадачы пратаколаў участковых камісіяў. Але старшыня камісіі спадар Канявалаў забараніў – спачатку ў вуснай, а потым у пісьмовай форме. Калі ж Анатоль Родзік спытаў, чаму парушаецца Выбарчы кодэкс, яму прыгразілі судом. Справа дайшла ледзь ні да бойкі. У прысутнасьці ўсіх сябраў камісіі спадара Родзіка выштурхалі за дзьверы, калі ён запытаўся, навошта такая звышсакрэтнасьць.Назіральнік ад Беларускага Хэльсынскага камітэту ў Віцебскай Кастрычніцкай акруговай камісіі №20 Анатоль Родзік напісаў заяву, што хоча прысутнічаць пры перадачы пратаколаў участковых камісіяў. Але старшыня камісіі спадар Канявалаў забараніў – спачатку ў вуснай, а потым у пісьмовай форме. Калі ж Анатоль Родзік спытаў, чаму парушаецца Выбарчы кодэкс, яму прыгразілі судом. Справа дайшла ледзь ні да бойкі. У прысутнасьці ўсіх сябраў камісіі спадара Родзіка выштурхалі за дзьверы, калі ён запытаўся, навошта такая звышсакрэтнасьць.

**24.09.2012** Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына паведаміла, што парлямэнцкія выба-

ры 23 верасьня адбыліся. Другога туру выбараў ня будзе ні па адной акрузе. У той самы час незалежныя назіральнікі заявілі пра шматлікія парушэньні. Паводле іх інфармацыі, заканадаўства парушалася на ўсіх этапах выбарчай кампаніі – ад этапу фармаваньня выбарчых камісіяў аж да падліку галасоў у асноўны дзень галасаваньня. Асаблівую ўвагу назіральнікі зьвярнулі на відавочнае завышэньне яўкі, як на этапе датэрміновага галасаваньня, так і ў апошні дзень выбараў.

Актывісты кампаніі «За справядлівыя выбары» назвалі цяперашнюю парлямэнцкую кампанію «самай нахабнай» у параўнанні з усімі папярэднімі, у першую чаргу маючы на ўвазе перашкоды, якія стваралі дзяржаўныя органы дэмакратычным кандыдатам і назіральнікам.

«Выбары не праводзіліся бесстаронна, а працэс падачы скаргаў і апэляцыяў не гарантаваў эфэктыўнага сродку абароны», — адзначылі назіральнікі АБСЭ.

«Выбары не былі канкурэнтаздольнымі з самага пачатку, — заявіў кіраўнік місіі кароткатэрміновых назіральнікаў ПА АБСЭ Матэа Мекачы. — Свабодныя выбары залежаць ад магчымасьці людзей свабодна гаварыць, свабодна арганізоўвацца і балятавацца, чаго мы ня ўбачылі падчас гэтай кампаніі».

## Абмежаваньне эканамічных свабод

**08.10.2012** Сытуацыя, што склалася на гандлёвым прадпрыемстве «Віцебскія прадукты», вылілася ў страйк. У панядзелак работнікі супэрмаркету «Віцебскія прадукты», разьмешчанага на вул. Воінаў Інтэрнацыяналістаў гораду Віцебску, ня выйшлі на працу на знак пратэсту супраць палітыкі аплаты працы, што ажыцьцяўляецца кіраўніцтвам.

З 1 верасьня 2012 году тарыфная стаўка першага разраду ў Беларусі падвышаная на 7,1%. Усе працаўнікі чакалі росту заработнай платы. Але адначасова з гэтым работнікам крамы былі зрэзаныя разнастайныя надбаўкі да заработнай платы, напрыклад: надбаўка за бесьперапынны стаж, надбаўка за перапрацоўку працоўнага часу, адмоўлена ў кампэнсацыі за выхад на працу ў выходныя дні і г.д. Усё гэта спрычынілася, наадварот, да зьніжэньня аплаты працы да абсалютнага мінімуму, зарплата стала складаць каля 1,5 мільёнаў рублёў.

Каб неяк схаваць факт страйку і ўсё ж адчыніць краму, кіраўніцтву «Віцебскіх прадуктаў» прыйшлося экстранна здымаць зь іншых гандлёвых аб'ектаў сваёй сеткі прадаўцоў і касіраў. Знайшліся штрэйкбрэхеры і з уласных шэрагаў. З горам папалам супэрмаркет у панядзелак усё ж працаваў. Страйкоўцам пагражаюць звальненьнем «за прагулы».

**24.10.2012** “Трэба мабілізаваць людзкія рэсурсы, ня менш як 7-10 тысяч чалавек з гарадоў, падшэфных арганізацыяў, навучэнцаў і студэнтаў і накіраваць 20, 21 кастрычніка на ўборку лёну”, - такая тэлефанаграма была адрасаваная старшыням райвыканкамаў Віцебскай вобласьці. Прыпіска ў тэлефанаграме гучыць зусім пагрозьліва: “да 22 кастрычніка 2012 г. на палёх Віцебшчыны лёну не павінна быць. У адваротным выпадку буду лічыць, што наносіце краіне эканамічную шкоду”. І ўнізе - яшчэ адна прыпіска: “Несяце пэрсанальную адказнасьць!”. Мяркуючы па дакумэнце, падпісаў тэлефанаграму-маланку старшыня Віцебскага аблвыканкаму Аляксандар Косінец.

Ва ўпраўленьні адукацыі Віцебскага аблвыканкаму пацьвердзілі, што такая тэлефанаграма сапраўды існуе, толькі лён, згодна з распараджэньнем старшыні, неабходна ўбраць да 25 кастрычніка. “У цяперашні час мы просім у першую чаргу работнікаў арганізацыяў, каб узялі ўдзел. А ва ўстановах адукацыі яны самі вырашаюць, прыцягваць студэнтаў і навучэнцаў або не. На просьбу камітэту па сельскай гаспадарцы аблвыканкаму мы і даслалі тэлефанаграмы з просьбай па магчымасьці аказаць садзейнічаньне”, - сказалі ва ўпраўленьні адукацыі, дадаўшы, што гэткая праца ладзіцца штогод. Якую колькасьць гектараў трэба ўбраць, там адказаць не змаглі.

Затое паведамілі, што навучэнцы і студэнты таксама звычайна бяруць удзел ва ўборцы. “Працу яны выконваюць у залежнасьці ад узросту. Непаўнагадовыя трохі працуюць - тыдзень-два, паўнагадовыя - да месяцу. Навучальныя ўстановы самі рэгулююць, у які час яны могуць адправіць навучэнцаў. Ім, вядома, абавязкова плацяць”. Памер узнагароды, паведамілі ва ўпраўленьні адукацыі, залежыць ад гаспадаркі, але “можна зарабіць і мільён-паўтара, можна больш”. “Можна 20 тысяч у дзень зарабіць, а можна 50 або 100”, - дадалі ва ўпраўленьні адукацыі.


Аляксандар Дзегцяроў

**26.10.2012 Паўабаронца футбольнага клюбу “Віцебск” Аляксандар Дзегцяроў** заявіў пра тое, што каманда плянуе не паехаць на матч 28-га туру чэмпіянату Беларусі ў першай лізе супраць “Ліды”: “Камандай вырашылі, што калі нам не аддадуць прэміяльныя больш як за палову чэмпіянату краіны ў першай лізе, то на гульню ў Ліду ня едзем”.

**02.11.2012 Праваабаронца Аляксандар Мікулін** накіраваў зварот да старшыні Віцебскага аблвыканкаму Аляксандра Косінца, дзе просіць прыняць адпаведныя захады – не дапускаць «скоцкага стаўленьня» для людзей, якіх прымушаюць працаваць у антысанітарных умовах дзеля выкананьня загадаў вышэйшага кіраўніцтва. Спадар Мікулін – дэпутат Віцебскага офісу «Грамадзянскай дамовы», ініцыятывы кампаніі «Гавары праўду», накіраванай на абарону правоў мясцовага насельніцтва.

Ён распавёў, што па электроннай пошце да яго прыйшоў ліст з Воршы, ад работнікаў тамтэйшых прадпрыемстваў, якіх абавязалі ехаць у калгасы, каб «ратаваць» ураджай: «Людзі пісалі, што іх накіравалі ў Талачынскі раён, у яблыневы сад каля пасёлку Коханава на так званую “даборку” яблыкаў. Было гэта 26 кастрычніка, і ў той дзень выпаў першы сьнег. Схавацца ад яго не было куды, людзі мерзьлі, а машыны, каб загрузьціць сабраныя яблыкі, давялося чакаць даволі доўга. Пад сьнегападам стаялі настаўнікі, урачы, работнікі прамысловых прадпрыемстваў, якіх даслалі ў гаспадарку “па разнарадцы”, не падумаўшы пра тое, у якіх умовах ім давядзецца ажыцьцяўляць тую “шэфскую дапамогу”».

Гарадзкія «шэфы» даслалі Аляксандру Мікуліну і відэаздымкі сваёй працы пад сьнегападам. Віцебскі актывіст пэўны, што такія выпадкі не адзінкавыя. Напрыклад, паводле зьвестак праваабаронцы, у асобных гаспадарках Глыбоцкага раёну ўбіраць лён з-пад сьнегу накіравалі навучэнцаў ліцэю.

«Каб прадухіліць надалей такі зьдзек, я зьвярнуўся непасрэдна да старшыні аблвыканкаму. Каб ён, як кіраўнік вобласьці, абавязаў кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў забясьпечыць элемэнтарны мінімум, што да ўмоваў працы гарадзкіх “шэфаў”. Бо інакш выкарыстаньне іхнай працы, у тым ліку прымусовай працы моладзі – гэта зьдзек і проста скоцкае стаўленьне да чалавечае асобы», - заяўвіў Аляксандар Мікулін.

**02.11.2012** Працоўная спрэчка ўзьнікла паміж прыватным гандлёвым унітарным прадпрыемствам «Ультратэкрытэйл», Віцебск, і спэцыялістам па продажах **Дзьмітрыем Анішчанкам**. Наймальнік адмаўляўся выдаць працаўніку месячны заробак і зрабіць разьлік пры звальненьні. Дзякуючы дапамозе юрыдычнай службы прафсаюзу РЭП, наймальніку давялося заплаціць работніку.

Пра гэты выпадак распавёў **прававы інспэктар прафсаюзу РЭП Валер Міськікаў**: "Малады чалавек прапрацаваў на прадпрыемстве «Ультратэкрытэйл» з 23 студзеня па 29 лютага 2012 года. Захацеў сысьці. Але дырэктар адмовіўся яго разьлічыць. Справа ў тым, што нашы працаўнікі занадта давяраюць вуснаму слову наймальніка, - са шкадаваньнем адзначыў прафсаюзны юрыст. - Паміж работнікам і дырэктарам філіялу была вусная дамоўленасьць аб прыёме на працу. Работнік падрыхтаваў усе неабходныя дакумэнты і накіраваў у аддзел кадраў. Але не атрымаў пацьверджаньня пра афармленьне яго на пасаду прадаўца".

Як стала вядома пазьней, у блянках прадпрыемства была памылка - замест 2012 году быў надрукаваны 2011. Аддзел кадраў вярнуў работніку дакумэнты з просьбай зьмяніць год. Аднак дакумэнты аб прыёме на працу не былі аформленыя і пасьля таго, як працаўнік выправіў памылку.

Судовы разгляд адбываўся ў Кастрычніцкім судзе Віцебску. Як паведаміў Валер Міськікаў, прадстаўнікі адказчыка не хацелі прыходзіць у суд, і прызнаць пазоўныя патрабаваньні адмовіліся. Аднак былі сабраныя дакумэнтальныя пацьверджаньні таго, што працаўнік сапраўды праходзіў карпаратыўнае навучаньне, атрымаў плястыкавую банкаўскую картку для атрыманьня заработнай платы, прыходзіў на працоўнае месца і працаваў.

Тады адказчык у сваё апраўданьне заявіў, што паколькі працоўныя адносіны не былі аформленыя належным чынам, Дзьмітры Анішчанка не лічыўся працаўніком гэтага прадпрыемства, таму і зарплату яму ня выдалі. Іншых пярэчаньняў, паводле слоў Валера Міськікава, у адказчыка не было.

"Згодна з Працоўным кодэксам, пачаткам дзеяньня працоўнай дамовы зьяўляецца дзень, вызначаны ў ёй бакамі, а фактычнае дапушчэньне работніка да працы зьяўляецца пачаткам дзеяньня працоўнай дамовы, незалежна ад таго, ці быў прыём на працу аформлены належным чынам, - растлумачыў прафсаюзны юрыст. - Натуральна працаўнік не павінен несьці адказнасьць за тое, што кадравая служба прадпрыемства ня выканала сваіх абавязкаў". Як распавёў Валер Міськікаў, факт прысутнасьці Дзьмітрыя Анішчанкі на працы і выкананьня ім сваіх службовых абавязкаў пацьвердзілі 5 сьведак.

Прадстаўнік адказчыка ўхіліўся ад судовых спрэчак. Суд вынес рашэньне задаволіць пазоўнае патрабаваньне Анішчанкі часткова, гэта значыць прызнаць працоўную дамову паміж работнікам і наймальнікам, абавязаўшы наймальніка належным чынам аформіць дакумэнты аб прыёме на працу, і спагнаў на карысьць работніка 893 000 рублёў у кошт заработнай платы, а таксама разьлік пры звальненьні ў суме больш за 10 мільёнаў рублёў - сярэдні заробак за затрымку пры звальненьні. Прафсаюз лічыць рашэньне суду законным і справядлівым.

**30.11.2012** У Віцебскай вобласьці 1 сьнежня пройдзе чарговы суботнік. Жыхароў вобласьці змушаюць бясплатна заняцца прыборкай населеных пунктаў і навядзеньнем парадку на зямлі. Грашовыя сродкі, заробленыя ў гэты дзень на працоўных месцах, маюць быць накіраваныя на мадэрнізацыю вытворчай галіны, паляпшэньне ўмоў працы і побыту супрацоўнікаў прадпрыемстваў. Інфармацыя пра суботнік на сайце Віцебскага аблвыканкаму зьявілася толькі 30 лістапада. Яшчэ напярэдадні пра пляны правядзеньня суботніка многія жыхары нічога ня чулі.

**13.12.2012** Разьліковыя рахункі вядучага беларускага вытворцы абутку, віцебскага “Белвесту”, заблякаваныя. Супрацоўнікі прадпрыемства непакояцца, што застануцца без зарплаты напярэдадні навагодніх сьвятаў, абвінавачваючы ў тым, што адбылося, прадстаўнікоў мясцовых дзяржорганаў.

У паведамленьні прадстаўнікоў “Белвесту” сказана, што “Камітэт дзяржкантролю па Віцебскай вобласьці, правёўшы праверку прадпрыемства, выявіў толькі станоўчыя і прыбытковыя вынікі працы. Пасьля чаго дзяржорганы прынялі рашэньне, што зь імі трэба дзяліцца». Таму 10 сьнежня напярэдадні выплаты зарплаты працоўным “службовымі асобамі Віцебскай падатковай інспэкцыі былі арыштаваныя рахункі ‘Белвесту’”.

У распараджэньнях падатковай адзначана, што “ў сувязі зь невыкананьнем або неналежным выкананьнем у вызначаны тэрмін падатковага абавязальніцтва, няплатай пеняў спагнаць падаткі, зборы, пошліны і пені за кошт грашовых сродкаў, якія знаходзяцца на разьліковых рахунках плацельшчыка” на суму больш за 8 млрд рублёў. На “Белвесьце” сьцьвярджаюць, што ў іх “цалкам адсутнічаюць падатковыя і іншыя абавязальніцтвы перад бюджэтам”. У той самы час банкамі прыпыненыя ўсе апэрацыі па рахунках.

На абутковым прадпрыемстве лічаць, што “сваімі дзеяньнямі Віцебская падатковая інспэкцыя парушыла грамадзкія інтарэсы, што выявілася ў немагчымасьці ажыцьцяўляць апэрацыі з разьліковых рахункаў на карысьць працуючых грамадзян, у той час як паводле калектыўнай дамовы тэрмін выплаты заработнай платы вызначаны з 14 чысла месяца”. У “Белвесту” маюцца абавязальніцтвы па сацыяльнай абароне працоўных - “уласны пункт аховы здароўя, сталоўка, якія патрабуюць штодзённых бесьперапынных выдаткаў для належнага абслугоўваньня работнікаў, выкананьня мер па ахове працы”.

“Прыпыненьне ўсіх апэрацыяў па рахунках наносіць непапраўную шкоду і ў сфэры гаспадарчай дзейнасьці - немагчыма своечасова выконваць крэдытныя абавязальніцтвы перад банкамі, абавязальніцтвы перад пастаўшчыкамі, ажыцьцяўляць закупкі сыравіны, матэрыялаў і абсталяваньня для вытворчасьці абутку. Такім чынам, да Новага году бяз сродкаў да існаваньня застануцца больш за 2 тысяч працаўнікоў; спыніцца вытворчасьць абутку”, - гаворыцца ў лісьце супрацоўнікаў “Белвесту”.

**23.12.2012** У Віцебску кіраўнікам прадпрыемстваў рассылаецца факсаграма з загадам арганізаваць працу ў сьвяточныя дні 24-25 сьнежня. Адпаведны дакумэнт падпісаў кіраўнік адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску Мікалай Арлоў.

Кіраўнікам «у сувязі з дапушчаным у студзені-лістападзе 2012 году адставаньнем ў вытворчасьці прадукцыі прамысловасьці па асноўных таварных групах, неабходнасьцю падвышэньня заработнай платы да вызначанага Кіраўніком дзяржавы ўзроўню» прапануецца арганізаваць працу 24-25 сьнежня - падчас сьвяткаваньня Раства паводле грыгарыянскага календара.

Прадпрыемствам і арганізацыям Віцебскай вобласьці неабходна адшукаць амаль 500 мільярдаў рублёў, каб сярэдняя зарплата дасягнула 580 даляраў, абяцаных Аляксандрам Косінцам кіраўніку дзяржавы.



Людміла Лабачэня

**01.02.2013** Прыватныя прадпрымальнікі Віцебскай вобласьці пасьля 28 студзеня на загад падатковых чыноўнікаў плацяць адзіны падатак паводле новай павышанай стаўкі, якая яшчэ не набыла законнай сілы. Рашэньне Віцебскага абласнога Савету дэпутатаў пра зьмену стаўкі адзінага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў было прынятае 28 сьнежня мінулага году. На Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале Рэспублікі Беларусь яно было зарэгістраванае толькі 22 студзеня гэтага году.

Пакуль гэтае рашэньне нідзе не было апублікаванае. Ні ў часопісе гэтага парталу, які рассылаецца ў мясцовыя пункты прававой інфармацыі, ні ў абласной газэце "Віцебскі рабочы", дзе публікавалася аналягічнае рашэньне Віцебскага аблсавету на 2012 год. Згодна з нормамі беларускага заканадаўства, гэтае рашэньне яшчэ не стала заканадаўчым актам для выкананьня.

Толькі падатковыя службы Віцебскай вобласьці мяркуюць па-іншаму. Усім прадпрымальнікам, якія плацілі адзіны падатак пасьля 28 студзеня прапаноўвалася заплаціць павышаны адзіны падатак. Вырас, дарэчы, гэты падатак значна больш, чымся была інфляцыя ў мінулым годзе, якая афіцыйна склала 21,8%. У залежнасьці ад відаў дзейнасьці гэты падатак, напрыклад, у раздробным гандлі для райцэнтраў узрос ад 23% да 52%. Так, для гандляроў мяснымі прадуктамі падатак вырас з 340 тысяч да 470 тысяч рублёў, а для гандляроў рыбай з 350 толькі да 430 тысяч рублёў. Падатак вырас таксама для прыватнікаў і фізычных асобаў, якія аказваюць паслугі. Напрыклад, за аказаньне цырульных паслугаў давядзецца плаціць не 160 тысяч, а 250 тысяч рублёў – больш на 68%.

**15.03.2013** Супрацоўнікі гарадоцкага прадпрыемства на Віцебшчыне ў рамках добраўпарадкаваньня тэрыторыяў разам зь безгаспадарнымі пабудовамі разабралі жылую хату. Жахлівы інцыдэнт адбыўся пакуль гаспадыня, **Людміла Лабачэня**, была ў лякарні. Рабочыя самавольна дэмантавалі дах, вокны і дзьверы. Пацярпелай жанчыне шкоду не кампэнсавалі.

Пажыць у гэтай хаце яго ўладальніца так і не пасьпела. Пасьля куплі зьлегла ў шпіталь. За гэты час літаральна засталася бяз даху над галавой. Гарадоцкі Райаграпрамснаб так захапіўся ліквідацыяй безгаспадарных дамоў, што знаходзяцца на ягоным балянсе, што не заўважыў, як перайшоў на прыватную ўласнасьць.

Уладальніцы хаты не да разбору палётаў. Людміла Васільеўна - інвалід 1 групы. Пасьля інсульту не ўстае з ложку. Цяпер вымушаная здымаць кватэру. Пра тое, што ад яе хаты засталіся толькі сьцены, даведалася ў шпіталі ад сьледчых.

Расьсьледаваньне па крымінальнай справе сьледчы камітэт прыпыніў. Уладальні-

цы некалі прыстойнай хаты праваахоўнікі рэкамэндавалі зьвярнуцца ў суд. Але абіваць парогі інстанцыяў жанчына ня можа фізычна.

**02.04.2013** Рабочыя Віцебскага домабудаўнічага камбінату адмовіліся распачынаць працу з-за затрымкі заробкаў. Прычынай незадаволенасьці працоўных, як і на заводзе буйнапанэльнага домабудаваньня ў чэрвені 2012 году, стала затрымка зарплаты.

Справа ў тым, што 1 красавіка гэтыя супрацоўнікі домабудаўнічага камбінату не змаглі атрымаць абяцаную ім зарплату за люты. Толькі пасьля хваляваньняў прыкладна а 12:50 2 красавіка на рахунках працоўных зьявіліся грошы, аднак толькі 50% ад сумы за люты - другую палову паабяцалі выплаціць на працягу тыдня.

Супрацоўнікі Віцебскага домабудаўнічага камбінату незадаволеныя ня толькі несвоечасовай выплатай заробкаў, але і іх памерамі - большасьць атрымлівае ад 2 да 3 мільёнаў рублёў. 2 красавіка завод буйнапанэльнага домабудаваньня, які належыць камбінату, наведаў прадстаўнік міністэрства, які паабяцаў праз пару месяцаў павялічыць заработную плату, але рабочыя гэтым абяцаньням ня вераць, бо, паводле іх слоў, камбінат знаходзіцца ў бядотным фінансавым становішчы. Таксама рабочыя распавядаюць, што рэгулярна здараюцца прастоі з-за адсутнасьці бэнзіну, саляркі, газу або будматэрыялаў, а гэта адмоўна ўплывае на заробкі. Ёсьць праблемы нават з інструмэнтамі і спэцвопраткай.

**25.04.2013** Дванаццаць разоў АБЭЗ адмаўляў прафсаюзу РЭП ва ўзбуджэньні крымінальнай справы ў сувязі са шматмільённай нястачай, выяўленай на ААТ «Віцебскмясамалпрам», якую кіраўніцтва «павесіла» на работніц складу.

«Сьляды злачыннай дзейнасьці відавочныя, але ўлады заплюшчваюць на гэта вочы, - кажа **прававы інспэктар прафсаюзу РЭП па Віцебскай вобласьці Валер Місьнікаў**. - Суд ня выявіў, калі, кім і якім чынам былі створаныя нястачы на сотні мільёнаў рублёў, гэта значыць у асабліва буйным памеры, і хто вінаваты ў гэтым. Грошы спаганяюць з работніц».

Паводле дадзеных намесьніка старшыні камітэту па харчаваньні і сельскай гаспадарцы Віцебскага аблвыканкаму, на ААТ «Віцебскмясамалпрам» выяўленая нястача на суму 89 890 540 рублёў і няякасны тавар на суму 89 414 640 рублёў. Кіраўніцтва пераклала ўвесь цяжар адказнасьці на плечы работніц складу. Пры гэтым, азнаёміўшыся са сьпісам зьніклага за паўтара месяца тавару, становіцца зразумела, што гэтай справай павінна займацца міліцыя. Паводле дакумэнтаў, толькі па дзьвюх асноўных пазыцыях на заводзе недалічыліся 7 459 пачкаў масла вагой 1 492 кілягramы і 8 013 бляшанак згушчанага малака вагой 2 564 кілаграмы, што ў суме складае 4 056 тоны.

«Дзяржаўныя органы ня хочуць, а гэта значыць, атрымліваецца, што папросту “страхуюць” злачынную дзейнасьць службовых асоб горадаўтваральных прадпрыемстваў, - кажа Валер Місьнікаў. - Немагчыма выказаць здагадку, што такая колькасьць тавару сапсавалася. Атрымліваецца, што за 45 сутак працы ўсё гэта змаглі вынесьці 13 чалавек. У зьмену працавалі 4 чалавекі, і працавалі дзень праз два, гэта значыць у месяц - 15 дзён. Ці маглі яны гэта незаўважна вывезьці за межы заводу, які ахоўваецца?»

Прафсаюз накіраваў заявы на імя прэзыдэнта Беларусі, старшыні сьледчага камітэту Шаева і на імя генэральнага пракурора Беларусі Канюка. Усе гэтыя інстанцыі перанакіравалі заявы прафсаюзу з просьбай аб узбуджэньні крымінальнай справы ў Віцебскую пракуратуру для прыняцьця мер. «Аднак Віцебская пракуратура адказала, што прафсаюз РЭП не зьяўляецца заяўнікам і ня можа прасіць аб абскарджаньні пастановы аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы», - паведаміў Валер Місьнікаў.

**31.05.2013** У КУСП «Кашчынскае» Чашніцкага раёну мала таго, што пэрыядычна затрымліваюць выплату заработнай платы, дык і часткова выдаюць яе натуральнымі прадуктамі - дарагой кілбасой, тушанінай і нават фаршам. Пра гэта стала вядома, калі на гарачую лінію падчас маніторынгу працы выканаўчых і распарадчых органаў са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб у Чашніцкім раёне да старшыні Камітэту дзяржкантролю Рэспублікі Беларусь Аляксандра Якабсона датэлефанавалася працаўніца гаспадаркі **Марыя Чарвінская**.

“За ваду, газ і сьвятло з нас бяруць плату грашыма. Прычым, хочуць атрымаць гэтыя грошы своечасова, а нам плацяць прадуктамі і з затрымкамі”, - скардзілася жанчына. Аляксандар Якабсон прыйшоў у жах ад пачутага, назваўшы гэтакае становішча дзікунствам, панаракаў на кіраўніцтва раёну, якое ня бачыла гэтай сытуацыі ці не змагло паўплываць на стан спраў у гаспадарцы, і паабяцаў рупліва праверыць «Кашчынскае».

**03.06.2013** Ушацкі райвыканкам змушае арганізацыі задарма працаваць на фэрмах.

Распавёў дырэктар аднаго з прадпрыемстваў Ушацкага раёну: “На гэтым тыдні ўсім арганізацыям гораду прыйшло распараджэньне з райвыканкаму: нават не спытаўшы згоды, нас замацавалі за жывёлагадоўчымі фэрмамі і прымушаюць штодня адпраўляць сваіх людзей у гаспадаркі і наводзіць парадак. Мы ўжо адпрацавалі там некалькі дзён, але зараз прыйшла тэлефанаграма, што 10-15 чалавек павінны прыехаць яшчэ і ў выходныя. У мяне язык не паварочваецца сказаць пра гэта сваім супрацоўнікам, якія і так увесь тыдзень на мяжы сіл працуюць. Людзям трэба даць адпачыць”.

Да распараджэньня райвыканкаму прыкладаецца сьпіс - каля кожнай з 30 раённых фэрмаў пазначаная канкрэтная арганізацыя. Не абыйшла гэтая доля ні банкі, ні вэтстанцыю, ні нават сам райвыканкам. На распараджэньні стаіць подпіс Віктара Родзіча, першага намесьніка старшыні Ўшацкага райвыканкаму, які гэтаксама зьяўляецца і начальнікам упраўленьня сельскай гаспадаркі і харчаваньня.

**06.06.2013** На рынках і ў гандлёвых цэнтрах Віцебску цягам працоўнага дня было бязьлюдна: прадпрымальнікі, якія гандлююць прамысловымі таварамі, ня выйшлі на працу. Гэтак яны пратэстуюць супраць патрабаваньняў тэхнічнага рэглямэнту Мытнага саюзу, які лічаць чарговым вымаганьнем грошай у дзяржаўны бюджэт. Сваю акцыю пратэсту віцебскія прадпрымальнікі называюць «аднадзённым папераджальным спыненьнем працы».

Ініцыятыва зладзіць акцыю пратэсту належыць арганізацыйнай групе па стварэньні прафсаюзу індывідуальных прадпрымальнікаў «Разам». **Кіраўніца аргані-**




**зацыйнай групы Ірына Яскевіч, старшыня рады віцебскага гандлёвага цэнтру «Эвіком»**, адзначае салідарнасьць калегаў: «Смаленскі» рынак, «Паўднёвы» рынак, гандлёвы цэнтар «Беларусь» — там індывідуальныя прадпрымальнікі зачыніліся цалкам, апрача харчоў і садавіны. «Полацкі» рынак — таксама на 100%, за выключэньнем хіба аднаго чалавека, што гандляваў джынсамі. Гандлёвы цэнтар «Эвіком» зачынены амаль цалкам. Увогуле, лічу, спыніла працу 90% прадпрымальнікаў».

**27.06.2013** Па ўсёй Беларусі прайшоў папераджальны страйк індывідуальных прадпрымальнікаў, незадаволеных новымі ўмовамі гандлю ў рамках Мытнага зьвязу. У Віцебску страйк выйшаў ня дужа масавы: Полацкі рынак спыніў працу прыкладна на 40–50%, Паўднёвы і Смаленскі рынкі наогул працавалі цалкам.

Так здарылася найперш таму, што віцебскія прадпрымальнікі прадэманстравалі сваё стаўленьне да тэхнічнага рэглямэнту яшчэ 6 чэрвеня. **Кіраўніца арганізацыйнай групы па стварэньні прафсаюзу індывідуальных прадпрымальнікаў «Разам», старшыня рады віцебскага гандлёвага цэнтру «Эвіком» Ірына Яскевіч** адзначае, што актыўней людзі будуць страйкаваць з 1 ліпеня — калі зьменаў ня будзе:

«У нас адна галоўная праблема на сёньняшні дзень: мы ня зможам выканаць патрабаваньняў тэхнічнага рэглямэнту. Таму людзі настроеныя так, што з 1 ліпеня яны перастануць плаціць падаткі і спыняць працу зусім — будуць адпачываць дома».

**28.06.2013** Жыхарка Віцебску **Лілія Грабарэнка** прадала супрацоўнікам падатковай 28 кіляграмаў клубніцаў. Яны спачатку сумленна заплацілі 400 тысяч, а потым запатрабавалі ад прадаўца бясплатна аддаць ім астатнія 1,2 тоны ягад, электронныя шалі і машыну коштам амаль 5 тысяч даляраў.

Пры гэтым сама прыватніца запэўніла, што зусім не хавалася ад падаткаў, а проста не пасьпела аформіць усе неабходныя дакумэнты: “Мы толькі прыехалі, пачалі выстаўляцца. Тут падышлі маладыя людзі і купілі ў нас 6 скрынь клубніцы. Хто б мог падумаць, што яны з падатковай?! - успамінае Лілія Грабарэнка. - Хаця я не зьбіралася нічога парушаць, я б пазьней усё заплаціла. Проста падатковая адчыняецца толькі а 10:00, а я прыехала на рынак а 4-й раніцы. Я не магла чакаць, у мяне ж скорапсавальны тавар. І на сьпякоце клубніцы б папросту пацяклі”.

Тону ягад Лілія Пятроўна набыла ў Лунінцы. “Я толькі другі раз вырашыла гэтак падзарабіць. У Лунінцы брала ягаду па 12 тысяч, у Віцебску зьбіралася прадаваць па 14, - распавядае жанчына. - Але ў выніку замест прыбытку - адны страты. Забралі ягады на 17 мільёнаў, шалі за мільён і “Газель”, якую яны ацанілі ў 43 мільё-

ны".

**29.06.2013** Футбалісты клюбу "Віцебск" пратэставалі. Перад хатняй гульнёй з клюбам "Менск-2" яны затрымалі гульню на 15 хвілін. І зьбіраліся выйсьці на поле ў саколках з надпісам "Мы гуляем бясплатна". Такое рашэньне гульцоў зьвязанае зь нізкімі заробкамі (1,5-3 мільёны) і несвоечасовай выплатай грошай. Пасьля пяці хвілін затрымкі гульні ў распранальню да футбалістаў накіраваліся прадстаўнікі праваахоўных органаў.

Гульцам паставілі ўмову: або яны выходзяць на матч у сваёй звычайнай форме, або іх наогул ня выпусьцяць на поле. Каманда пагадзілася зь першым варыянтам.

## Ціск на журналістаў


Уладзіслаў Стараверaў

**15.07.2012 Незалежны журналіст Уладзіслаў Стараверaў**, які ўжо амаль два гады стала не жыве ў Віцебску, быў затрыманы міліцыянтамі позна ўвечары. Віцебская міліцыя сцьвярджае, што незадоўга да затрыманьня каля ратушы прагрымеў выбух.

Затрыманы катэгарычна адмаўляў сваю датычнасьць да нейкага выбуху. Уладзіславу Стараверaву ўдалося ўцячы ад супрацоўнікаў міліцыі, якія вазілі яго на экспэртызу, каб устанавіць яго датычнасьць да выбуху. Цяпер хлопец па-за межамі дасягальнасьці віцебскіх міліцыянтаў, у тым ліку падпалкоўніка ўправы МУС Віцебскага аблвыканкаму Андрэя Іванова. Менавіта ён неаднаразова затрымліваў хлопца раней і пазнаў у твар цяпер.

**Праваабаронца Павал Левінаў** лічыць, што журналіста затрымалі дзеля перасьцярогі, каб у інтэрнэт ня трапілі нейкія фота- ці відэаматэрыялы нэгатыўнага зьместу пра «Славянскі базар». А такіх у апошнія дні было нямала — у тым ліку пра п'янства на фэстывалі, дзе круглыя суткі гандлююць алькаголем.

**16.07.2012** У суд Талачынскага раёну паступіла пазоўная заява да газэты «Віцебскі кур'ер» аб абароне гонару і годнасьці ад грамадзяніна, які стаў адным з герояў яе публікацыяў. Пазоўнік патрабуе спагнаць у салідарным парадку з рэдакцыі і з аўтара артыкулу кампэнсацыю ў суме 5 000 000 рублёў. Пазоўнікам выступіў старшыня Талачынскай раённай грамадзкай арганізацыі РГА «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» Юры Лычкоўскі. У адказчыках акрамя рэдакцыі газэты значыцца і аўтар публікацыі - **Мікалай Петрушэнка**.

Артыкул «Ад пушчы да няволі: у ціхім балоце чэрці водзяцца» быў апублікаваны ў адным зь лютаўскіх нумароў газэты і прысьвячаўся у тым ліку нейкаму Юрыю Л., які, зьяўляючыся інвалідам, атрымаў права на валоданьне паляўнічай стрэльбай ад мясцовага РАУС насуперак патрабаваньням заканадаўства. У артыкуле гэты чалавек названы браканьерам. Лычкоўскі лічыць, што ён падпадае пад апісаньне, а факты, пададзеныя ў публікацыі, недакладныя.

Мікалай Петрушэнка пракамэнтаваў гэтыя звесткі: "На Талачыншчыну прыпадае каля паловы ўсіх затрыманых браканьераў Віцебшчыны. Наколькі мне вядома, дырэктар мясцовай паляўнічай гаспадаркі ўжо прайграў судовыя пазовы ў Талачынскім судзе і вымушаны кампэнсаваць нанесеную маральную шкоду прынамсі двух былым паляўнічым. Трэба меркаваць, наступнай судовай ахвярай намечаная газэта «Віцебскі кур'ер», якая досыць шырока асьвятляла, у тым ліку і ў маіх матэрыялах, прычыны і ўмовы, якія спарадзілі беспакаранасьць браканьераў ў Талачынскім, Круглянскім, Сеньненскім раёнах…".


Вадзім Баршчэўскі

**17.07.2012** На кватэру да бацькоў рэдактара сайту Orsha.eu прыйшлі супрацоўнікі аддзелу па барацьбе з распаўсюдам наркотыкаў, парнаграфіі і гандлем людзьмі. На пастанову пракурора яны праводзілі агляд кватэры, дзе знаходзіўся ў гэты час **Ігар Казьмерчак**. У выніку перартрусу ў Ігара былі “для разьбіральніцтва” забраныя дзьве флэшкі, 3G мадэм і працэсар кампутара. Пазьней уся “працэсія” скіравалася на кватэру, якая належыць самому рэдактару сайту. Там, у прысутнасьці дзядулі Ігара таксама быў праведзены “агляд” кватэры, пасьля чаго супрацоўнікі міліцыі скіраваліся да аддзелу ГАУС, каб узяць тлумачэньні.

Паводле той інфармацыі, якая была агучаная наўпрост ці ўскосна супрацоўнікамі міліцыі - за грамадзка-палітычным сайтам Orsha.eu супрацоўнікі згаданага аддзелу сочаць больш за год. Прыблізна год таму на сайце зьявілася “кантэнтная рэклама”, у якой у нейкі час зьяўвілася спасылка на парнаграфічны сайт. У сувязі з тым і былі вынятыя для разьбіральніцтва інфармацыйныя носьбіты рэдактара сайту.

Сам Ігар Казьмерчак тлумачыць гэта надыходзячымі выбарамі: “Для мяне было дзіўна, што апошнія дзьве выбарчыя кампаніі мяне не арыштоўвалі і не затрымлівалі. Сапраўды, раней, як толькі пачынаюцца выбары - адразу я аказваўся чалавекам, які ‘махае рукамі і лаецца матам’. Сёньняшнія выбары ідуць нармалёва - на самым пачатку ‘агляд кватэры’. Калі верыць тым міліцыянтам, то ў нас на сайце амаль год вісела рэкляма порнасайту, але гэта віна расейскай фірмы, якая арэндавала гэтую плошчу нашага сайту. Месяц таму рэкляма порна зьнікла”.

“Чаму ж тады месяц ці два месяцы таму не пачалі сьледчых дзеяньняў? Пэўна, таму, што не было выбараў. Абвінаваціць мяне ў распаўсюдзе парнаграфіі не магчыма, і, відавочна, крымінальнай справы ня будзе заведзена”, - кажа Ігар Казьмерчак.

**03.08.2012 Шэф-рэдактар незалежнай газэты «Віцебскі Кур’ер» Вадзім Баршчэўскі** быў вельмі зьдзіўлены, даведаўшыся ад падатковай Першамайскага раёну Віцебску, што ў яго ўласнасьці нібыта знаходзіцца рарытэтны аўтамабіль Альфа-Рамэа 1960-га году выпуску. Падатковая вельмі цікавілася наяўнасьцю сродкаў у незалежнага журналіста на куплю такога рарытэтнага аўтамабіля.

Ці трэба казаць, што ніякага Альфа-Рамэа у Вадзіма Баршчэўскага не было ніколі. Прыпісваньне неіснуючых дарагіх аўтамабіляў - новы спосаб ціску на незалежную журналістыку.

**09.08.2012 Журналістаў тэлеканалу БелСат Вольгу Старасьціну** і **Дзяніса Міхайлава** пратрымалі некалькі гадзінаў у Чыгуначным РАУС Віцебску. Іх затрымала


Алена Сьцяпанава

міліцыя падчас выкананьня прафэсійных абавязкаў. Журналісты рыхтавалі матэрыял, прысьвечаны парлямэнцкім выбарам. У РАУС з Вольгай Старасьцінай правялі прафіляктычную размову аб забароне здымкаў у цэнтры гораду. На вядоўцу «Аб'ектыву» і незалежнага журналіста склалі пратакол за "працу без акрэдытацыі на замежнае СМІ".

**20.08.2012 Журналістка Алена Сьцяпанава** наведала Віцебскую абласную пракуратуру, дзе пракурор П. Зайцаў яе "апытаў", а затым уручыў пісьмовае папярэджаньне за подпісам намесьніка пракурора вобласьці старшага дарадцы юстыцыі Г. А. Каранько. Паводле паперы, пракуратура падпільнавала журналістку на "неаднаразовым ажыцьцяўленьні падрыхтоўкі аўдыё- і відэаматэрыялаў, а таксама інтэрвіюяваньні несельніцтва з мэтай падрыхтоўкі рэпартажаў, якія разьмяшчаліся ад імя замежнага СМІ - чэскай рэдакцыі Радыё Свабодная Эўропа - Радыё Свабода на адпаведным інтэрнэт-сайце".

Хто праводзіў гэтую праверку і якім чынам здабываліся зьвесткі, пракурор Зайцаў тлумачыць журналістцы не пажадаў, заявіўшы, што гэта інфармацыя ўнутранага карыстаньня. Адзіным матэрыялам, раздрукоўку якога ён паказаў спн. Сьцяпанавай, было апытаньне 2008 году, дзе яна як незалежная журналістка дзялілася ўласным меркаваньнем з калегамі на нейкую тэму. "Ён сказаў, што гэта зьяўляецца доказам супрацы з замежным СМІ", - распавяла Алена Сьцяпанава.

**03.12.2012** У Віцебску неўзабаве чакаюць Аляксандра Лукашэнку. Ён можа наведаць віцебскі дрэваапрацоўчы камбінат. У гэтым раёне і затрымалі **журналіста Сяргея Серабро**. Спачатку рэдактар сайту «Народныя Навіны Віцебску» паведаміў пра затрыманьне ў «Твітэры». Пад увагу міліцыі ён папаў, калі фатаграфаваў укладку новага асфальту ў раёне дрэваапрацоўчага камбінату. Прыкладна праз паўгадзіны Сяргей Серабро паведаміў, што яго адпусьцілі.

**25.03.2013 Сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў** з Гарадка **Леанід Гаравы** прыяжджаў на суд да віцебскіх актывістаў **Леаніда Аўтухова** і **Кастуся Смолікава**. Супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС забаранілі спадару Гараваму рабіць фотаздымкі.

"Я хацеў зрабіць некалькі кадраў да пачатку судовага працэсу, бо ведаю, што падчас суду гэтага рабіць нельга. На дазвол судзьдзі спадзявацца не выпадала, але я не чакаў, што да мяне кінецца супрацоўнік Кастрычніцкага РАУС Віцебску, які назваўся Міхаілам Мядзьведзевым. Ён абурыўся, што я нібыта фатаграфую яго, потым заявіў, што ў будынку суду наогул здымаць забаронена. (Дзіўна, што гэта казаў міліцыянт, а не работнікі суду.) Увогуле ж ніякіх папярэджаньняў пра забарону нідзе бачна не было", – распавёў Леанід Гаравы. Ён патлумачыў супрацоўніку, што


Сяржук Серабро

зьяўляецца сябрам ГА "БАЖ". Але міліцыянт сказаў, што "ў сапраўднага журналіста мусіць быць бэйджык", а інакш і размаўляць няма пра што.

Леанід Гаравы адзначыў і яшчэ адну акалічнасьць: калі судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску Іна Грабоўская папярэдзіла, што ў залі нельга праводзіць фота- і відэаздымкі, усе паслухмяна схавалі свае фотаапараты і камэры. Апрача прадстаўніка МУС у цывільным, які працягваў рабіць відэаздымкі. Судзьдзя ня ведала, хто гэты чалавек, таму загадала яму як парушальніку пакінуць залю суду. Міліцыянт падаўся да выхаду, але яго калегі патлумачылі судзьдзі, што гэта "іхны чалавек". І відэаапэратар застаўся ў залі, ды яшчэ пэрыядычна здымаў тое, што лічыў патрэбным.

Спадар Гаравы напісаў скаргу на адрас старшыні суду, бо дзеяньні судзьдзі Грабоўскай, якая не пярэчыла здымкам міліцыянта і забараніла гэта рабіць іншым, ён расцаніў як праявы дыскрымінацыі паводле прафэсійнай прыкметы.

**03.05.2013** Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэньне аб'яднаць дзьве дзяржаўныя газэты. У выніку зьліцьця рэдакцыяў абласных газэт «Віцебскі рабочы» і «Народнае слова» будзе створанае адно новае выданьне «Витебские вести». Выпуск «Витебских вестей» пачнецца з 1 ліпеня 2013 году, выданьне будзе выходзіць 3 разы на тыдзень, ворганам кіраваньня вызначанае ідэалягічнае ўпраўленьне аблвыканкаму.

«Віцебскі рабочы» выдаваўся з 1917 году, за савецкім часам быў цалкам беларускамоўным выданьнем, але апошнім часам беларускамоўнай у ім засталася толькі назва. Як і ў «Народнага слова», якое было заснаванае ў 1990-м.

Назву «Витебские вести» насіла акупацыйная газэта часоў Другой сусьветнай вайны.

**12.06.2013** Журналісты, што прыехалі ў Віцебск на суд над **Андрэем Гайдуковым** сутыкнуліся з актыўным процідзеяньнем з боку міліцыі і супрацоўнікаў у цывільным. Калі журналісткі паспрабавалі ўзяць камэнтар у **праваабаронцы Паўла Левінава**, падышоў нейкі чалавек, які выдаваў зь сябе глуханямога, і стаў перашкаджаць працаваць, паводзіўся неадэкватна. Маёр міліцыі Віталь Вячаслававіч Фралоў неаднаразова заяўляў: «Я Вас папярэджваю: нельга». У журналістак спрабавалі забраць камэру.

## Перашкоды дзейнасьці праваабаронцаў


Леанід Сьвецік

**12.11.2012** На віцебскага **праваабаронцу Паўла Левінава** складзены адміністрацыйны пратакол аб парушэньні правілаў дарожнага руху. 12 лістапада з самай раніцы Левінаў знаходзіўся каля будынку Ўпраўленьня КДБ па Віцебскай вобласьці, дзе напярэдадні прагрымеў выбух. Менавіта ад яго шматлікія мэдыі даведваліся, што адбываецца на месцы здарэньня.

Левінаў спрабаваў сустрэцца з кім-небудзь з кіраўніцтва мясцовага КДБ або міліцыі, каб даведацца афіцыйнай інфармацыі пра здарэньне. Аднак замест гэтага каля 10:00 яго даставілі ў РАУС, абвінаваціўшы ў парушэньні правілаў дарожнага руху - у тым, што, знаходзячыся побач з будынкам УКДБ, ён хадзіў па праезнай частцы, а не на ходніках.

Як распавёў праваабаронца, ён сапраўды выходзіў на дарогу, але - ня ён адзін. “Тэрыторыя каля будынку КДБ па-ранейшаму абнесеная стужкай, машыны тут не праяжджаюць, таму па праезнай частцы ходзяць шмат хто, у тым ліку - супрацоўнікі камітэту”, - заўважыў Левінаў. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні складаў інспэктар ДАІ Баранаў. Са словаў Левінава, гэта быў загад начальніка, інспэктара Халаднова, заняцца менавіта ім, каб адцягнуць увагу ад будынку КДБ. Бо Баранаў ніяк не рэагаваў на супрацоўнікаў КДБ, якія пераходзілі дарогу не на пешаходным пераходзе.

За парушэньне правілаў дарожнага руху Левінава абавязалі выплаціць штраф у памеры 200 тысяч рублёў, аднак праваабаронца зьбіраецца абскардзіць дзеяньні міліцыі. “Пры складаньні пратаколу мае правы былі парушаныя, мне не далі магчымасьць абароны. Я буду абскарджваць дзеяньні міліцыі”, - паведаміў праваабаронца.

**07.12.2012** Намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна забараніла праваабаронцам зладзіць пікет 10 сьнежня. Такое рашэньне было прынятае нягледзячы на тое, што імпрэза мусіла адбыцца ў месцы, адмыслова вызначаным уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў - у парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. Прычына забароны пікету - заяўнікі акцыі не заключылі дамоваў на яе абслугоўваньне са службай ЖКГ, паліклінікай і міліцыяй.

Міжнародны дзень правоў чалавека 10 сьнежня адзначаецца ва ўсім сьвеце. У гэты дзень у 1948 годзе Генэральнай асамблеяй ААН была прынятая Ўсеагульная дэклярацыя правоў чалавека. На думку віцебскага **праваабаронцы Леаніда Сьвеціка**, улады, забараніўшы пікет, прысьвечаны гэтай гістарычнай даце, паказалі сваё сапраўднае стаўленьне да правоў чалавека. “Улады ў чарговы раз прадэ-

манстравалі, што яны не зацікаўленыя ў любой грамадзка-палітычнай актыўнасьці", - заявіў ён.

**10.04.2013 Праваабаронца Леанід Сьвецік** зьвяртаўся ў Цэнтральную выбарчую камісію з прапановай аб унясеньні зьменаў у выбарчы кодэкс. У прыватнасьці, ён прасіў дадаць у артыкул 11 выбарчага кодэксу азначэньне дзяржаўна-прававога статусу выбарчых камісіяў – у дзеючай цяпер рэдакцыі кодэксу такога азначэньня няма. Надоечы быў атрыманы адказ на прапанову: Лідзія Ярмошына паведаміла праваабаронцу, што ягоны зварот пакінуты без разгляду па сутнасьці.

«Разгляд прапановаў аб зьмене дзейнага заканадаўства, у тым ліку выбарчага, да кампэтэнцыі Цэнтральнай камісіі не належыць, бо камісія зьяўляецца праваапрымяняльным органам, а не суб'ектам права заканадаўчай ініцыятывы», – гэтак абгрунтавала старшыня ЦВК адмову разглядаць прапанову праваабаронцы. Цікава, што хаця ЦВК не кампэтэнтная, паводле спадарыні Ярмошынай, разглядаць прапановы аб зьмене заканадаўства, тым ня менш менавіта гэты орган займаецца распрацоўкай законапраекту аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у выбарчы кодэкс. «Нашы юрысты ўжо распачалі гэтую працу», – заявіла Лідзія Ярмошына карэспандэнту БЕЛТА ў лістападзе 2012 году.

Пра прычыну свайго звароту ў ЦВК распавядае Леанід Сьвецік: «Варта адзначыць, што, напрыклад, у заканадаўстве суседняй Расеі выбарчыя камісіі вызначаюцца як дзяржаўныя органы. У нашым жа выбарчым кодэксе дэфініцыя выбарчай камісіі адсутнічае. У Беларусі выбарчая камісія – гэта не арганізацыя і ня орган, а немаведама што».

«Суды не прызнаюць за камісіямі нейкага юрыдычнага статусу і таму ня могуць прыцягнуць да адказнасьці іх кіраўнікоў, калі тыя парушаюць правы і законныя інтарэсы грамадзян, – працягвае праваабаронца. – Так, падчас выбараў 2012 году быў выпадак у Віцебску, калі старшыня і сакратар акруговай выбарчай камісіі парушылі закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб. Аднак аднавіць парушаныя правы праз суд не ўдалося, бо, згодна з пастановай суду, выбарчыя камісіі – гэта не арганізацыі, таму дзеяньне згаданага закону на іх не распаўсюджваецца».

«Вельмі шкада, што ЦВК з фармальных прычын не пажадала адказаць на маю прапанову аб унясеньні зьмены і наданьні выбарчым камісіям нейкага арганізацыйнага статусу. Але мяркую, што юрысты, якія працуюць над папраўкамі ў выбарчы кодэкс, зразумелі сутнасьць прававой калізіі, на якую я зьвярнуў увагу. Спадзяюся, што яны ўсё-такі ўнясуць адпаведныя зьмены ў кодэкс, каб калізія была выпраўленая», – сказаў Леанід Сьвецік.

**17.04.2013** Судзьдзя Першамайскага райсуду Валянціна Кісьмярошкіна прызнала **праваабаронцу Пятра Іванова** вінаватым у ілжэсьведчаньні на супрацоўніка міліцыі і ў непадпарадкаваньні міліцыянтам. Агульная сума двух штрафаў — 4 мільёны рублёў. У судзе згадалі інцыдэнт, які здарыўся ў Віцебску 16 лютага. Тады Пётар Іваноў стаў сьведкам затрыманьня **актывістаў аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Аляксея Кішчука** і **Станіслава Лаўрэнава**, якія выйшлі ў цэнтар Віцебску з расьцяжкай «Свабоду палітвязьням».


Пётар Іваноў

Міліцэйская машына, заехаўшы на ходнік, ледзьве ня зьбіла яго з ног. Спадар Іваноў зьвярнуўся да абласнога міліцэйскага кіраўніцтва, каб даведацца прозьвішча кіроўцы машыны, нумар якой ён зафіксаваў. Бо меркаваў напісаць заяву ў суд. 12 красавіка Пятра Іванова выклікалі ў абласную ўправу ДАІ, каб узяць тлумачэньні. Але падчас гутаркі падпалкоўнік Аляксандар Сьцяпанаў заявіў Іванову, што факты не пацьвердзіліся. А таксама — што Іваноў абвінавачваецца ў ілжэсьведчаньні і што яго будуць за гэта судзіць.

Адразу пасьля гэтага тут жа, у ДАІ, на Пятра Іванова быў складзены пратакол за ілжэсьведчаньне на міліцыянта. Дарэчы, прозьвішча кіроўцы міліцэйскай машыны яму так і не паведамілі. Хоць Іваноў прасіў назваць яго, каб мець магчымасьць зьвярнуцца ў суд. Але было сказана, што праверка ягонай вінаватасьці не паказала.

За ілжэсьведчаньне на супрацоўніка міліцыі судзьдзя Валянціна Кісьмярошкіна аштрафавала Пятра Іванова на 20 базавых велічынь — 2 мільёны рублёў. Ня стала аргумэнтам на карысьць актывіста ні тое, што ён абскардзіў пастанову, вынесеную ў ДАІ, ні тое, што ён зьвярнуўся ў абласную пракуратуру, каб паведаміць, што яго пазбавілі права на зварот у суд супраць парушальніка правілаў дарожнага руху.

Другі штраф, 20 базавых велічынь, Валянціна Кісьмярошкіна наклала на Пятра Іванова за непадпарадкаваньне супрацоўнікам міліцыі. У гэтым яго абвінавацілі міліцыянты, якія гвалтам цягнулі актывіста ў суд. Бо Пётар Іваноў быў гатовы ісьці туды сам, але падпалкоўнік Сьцяпанаў сказаў, што ён затрыманы. І тады яшчэ двое міліцыянтаў, адзін у форме, а другі ў цывільным, схапілі яго пад рукі і пачалі штурхаць у машыну. Праўда, да суду так і не давезьлі: з паўдарогі вярнуліся ў Першамайскі РАУС, каб скласьці пратакол пра непадпарадкаваньне.

**15.06.2013** Віцебскі **грамадзкі дзеяч Пётар Іваноў** прасіў кампэтэнтныя органы ўзбудзіць крымінальную справу супраць судзьдзі Валянціны Кісьмярошкінай, якая, на ягоную думку, сьвядома парушыла закон і несправядліва пакарала яго штрафам у памеры 4-х мільёнаў рублёў па адміністрацыйнай справе. Аднак, выглядае, да крымінальнай адказнасьці могуць прыцягнуць не судзьдзю, а самога Пятра Іванова: па гэта да начальніка ўпраўленьня Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці Ўладзімера Шалухіна зьвярнуўся старшыня суду Першамайскага раёну Віцебску А.А. Андрушэнка.

«Што тычыцца заявы Іванова пра ўзбуджэньне крымінальнай справы, пададзенай ва УСК, то аналіз яе зьместу… дае падставы для правядзеньня наконт яе пра-

веркі… на прадмет наяўнасьці-адсутнасьці ў дзеяньнях Іванова прыкметаў складу злачынстваў, прадугледжаных артыкуламі 369, 391, 400 КК Рэспублікі Беларусь», – піша галоўны судзьдзя Першамайскага райсуду кіраўніку сьледчага камітэту. Копію свайго ліста ён накіраваў пракурору Віцебскай вобласьці Генадзю Дыско.

Артыкул 369 Крымінальнага кодэксу (зьнявага прадстаўніка ўлады) прадугледжвае ў якасьці максымальнага пакараньня абмежаваньне волі на тэрмін да 2-х гадоў. Астатнія артыкулы, якія, згодна са старшынём райсуду, парушыў Пётар Іваноў: артыкул 391 – зьнявага судзьдзі (можа карацца абмежаваньнем волі на тэрмін да 3-х гадоў), артыкул 400 – загадзя фальшывы данос (пагражае абмежаваньнем волі да 2-х гадоў).

**30.06.2013 Праваабаронца Пётар Іваноў** ізноў аштрафаваны за адміністрацыйнае правапарушэньне, нібыта ўчыненае ім. Памер чарговага штрафу – 5 мільёнаў рублёў. Прычым пра тое, што яго судзілі, Пётар Іваноў даведаўся ўжо калі разгляд справы ў судзе завяршыўся: як сьцьвярджае спадар Іваноў, позву ў суд ён атрымаў на наступны дзень пасьля судовага паседжаньня.

Такім чынам, на думку Пятра Іванова, судзьдзя Першамайскага райсуду Віцебску Натальля Карабліна пазбавіла яго права на справядлівы разбор справы незалежным і бесстароньнім судом, што зьяўляецца парушэньнем часткі 1 артыкулу 14 міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох.

Справу накіраваў у суд начальнік Першамайскага АУС Віцебску. Артыкул кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях, паводле якога судзілі Пятра Іванова, – 23.5 – «абраза службовай асобы падчас выкананьня ёй службовых паўнамоцтваў». Ён нібыта абразіў міліцыянтаў Сьцяпанава і Багатырова, якія выступалі супраць яго сьведкамі ў судзе 17 красавіка.

## Грамадзянскія акцыі

**12.07.2012** Наваполацкія актывісты грамадзкага аб’яднаньня «Свабодны рэгіён» правялі акцыю ў падтрымку **палітвязьня Мікалая Статкевіча**. Як заявіў адзін з удзельнікаў акцыі, апошнім часам чамусьці ўсё радзей раздаюцца галасы ў падтрымку вязьняў сумленьня. А Статкевіч застаецца адзіным зьняволеным з кандыдатаў у прэзыдэнты апошніх выбараў, якога дагэтуль баязьліва палохаюцца прадстаўнікі практычна ўсіх узроўняў улады. Менавіта таму наваполацкія дэмакраты і вырашылі чарговы раз нагадаць пра людзей, які да гэтага часу знаходзяцца ў засьценках.

Характэрна, што ў адрозьненьне ад мінулых цяперашняе мерапрыемства праводзілася больш мабільным чынам. Расьцяжка разьвешваліся на якім-небудзь з прыкметных месцаў на 20-30 хвілін, а потым месца дысьлякацыі зьмянялася. Як распавялі актывісты, ім было б вельмі шкада, калі б банэр пэўнымі людзьмі быў сьпісаны ва ўтыль, а яшчэ горш, калі б ім у сваіх мэтах скарысталіся якія-небудзь дэструктыўныя арганізацыі, накшталт БРСМ.

**13.07.2012** Сябры “Маладога Фронту” зладзілі акцыю ў межах кампаніі “Ігнор-2012”. Яны вывесілі расьцяжку “Байкот выбарам дыктатуры!” у Віцебску. Маладафронтаўцы перакананыя, што маючыя адбыцца ў верасьні выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ня будуць ні сумленнымі, ні справядлівымі, таму заклікаюць жыхароў ня ўдзельнічаць у выбарчым фарсе.

**16.07.2012** Сьледчы камітэт па Віцебскай вобласьці разглядае пытаньне аб узбуджэньні новай крымінальнай справы супраць зьняволенага **лідэра “Маладога Фронту” Зьмітра Дашкевіча**. Актывісты Віцебскай філіі арганізацыі пакінулі пісьмовае папярэджаньне адказным за гэтае злачынства — «Не абламайце зубы!» Графіці-папярэджаньні зьявіліся перад уваходам у будынак па адрасе Маскоўскі праспэкт 120, г. Віцебск, дзе месьціцца Віцебскі абласны сьледчы камітэт.

**21.07.2012** Замест меркаванага пікету з удзелам **сябра незарэгістраванай партыі “Белая Русь” Аляксандра Кірылава**, за перасоўваньнямі якога па горадзе сачыла віцебская міліцыя, вырашыў асабіста распаўсюджваць улёткі с уласным артыкулам “Галасуй за ягоную Беларусь, а то прайграеш” **Сяргей Рыжоў**, **кіраўнік партыі**. У артыкуле гаворыцца пра тое, што Беларусь – адзіная краіна ў Эўропе, дзе існуе сьмяротнае пакараньне, што тут фальсыфікуюць выбары, зьбіваюць і саджаюць у турмы кандыдатаў ў прэзыдэнты, не дазваляюць грамадзянам праводзіць акцыі пратэсту.

Напярэдадні вечарам у інтэрнат, дзе жыве Аляксандар Кірылаў, прыйшла прадстаўніца аддзелу ідэалёгіі Кастрычніцкай раённай адміністрацыі Віцебску. Было гэта пасьля 22:00, і хлопец спачатку не хацеў пускаць чыноўніцу ў сваё жытло. Але яна настойвала і папракала Кірылава тым, што ён паскардзіўся на яе ў пракуратуру.

Аляксандар Кірылаў атрымаў нарэшце пісьмовае папярэджаньне ад уладаў: “Спадарыня літаральна ўварвалася да мяне ў пакой, кінула паперу. І пачала абурацца, чаму я паскардзіўся на яе ў абласную пракуратуру. А што мне заставалася рабіць, калі ўдзень мне тэлефануе нейкая невядомая асоба, называе сябе прадстаўніцай

райвыканкаму, і заяўляе, што мяне арыштуе міліцыя, ледзьве толькі я зьяўлюся ў цэнтры Віцебску з намерам правесьці пікет?"

Кірылаў зьбіраўся правесьці ў цэнтры Віцебску аднаасобны пікет супраць беспрацоўя, бо лічыць, што яго незаконна зьнялі з уліку ў абласным цэнтры занятасьці.

**25.07.2012** Не мінула і сутак з моманту рэгістрацыі акруговай выбарчай камісіяй ініцыятыўнай групы **актывіста кампаніі «Наш Дом»** і **партыі «Справядлівы сьвет» Мікалая Петрушэнкі,** як ён сам падаў у камісію заяву аб адкліканьні рэгістрацыі ініцыятыўнай групы. Мікалай Сямёнавіч патлумачыў свой крок салідарнасьцю з **палітвязьнем Мікалаем Статкевічам**, чыю групу камісія Аршанскай Дняпроўскай акругі № 27 адмовілася зарэгістраваць.

**27.07.2012** Уначы каля пасёлку Лужасна ля Віцебску на высакавольтнай лініі электраперадач зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг. Да сьцягу была прымацаваная цыдулка «На знак салідарнасьці з палітвязьнямі, якія годна трымаюцца ў турмах і ў сваім змаганьні за нашу шматпакутную Радзіму бяруць прыклад з нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. З нашым сьвятым бел-чырвона-белым сьцягам мы абавязкова пераможам! Жыве Беларусь! Жыве вечна! **Мірон**».

**03.09.2012** У Віцебску актывісты "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі" правялі акцыю, падчас якой заклікалі гараджанаў да байкоту "выбараў". Яны распаўсюдзілі ўлёткі па перадвыбарчых стэндах, пад'ездах дамоў і ў іншых месцах.

**13.09.2012** У Віцебску актывісты "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі" правялі чарговую акцыю за байкот выбараў. Яны раскідалі ўлёткі з даху 16-павярховага дому па вуліцы Белабародава. Вецер паразносіў іх па ўсіх скрыжаваньнях і па плошчы Перамогі. Напярэдадні актывістамі БХД была зладжаная яшчэ адна акцыя ў Віцебску. Па паштовых скрынях, пад'ездах, аўтамабілях і грамадзкіх месцах яны распаўсюдзілі ўлёткі, у якіх заклікалі грамадзян не ўдзельнічаць у фарсе пад назвай "выбары".

**17.09.2012** Чарговую акцыю за байкот "выбараў" зладзілі ў Віцебску актывісты "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі". Падчас яе адзін з актывістаў, апрануўшыся ў маску з выявай Аляксандра Лукашэнкі, агітаваў грамадзянаў да байкоту маючых адбыцца выбараў.

**19.09.2012** Бел-чырвона-белы сьцяг быў узьняты ўначы на высакавольтнай лініі электраперадач недалёка ад пасёлку Руба пад Віцебскам. «19 верасьня 1991 году легітымны парлямэнт Беларусі засьведчыў дзяржаўным гербам старажытны герб „Пагоня", а дзяржаўным сьцягам - бел-чырвона-белы гістарычны сьцяг. З гэтай сымболікай мы адбудуем нашу дзяржаву! Жыве Беларусь! Жыве вечна! **Мірон**», - гэтак абвяшчала цыдулка, прымацаваная да сьцягу.

**25.09.2012** На дошках абвестак ля пад'ездаў дамоў, на прыпынках грамадзкага транспарту, у публічных месцах Віцебску зьявіліся налепкі з заклікам: "**Свабоду Алесю Бяляцкаму**!". Гэтак мясцовыя актывісты прыцягнулі ўвагу жыхароў гораду над Дзьвіной да праблемы палітвязьняў, а таксама павіншавалі выбітнага беларускага праваабаронцу зь юбілеем - у гэты дзень яму споўнілася 50 гадоў.

**11.10.2012** У самых розных месцах Віцебску зьявіліся плякаты **«дэпутата» «Грама-**


Аляксандар Салаўян

**дзянскай дамовы» Сяргея Парсюкевіча**, каардынатара грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» па абласным цэнтры.

«Я вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў на мінулых выбарах. Аднак улады “зрэзалі” мяне яшчэ на этапе збору подпісаў, - пракамэнтаваў гэтую акцыю актывіст “Гавары праўду”. - Але нягледзячы на гэта, я працягну сваю працу ў якасьці альтэрнатыўнага прадстаўніка і абаронцы інтарэсаў месьцічаў перад чыноўнікамі».

**19.10.2012 Актывісты стваранай партыі “Беларуская хрысьціянская дэмакратыя” Таццяна Севярынец** і **Алена Шабуня** 19 кастрычніка ў межах кампаніі БХД “Рада народных дэпутатаў” сабралі 52 подпісы за паляпшэньне руху грамадзкага транспарту ў мікрараёнах Білева-1 і Білева-2. Подпісы будуць накіраваныя ў Віцебскі гарвыканкам.

Як паведаміла Таццяна Севярынец, у гэтыя мікрараёны праведзена вельмі мала транспартных маршрутаў, рух якіх да таго ж вельмі абмежаваны. Апроч таго, у руху аўтобусаў існуюць вельмі вялікія перапынкі, у выніку чаго людзі павінны шмат часу стаяць на прыпынках, а пасьля – ехаць у перапоўненым транспарце. Актывісткі патрабуюць пашырыць маршрутныя рухі, скараціць інтэрвалы руху, прадугледзець гнуткі графік адпачынку кіроўцаў.

**22.10.2012** Уначы ў Віцебску зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг зь віншавальнай цыдулкай ад **Мірона** да 130-х угодкаў Якуба Коласа. Сьцяг быў вывешаны на электрычных дратох над вуліцай Церашковай.

**28.10.2012** Віцебскія актывісты адведалі месца масавых расстрэлаў. Каля вёскі Паляі пад Віцебскам ствараецца самаробны мэмарыял, якім апякуюцца прадстаўнікі розных апазыцыйных партыяў і рухаў. За некалькі гадоў на ўзьлеску ўсталявалі некалькі крыжоў, якія добра відаць з аўтадарогі Р21, што вядзе зь Віцебску ў бок Лёзна і Смаленску.

**Барыс Хамайда** і **Аляксандар Салаўян** прыехалі, каб пафарбаваць апошні крыж, усталяваны тут улетку. **Кастусь Смолікаў** і яшчэ некалькі сябраў Партыі БНФ прыбіралі сьмецьце ля крыжоў ды вырашалі, якім чынам самаробны мэмарыял можна добраўпарадкаваць далей. Імаверна, неўзабаве на месцы расстрэлаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў зьявіцца і мэмарыяльны камень.

Цягам апошніх гадоў віцебскія актывісты ня толькі прыбіралі гэтае жалобнае месца, дзе ў 1930–50-я гады расстрэльвалі мірных грамадзянаў. Яны зьбіралі аповеды сьведкаў — старажылаў тутэйшых мясцін, і неаднаразова спрабавалі ініцыяваць тут навуковыя досьледы. Зьярталіся і да мясцовых уладаў — каб надаць


Наста Палажанка

самаробнаму мэмарыялу належны статус або нават стварыць тут больш грунтоўны помнік. Але гэтыя ініцыятывы пакуль так і застаюцца на ўзроўні прапаноў, падтрымаць іх дзяржаўныя структуры ня хочуць.

**31.10.2012** У самых людных месцах гораду сустракаецца зроблены праз трафарэт надпіс «Спыніце тэрор! **Свабоду Дашкевічу!**». Графіці ў Віцебску зьявіліся напярэдадні чарговага выязнога паседжаньня суду над палітвязьнем у Мазырскай калёніі. Лідэру «Маладога фронту» могуць зьмяніць пакараньне на больш суворае.

«Гэта зьвязана з тым, што Зьмітра Дашкевіча прызналі злосным парушальнікам рэжыму», — паведаміла намесьніца старшыні «Маладога фронту» **Наста Палажанка**, нявеста палітвязьня.

Яна дадала, што актывіст не мог стаць злосным парушальнікам рэжыму, бо адразу па прыбыцьці ў выпраўленчую калёнію № 20 Мазыра быў зьмешчаны ў штрафны ізалятар, а затым — у памяшканьне камэрнага тыпу.

**02.11.2012** Актывісты кампаніі “Наш дом” распачалі збор подпісаў жыхароў Віцебску пад патрабаваньнем да ўладаў ўсталяваць сьвятлафор на пераходзе па вуліцы Чарняхоўскага, насупраць абутковай крамы “Марка”. Сьвятлафор мусіць быць абсталяваны індыкацыяй рэшты часу сьвятленьня чырвонага і зялёнага сыгналаў.

Зварот “Нашага Дому” і подпісы грамадзян будуць накіраваныя старшыні Віцебскага гарадзкога Савету дэпутатаў Мікалаю Смуневу і старшыні Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту Віктару Нікалайкіну.

**03.11.2012** На Дзяды па даўняй завядзёнцы віцебскія актывісты наведваюць могілкі, дзе пахаваныя іхныя аднадумцы. 1 лістапада тры чалавекі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі прайшлі з краю ў край вялізныя гарадзкія могілкі, спыняючыся каля засьнежаных магіл сваіх аднадумцаў. На магілах засталіся гарэць сьвечкі ў іх памяць.

Сёлета памінальную акцыю давялося падзяліць на часткі: у адзін дзень паехаць на могілкі пад вёскай Копці, а ўжо назаўтра — на магілу Ўладзімера Плешчанкі і на месца расстрэлу ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. 3 лістапада актывісты прыйшлі ва ўрочышча Мазурына да магілы аднаго зь першых незалежных журналістаў Віцебшчыны. Зрабіць усё ў адзін дзень не хапае ні часу, бо адлегласьці паміж могілкамі вялікія, ні фізычных сілаў. На могілках жа даводзіцца ня толькі ўскладаць кветкі ды запальваць сьвечкі, але і прыбіраць.

**05.11.2012** На знак салідарнасьці з журналістамі сьвету, якія 5 лістапада праводзяць

акцыю «Станем за журналістыку!», віцебскія сябры ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» («БАЖ») выйшлі да так званага «сіняга дому» — дому № 28 па вуліцы Леніна — разам з **распаўсюднікам незалежнай прэсы Барысам Хамайдам**.

«Мы не зьбіраліся правакаваць на сілавыя захады праваахоўныя ворганы. Таму вырашылі, што ня варта, каб прысутнічала шмат людзей адначасова. Нехта з бажаўцаў адыходзіў, нехта прыходзіў на яго месца. Мы імкнуліся давесьці да жыхароў Віцебску тыя праблемы, якія ёсьць у беларускай журналістыцы — гэта перасьлед супрацоўнікаў незалежных СМІ, пагрозы ліквідацыі часопісу "Arche"», — апавёў спадар Хамайда.

Разам зь незалежнымі выданьнямі — газэтамі «Наша ніва», «Новы час», — незалежныя журналісты прапаноўвалі мінакам інфармацыйныя ўлёткі са зьвесткамі пра акцыю салідарнасьці і пра сытуацыю зь недзяржаўным друкам у Беларусі. Побач з часопісамі «Arche» на століку Барыса Хамайды мінакі бачылі яшчэ адну абвестку — пра ціск на гэтае выданьне і просьбу падтрымаць супрацоўнікаў. Ахвотныя маглі таксама напісаць некалькі словаў **палітвязьню Паўлу Севярынцу**, сябру ГА «БАЖ», якому віцебскія аднадумцы вырашылі ў гэты дзень адправіць калектыўны ліст.

У акцыі салідарнасьці ўзялі ўдзел шасьцёра віцебскіх сябраў ГА «БАЖ». У тым ліку **Вадзім Баршчэўскі**, **шэф-рэдактар недзяржаўнай газэты «Витебский курьер»**, і **праваабаронца Павал Левінаў**, які ўвесь час быў побач на выпадак затрыманьняў ці яшчэ якіх непрыемнасьцяў зь міліцыяй. Сапраўды, міма некалькі разоў праходзілі амапаўцы і нават некуды тэлефанавалі, заўважыўшы побач зь месцам распаўсюдніка плякат «Станем за журналістыку!». Нейкі час паблізу знаходзіўся і супрацоўнік міліцыі ў цывільным, але ніякіх рэпрэсіўных дзеяньняў у дачыненьні да журналістаў не было.

**18.11.2012** Віцебскія актывісты Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі правялі акцыю "Калі сёньня ты замаўчыш, заўтра цябе ніхто не абароніць". Мэта акцыі – азнаёміць віцебчукоў з праўдай пра "выбары". Падчас акцыі актывісты распаўсюдзілі па паштовых скрынях бюлетэні са зьвесткамі пра тое, як фальшаваліся мінулыя "выбары" ў Беларусі.

**26.11.2012** У Віцебску на сьценах дамоў і гаражоў зьявіліся трафарэтныя графіці сацыяльна-палітычнага зьместу. Так, адно з пасланьняў мінакам катэгарычна сьцьвярджае: «Бухают рабы». Адно з гэткіх графіці нанесенае на доме па вуліцы Багдана Хмяльніцкага, 11/6, па суседзтве зь Віцебскім абласным судом. Дарэчы, будынак гэты (канца XIX - пачатку XX стагодзьдзя) зьяўляецца культурна-гістарычнай каштоўнасьцю. На думку аднаго зь мінакоў, надпіс надае яму яшчэ большую гістарычную каштоўнасьць…

Графіці «Спыніце тэрор! Свабоду Дашкевічу!» заўважаныя ў спальным віцебскім раёне «Поўдзень-7». Выглядае на тое, што яны рэгулярна аднаўляюцца - пасьля таго, як іх зафарбоўваюць (саскрэбваюць) пільныя грамадзяне або дворнікі.

**26.11.2012** Уначы каля аўтастрады ўздоўж віцебскага мікрараёну на лініі электраперадач зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг. Да сьцягу была прымацаваная цыдулка. Зьмест яе такі: «У гадавіну Слуцкага паўстаньня ўсе мае думкі пра лёс нашай


Хрыстафор Жаляпаў

Бацькаўшчыны. Сёньня час патрабуе вельмі мужных і моцных духам людзей, зьяднаных беларускай нацыянальнай ідэяй, каб у любы момант абараніць незалежнасьць нашай Радзімы. Мы павінны быць вартымі герояў Слуцкага збройнага чыну. Жыве Беларусь! Жыве вечна! **Мірон**». Сьцяг правісеў усю ноч і зьнік толькі раніцай.

**30.11.2012** У гадавіну вынясеньня сьмяротнага прысуду **Ўладзіславу Кавалёву** і **Дзьмітрыю Канавалаву**, **Ірына Багданава**, **Лера Красоўская** і **Любоў Кавалёва** заклікалі сусьветную грамадзкасьць аб’яднацца і патрабаваць вярнуць цела Ўладзіслава Кавалёва яго сям’і. Відэазварот ад імя трох жанчын быў выпушчаны ў рамках кампаніі Любові Кавалёвай “Вярніце цела”, якую яна распачала на глябальнай пляцформе Change.org.

У сваім відэазвароце Любоў Кавалёва просіць дапамагчы ёй вярнуць цела яе сына Ўладзіслава. Лера Красоўская дзеліцца сваёй гісторыяй, выказваючы надзею даведацца калі-небудзь, што адбылося зь яе бацькам. Ірына Багданава, у сваю чаргу, зьвяртаецца да сусьветнай грамадзкасьці з просьбай падпісаць пэтыцыю Любові Кавалёвай і зрабіць усё магчымае, каб прымусіць беларускія ўлады выпусьціць палітвязьняў і не дапусьціць зьяўленьня новых.

**10.12.2012** Дэмакратычныя актывісты Віцебску правялі публічную лекцыю «Што такое правы чалавека, і як яны выконваюцца ў Беларусі». Яе прачытаў 10 сьнежня **каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**. Публічную лекцыю мясцовыя актывісты арганізоўвалі ўпершыню.

Міліцыянты не заміналі актывістам, але ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў іх было ці не ўдвая болей, чымся слухачоў. Былі і міліцыянты ў форме, і людзі ў цывільным, і нават спартовага выгляду дзяўчаты, якія заявілі: «Мы — з «Арыфлэйму!» Але «гандляркі касмэтыкай» стаялі ў адным шэрагу зь міліцыянтамі, і нехта з прысутных паведаміў, што сёлета ў віцебскі АМОН і ў міліцыю вялікі недабор, таму ахвотна бяруць і дзяўчат.

Пасьля лекцыі, якая пад пільным назіраньнем была нядоўгай, усіх слухачоў «праводзілі» з парку «пад вартай» — усьлед за кожнай групай актывістаў ішлі 2–3 чалавекі.

**11.12.2012** У Віцебску актывісты “Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі” ў дзень, калі ў 1991 годзе Вярхоўны Савет Беларусі зацьвердзіў эталёны дзяржаўных сымбаляў, правялі чарговую акцыю. Яны прымацавалі бел-чырвона-белы сьцяг да тралейбусу №5, дзякуючы чаму шматлікія жыхары гораду ўпершыню за доўгі час змаглі пабачыць нацыянальны сьцяг.

**16.12.2012** Акцыю ў Дзень салідарнасьці правялі віцебскія актывісты Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. На чыгуначным мосьце па вуліцы Зяленагурскай яны вывесілі бел-чырвона-белы сьцяг і банэр “Свабоду палітвязьням”.



Валяр'ян Мацкевіч

**29.12.2012** У Віцебску актывісты Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі зладзілі акцыю. Яны запусьцілі на бел-чырвона-белых балёніках у паветра нацыянальны сьцяг. Акцыя прайшла ля гандлёвага цэнтру "Эвіком".

**11.01.2013** Віцебскія актывісты Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі правялі чарговую акцыю. На чыгуначным мосце па вуліцы Герцана яны вывесілі банэр "Свабоду народу".

**21.01.2013** Малады чалавек на вачох у людзей падняўся на слуп і ўстанавіў там нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта адбылося ў самым цэнтры гораду, каля "Сіняга дому". Акцыя праведзеная ў гонар 150-годзьдзя паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Бел-чырвона-белы беларускі сьцяг застаецца дэфакта забароненым у краіне, пасьля таго як у 1995 годзе Аляксандар Лукашэнка замяніў яго на чырвона-зялёны савецкі.

**17.02.2013** У Віцебску мясцовыя сябры аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" правялі сумесную акцыю ў межах "Хвалі салідарнасьці". У гэты дзень яны разам напісалі лісты беларускім палітвязьням, а таксама ўзялі капэрты з адрасамі вязьняў з сабой, каб як мага больш людзей маглі напісаць ім.

**18.02.2013** У Віцебску актывісты аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" ў межах маратону "Хваля салідарнасьці" зладзілі супольную малітву за палітвязьняў. Яна праходзіла каля Эўфрасіньнеўскага крыжа. "Нас было няшмат, але людзей у чорным, якія пільна сачылі за намі і былі гатовыя ў любы момант на нас накінуцца, было ў два разы больш", - адзначыла **каардынатарка БХД па Віцебскай вобласьці Тацьцяна Севярынец**.

Тым ня менш, адзначыла яна, акцыя прайшла без затрыманьняў. Скончыўшы малітву гімнам "Магутны Божа" і воклічам "Жыве Беларусь!", яе ўдзельнікі разышліся.

**17.03.2013** Чарговым месцам правядзеньня маратону "Хваля салідарнасьці" стала мястэчка Гарадок Віцебскай вобласьці. Тут мясцовыя актывісты "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі" разам зь іншымі неабыякавымі людзьмі напісалі лісты палітвязьням. Мяркуецца, што маратон "Хваля салідарнасьці" пройдзе па 37 гарадох Беларусі і скончыцца акцыяй у Дзень Волі ў Менску.

**10.04.2013** У Віцебску адбылося ўрачыстае мерапрыемства, прысьвечанае 20-годзьдзю вэтэранскай арганізацыі воінаў-афганцаў.

Мэмарыяльныя знакі ў памяць аб подзьвігу воінаў-інтэрнацыяналістаў 2013 году ўсталююць у трох райцэнтрах Віцебскай вобласьці - Бешанковічах, Дуброўне і Сянно. Пра гэта паведаміў **старшыня Віцебскага абласнога савету грамадзкага аб'яднаньня "Беларускі саюз вэтэранаў вайны ў Афганістане" Валяр'ян Мацкевіч**.

**11.04.2013** У Віцебску ладзяцца мерапрыемствы ў памяць вязьняў фашызму.

Міжнародны дзень вызваленьня вязьняў фашысцкіх канцлягераў усталяваны з ініцыятывы ЮНЭСКО ў памяць аб інтэрнацыянальным паўстаньні, якое 11 красавіка 1945 году паднялі вязьні Бухенвальду. Адна з самых трагічных старонак Другой сусьветнай вайны - непаўнагадовыя вязьні. «Калі 20 гадоў таму была створаная абласная арганізацыя Беларускай грамадзкай асацыяцыі былых непаўналетніх вязьняў фашызму, на ўліку ў райвыканкамах іх было 25 тысяч, на пачатак 2013 году засталося 7400», - паведаміў нязьменны **старшыня арганізацыі Хведар Ціханаў**.

Таму асноўная яе задача - сацыяльная абарона сябраў. Наладжваюцца сувязі з раённымі тэрытарыяльнымі цэнтрамі сацыяльнага абслугоўваньня. У міжнародным конкурсе праектаў па сацыяльнай абароне былых вязьняў фашызму, абвешчаным нямецкім фондам «Памяць, адказнасьць і будучыня», удзельнічае і праект арганізацыі.

А галоўным у грамадзкай дзейнасьці арганізацыі зьяўляецца патрыятычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня. Зь яе ініцыятывы штогод у Дзень вызваленьня вязьняў ладзіцца мітынг-рэквіем каля помніку пры канцы вул. Цітова, дзе падчас вайны знаходзіўся лягер пярэдняга краю нямецкай абароны («5-й полк»).

**26.04.2013** Чарнобыльскія вянкі паплылі па Дзьвіне і Дняпры. Гэта ўжо традыцыйная акцыя, якая адбываецца штогод.

«Некалькі актывістаў сабраліся а 18-й вечара каля крыжа на Ўсьпенскай горцы, а потым усе спусьціліся ўніз — бліжэй да таго месца, дзе Віцьба ўпадае ў Дзьвіну. Калі пачалі пускаць вянок, аднекуль набеглі работнікі камунальных службаў ды пачалі крычаць: „Чаму забруджваеце рэчку розным сьмецьцем?“ А людзі ў цывільным здымалі гэта на відэа», — распавёў удзельнік акцыі **старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў**.

Аршанскія дэмакратычныя актывісты штогод запускаюць вянок памяці па Дняпры. Вянок з надпісам на чорнай стужцы «Ахвярам Чарнобылю ад Аршанскай кааліцыі дэмакратычных сілаў» пасьля хвіліны маўчаньня спусьцілі на ваду з моста каля гарадзкога парку.

**26.04.2013** У пікеце, які прайшоў 26 красавіка ў цэнтры Віцебску, узялі ўдзел двое **сяброў КХП-БНФ**. **Віталь Каваленка** і **Ян Дзяржаўцаў** цягам прыкладна 30-ці хвілін стаялі ля помніку Машэраву з плякатамі «Будаваць АЭС бяз згоды народу можа толькі вораг Беларусі» і «Дыктатар! Пабудуеш Астравец – пажнеш Чарнобыль!» Мінакі спыняліся ля пікетоўцаў, задавалі ім пытаньні, рабілі фатаграфіі з дапамогай здымачоў мабільных тэлефонаў.

Раней Ян Дзяржаўцаў прасіў улады дазволіць падобную акцыю ў гэты дзень у іншым месцы – у парку «Мазурына», але атрымаў забарону на яе правядзеньне. Заяўка на акцыю ля помніку Машэраву не падавалася.

Нягледзячы на тое, што пікет ня быў санкцыянаваны ўладамі, абышлося без затрыманьняў. Супрацоўнікі ворганаў аховы правапарадку зьявіліся ўжо тады, калі ўдзельнікі імпрэзы згарнулі плякаты. Міліцыянты пацікавіліся зьместам плякатаў

і папярэдзілі, што калі тыя будуць разгорнутыя, удзельнікі акцыі будуць затрыманыя.

**07.05.2013** Падчас месячніку Чырвонага Крыжа, які ладзіцца ў траўні, сябры ініцыятыўных групаў пажылых па працы ў супольнасьці Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа (БТЧК) правядуць дабрачынную акцыю "Бабуліна казка". Пра гэта паведаміла на прэсавай канфэрэнцыі **старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БТЧК Галіна Жаланава**. Гэта новы праект абласной арганізацыі. Ініцыятыўныя групы пажылых людзей будуць наведваць спэцыялізаваныя дзіцячыя дамы, прытулкі, аддзяленьні дзённага знаходжаньня для маладых інвалідаў і расказваць выхаванцам гэтых установаў казкі.

Галіна Жаланава падкрэсьліла, што дзецям-інвалідам не хапае зносін, яны абмежаваныя ў перасоўваньні. Часта іх асяродзьдзе складаюць некалькі чалавек зт ліку сваякоў і выхавальнікаў. "Нашы валянтэры ня проста раскажуць дзецям казку. Як і належыць бабулям, якія любяць, яны прынясуць дзецям падарункі: вязаныя шкарпэткі, рукавіцы і кніжкі з маляўнічымі ілюстрацыямі", - распавяла яна.

**15.05.2013** У Віцебску мясцовыя актывісты аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" напярэдадні Міжнароднага дня сям'і, які адзначаецца 15 траўня, правялі акцыю ў абарону сямейных каштоўнасьцяў. Ля віцебскай ратушы – месца адпачынку гараджанаў – яны раздавалі брашуры БХД "За сямейныя каштоўнасьці". Усяго было раздадзена каля сотні такіх брашураў.

**29.05.2013** Актывісты "Гавары праўду" зь Віцебску правялі падпісную кампанію пад патрабаваньнем да мясцовых уладаў даць справаздачу аб расходаваньні сродкаў гарадзкога бюджэту. Пад зваротам, адрасаваным у мясцовыя выканаўчыя органы ўлады "Хочам ведаць, куды ідуць нашы грошы!», падпісалася звыш за пяцьдзясят чалавек.

"Мы, ніжэйпадпісаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, выступаем за тое, каб рэспубліканскі і мясцовы бюджэты і справаздачы аб іх выкарыстаньні перад прыняцьцем у абавязковым парадку падлягалі апублікаваньню ў друку і на афіцыйных сайтах выканаўчых органаў улады; праходзілі працэдуру грамадзкага абмеркаваньня", - гаворыцца ў звароце.

**29.05.2013** Віцебскія актывісты добраўпарадкавалі пахаваньне ахвяр сталінізму каля вёскі Паляі Віцебскага раёну. Тут у 1930-50-я гады адбываліся расстрэлы мірных грамадзян. Некалькі гадоў таму каля вёскі Паляі зьявіліся першыя крыжы, усталяваныя ў памяць пра бязьвінных ахвяраў. Некалькі разоў крыжы зьнішчалі, але зьяўляліся новыя. Цяпер мэмарыял, зроблены рукамі актывістаў, уяўляе сабой 5 драўляных і два зялезныя крыжы. Адзін з крыжоў вышынёй пад 6 мэтраў з надпісам «Ахвярам таталітарнага рэжыму».

«Сёньня мы тут проста прыбіраем сьмецьце, траву, садзім кветкі. Але прыйдзе час, і ў гэтых мясьцінах абавязкова будзе помнік. Бо памяць пра людзей, расстраляных тут, абавязкова мусіць быць ушанаваная належным чынам», — перакананы старшыня абласной партыйнай суполкі **Леанід Аўтухоў**, які арганізаваў сёлетняе добраўпарадкаваньне.

**22.06.2013** У Віцебску актывісты "Маладых хрысьціянскіх дэмакратаў" зладзілі

акцыю салідарнасьці з наваполацкім дэмакратычным актывістам **Андрэем Гайдуковым**, які абвінавачваецца ў здрадзе дзяржаве. Падчас акцыі ў двух раёнах і ў цэнтры Віцебску (побач з абласным судом, дзе праходзіць працэс над Гайдуковым) былі расклееныя ўлёткі супраць судовага працэсу.

## Звароты грамадзян у Камітэт па правох чалавека ААН


Уладзіслаў Кавалёў

**14.11.2012** Камітэт па правох чалавека ААН прызнаў, што адносна **Ўладзіслава Кавалёва**, якога пакаралі сьмерцю за выбух у менскім мэтро, быў парушаны міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правох.

Сваё заключэньне па скарзе **Любові Кавалёвай** і сястры Ўладзіслава — **Тацьцяны Козяр** далі 18 экспэртаў з розных краін, што ўваходзяць у ААН. Яны адзначаюць канкрэтныя парушэньні, дапушчаныя падчас правядзеньня сьледзтва, суду і выкананьня сьмяротнага прысуду. Галоўнае, што напісана ў гэтым дакумэнце: «Права на жыцьцё Ўладзіслава Кавалёва было парушанае».

**Юрыст Раман Кісьляк** назваў журналістам парушэньні, якія прызналі міжнародныя экспэрты: «Па-першае, адносна Ўладзіслава Кавалёва ўжывалася фізычная сіла, недазволеныя мэтады. Яго прымусілі даць паказаньні супраць самога сябе. Ён пра гэта заявіў падчас судовага паседжаньня. І гэта парушэньне як забароны катаваньня і жорсткага абыходжаньня, так і забароны прымусу даваць паказаньні адносна асабіста сябе».

Экспэрты ААН пішуць і пра іншыя парушэньні. Напрыклад, іх зьдзіўляе, што амаль усе хадайніцтвы пракуратуры судзьдзі задаволілі, а патрабаваньні адвакатаў — амаль усе адхілілі. І гэта ставіць пад сумнеў, на думку экспэртаў, незалежнасьць і непарадузятасьць суду.

Маці Ўладзіслава Кавалёва заявіла: дакумэнты з Жэнэвы даюць ёй падставу сьцьвярджаць, што сапраўдныя злачынцы, якія зрабілі выбух у менскім мэтро, да гэтага часу не названыя. «Улады не спрабуюць знайсьці сапраўдных выканаўцаў гэтага страшнага тэракту», — сказала яна: «Таму мы і сабраліся тут, каб расказаць людзям пра тую сыстэму, якая ў нас цяпер існуе, пра тое „правасудзьдзе", калі кагосьці проста прызначаюць на ролю вінаватых. І пра тое, як праходзіць сьледзтва і суд і як выносяцца такія страшныя прысуды. На жаль, сьмяротнае пакараньне адбылося. І нават такое рашэньне міжнародных экспэртаў ня верне мне сына. Але я хачу рэабілітаваць сына ў вачох людзей».

**20.11.2012** Камітэт па правох чалавека ААН зарэгістраваў скаргу Віцебскага актывіста **Кастуся Мардзьвінцава**, які просіць камітэт прызнаць Рэспубліку Беларусь парушальнікам часткі 1 артыкулу 14, часткі 2 артыкулу 19, часткі 1 артыкулу 25, артыкулу 26 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох ды прапанаваць Рэспубліцы Беларусь ліквідаваць дапушчаныя парушэнні і аднавіць яго правы.

Прычыну свайго звароту ў КПЧ Кастусь Мардзьвінцаў патлумачыў у сваёй скарзе:

«5 жніўня 2012 года я зьвярнуўся ў акруговую выбарчую камісію Віцебскай сельскай выбарчай акругі № 21 (далей - АВК № 21) з заявай, у якой прасіў даць магчы-


Антаніна Піванос

масьць прысутнічаць на праверцы сапраўднасьці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах па вылучэньні дэпутатаў у парлямэнт шляхам збору подпісаў 1000 выбаршчыкаў і дакумэнтаў аб вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты ад палітычных партыяў. Сваю заяву ў АВК № 21 я склаў на беларускай мове, якая зьяўляецца дзяржаўнай мовай у Рэспубліцы Беларусь, бо гэтая мова зьяўляецца для мяне роднай, якой я карыстаюся паўсядзённа і ў дасканаласьці ёй валодаю. Іншымі мовамі, у тым ліку і расейскай мовай, я валодаю ў недастатковай ступені.

17 жніўня 2012 году ў адказе, падпісаным старшынёй АВК № 21 А.П. Красоўскім і сакратаром І.М. Жулевай, мне было адмоўлена ў прысутнасьці на паседжаньні акруговай выбарчай камісіі. Гэты адказ камісіі быў напісаны на расейскай мове.

Для разуменьня дакладнага сэнсу адказу АВК я быў вымушаны зьвярнуцца ў Прыватнае прадпрыемства «Бюро перакладаў Ірыны Рымчонак» для перакладу ліста на беларускую мову, аплаціўшы пры гэтым паслугу перакладу ў памеры 59 000 рублёў.

Адказ кіраўнікоў АВК № 21 я быў вымушаны абскардзіць у вышэйстаячы орган - у Цэнтральную выбарчую камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў (далей ЦВК РБ). Акрамя аднаўленьня законнасьці пры арганізацыі і правядзеньні выбараў у парлямэнт і аднаўленьня маіх правоў выбаршчыка, я прасіў ЦВК РБ змусіць АВК № 21 прынесьці мне прабачэньні за прынесеныя маральныя і матэрыяльныя страты ў сувязі з тым, што адказ ад 17 жніўня 2012 г. № 23 быў аформлены на рускай мове.

Старшыня ЦВК РБ Лідзія Ярмошына дала на маю скаргу адказ ад 27 жніўня 2012 году № 01-10/М-249, у якім патлумачыла, што з боку АВК № 21 у дачыненьні да мяне не было парушана дзеючае беларускае заканадаўства і ня ўшчэмленыя ёю мае грамадзянскія і палітычныя правы.

31 жніўня 2012 году для абароны сваіх правоў я зьвярнуўся ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь са скаргай на адказ старшыні ЦВК РБ Л. Ярмошынай.

Аднак у адказе ад 6 верасьня 2012 г Намесьнік старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь А. А. Забара адмовіў прыняць маю скаргу для судовага разбору.

Такім чынам, лічу, што ўсе магчымыя і даступныя спосабы абароны сваіх правоў унутры Рэспублікі Беларусь мною вычарпаныя».

**04.01.2013 Антаніна Піванос**, аштрафаваная ў 2008 годзе за спробу ўручэньня падарунку вядомаму **віцебскаму апазыцыянэру Барысу Хамайду**, нарэшце дамаглася справядлівасьці: Камітэт ААН па правох чалавека прыняў рашэньне на яе карысьць. Цяпер, згодна з рашэньнем камітэту, беларускія ўлады абавязаныя вярнуць актывістцы канфіскаваную ў яе маёмасьць, пакрыць панесеныя ёй выдаткі і выплаціць кампэнсацыю.



Павал Левінаў

Маёмасьць, згаданая ў рашэньні камітэту, – гэта габэлен, на якім Антаніна Піванос уласнаручна вышыла словы малітвы «Ойча наш». Гэты габэлен яна хацела падараваць Барысу Хамайду на 90-я ўгодкі абвяшчэньня БНР. Але ледзь падышла яна да «Сіняга дому», дзе спадар Хамайда звычайна распаўсюджвае недзяржаўную прэсу, і разгарнула габэлен, як была схопленая міліцыянтамі. Габэлен адабралі, а саму актывістку затрымалі, на яе склалі пратакол ды даставілі ў суд.

Судовы разбор адбыўся ў дзень затрыманьня, 25 сакавіка 2008 году. Дарма Антаніна Піванос спрабавала давесьці судзьдзю, што ўручэньне падарунку – гэта ніякім чынам ня масавае мерапрыемства. Слухаць яе ніхто не хацеў. Расправа была хуткай: Антаніна Піванос нібыта за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце была пакараная штрафам у памеры дзьвюх базавых велічынь.

Далейшыя спробы абараніць свае правы ў Віцебскім абласным і Вярхоўным судох плёну ня далі. І тады Антаніна Піванос вырашыла зьвярнуцца па абарону ў Камітэт па правох чалавека. Каб дасьледаваць усе акалічнасьці справы і прызнаць, што беларускія ўлады сапраўды парушылі правы актывісткі, камітэту спатрэбілася чатыры з паловай гады.

Згодна з афіцыйным рашэньнем камітэту, улады парушылі артыкул 19 міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох. Частка 2 названага артыкулу надае права жыхарам дзяржаў – удзельніц Пакту, адной зь якіх ёсьць Беларусь, вольна выказваць свае думкі і распаўсюджваць рознага кшталту ідэі. Менавіта гэтага права – якое можа быць абмежаванае толькі ў пэўных выпадках: дзеля абароны правоў і рэпутацыі іншых асоб альбо аховы нацыянальнай бясьпекі, грамадзкага ладу, здароўя ці маралі насельніцтва – улады незаконна пазбавілі віцебскую актывістку.

Антаніна Піванос – ня першая жыхарка Віцебску, якая здолела адстаяць свае правы праз зварот у Камітэт па правох чалавека. Паводле сьцьверджаньняў праваабаронцаў, апошнім часам жыхары Віцебшчыны, не знаходзячы праўды ў беларускіх судох, усё часьцей зьвяртаюцца па дапамогу ў згаданы аўтарытэтны ворган ААН.

**21.01.2013 Праваабаронца Павал Левінаў** зьвяртаўся ў Камітэт па правох чалавека пасьля неаднаразовых забаронаў з боку Віцебскага гарвыканкаму ладзіць яму пікеты. Перад тым ён спрабаваў абскардзіць гэтыя забароны ў беларускіх судох, але марна. Праваабаронцам было накіравана ў КПЧ дзевяць паведамленьняў, адпаведна колькасьці забароненых пікетаў. З прычыны істотнага фактычнага і юрыдычнага падабенства ўсіх гэтых паведамленьняў, камітэт пастанавіў аб'яднаць іх. Вэрдыкт КПЧ ААН, прыняты адносна зваротаў Паўла Левінава: пазбавіўшы аўтара зваротаў права вольна распаўсюджваць інфармацыю і ідэі, Беларусь пару-


Таццяна Севярынец

шыла частку 2 артыкулу 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох.

«Дзяржава-удзельнік абавязаная забясьпечыць аўтара эфэктыўным сродкам прававой абароны, які павінен уключаць у сябе кампэнсацыю, а таксама пакрыцьцё юрыдычных выдаткаў, сплачаных аўтарам. Камітэт прапануе дзяржаве-удзельніку перагледзець адпаведнае заканадаўства аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў у мэтах прывядзеньня яго ў адпаведнасьць з патрабаваньнямі артыкулу 19 Пакту. Дзяржава-удзельнік мусіць таксама забясьпечыць, каб гэткія парушэньні не паўтараліся ў будучыні», – абвяшчаецца ў рашэньні КПЧ ААН па зваротах Паўла Левінава.

Камітэт прасіў беларускія ўлады цягам 180-ці дзён даць інфармацыю пра зробленыя захады па ажыцьцяўленьні сфармуляванай камітэтам пазыцыі, а таксама апублікаваць гэтую пазыцыю і забясьпечыць яе распаўсюд на тэрыторыі краіны на расейскай і беларускай мовах.

180 дзён, адведзеных камітэтам на выкананьне яго рашэньня, мінула. Нічога з таго, што належала, беларускія ўлады не зрабілі. Ніякай кампэнсацыі Павал Левінаў не атрымаў, заканадаўства аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў не было зьмененая.

Больш таго, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь паведаміла віцебскаму праваабаронцу, што яно адмаўляецца прызнаваць рашэньні Камітэту па правох чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Павал Левінаў зьвяртаўся ў МЗС з просьбай інфармаваць яго пра тэрміны, у якія будзе выкананае рашэньне камітэту наконт яго зваротаў.

**29.01.2013** Маці расстралянага **Ўладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва** атрымала з упраўленьня Вярхоўнага Камісара паведамленьне пра тое, што яны чакаюць да 3 ліпеня бягучага году ад беларускага ўраду інфармацыі аб прынятых мерах па выкананьні рашэньня Камітэту па правох чалавека ААН па справе яе сына. Беларусь, паводле рашэньня камітэту, павінна прызнаць, што ў адносінах да Ўладзіслава Кавалёва былі парушаныя права на жыцьцё і абарону, прэзумпцыя невінаватасьці і справядлівага судовага разьбіральніцтва, а таксама права перагляду судовага рашэньня.

**02.02.2013** Камітэт па правох чалавека ААН зарэгістраваў скаргу **віцебскай кардынатаркі аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Таццяны Севярынец**. Нагодай для звароту ў КПЧ ААН стала рашэньне суду Кастрычніцкага раёну Віцебску паўтарагадовай даўнасьці, згодна зь якім актывістка нібыта парушыла закон аб масавых мерапрыемствах, за што была пака-

раная штрафам у памеры 20 базавых велічынь.

Лета 2011 году запомнілася шмат каму зь беларусаў акцыямі «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі», хваля якіх пракацілася тады па гарадох краіны. 3 ліпеня, у афіцыйны «Дзень Незалежнасьці», адна з такіх акцыяў маўклівага пратэсту адбылася і ў Віцебску. Больш за сотню жыхароў гораду прайшлі па цэнтральных вуліцах, пляскаючы ў ладкі. Сярод іх была і Тацьцяна Севярынец. Потым была супольная малітва за Беларусь на Ўсьпенскай горцы. А праз тыдзень адбыўся суд: судзьдзя Яўген Буруноў прызнаў Тацьцяну Севярынец арганізатарам несанкцыянаванага вулічнага шэсьця і прыцягнуў яе да адміністрацыйнай адказнасьці.

На думку спадарыні Тацьцяны, рашэньне судзьдзі Бурунова зьяўляецца беспадстаўным. Бо ніякага арганізаванага вулічнага шэсьця, на якое трэба пытаць дазволу ва ўладаў, у той дзень не было. Ніхто з тых, хто ішоў на малітву, не выходзіў на праезную частку, не трымаў у руках сьцягоў, плякатаў або іншых агітацыйных матэрыялаў. Ісьці ж па ходніках, пляскаць у ладкі і маліцца законам не забаронена.

Тацьцяна Севярынец абскардзіла рашэньне судзьдзі Бурунова, але ні віцебскі абласны, ні Вярхоўны суды не прыслухаліся да аргумэнтаў актывісткі. Цяпер вырашаць, ці ёсьць парушэньнем правоў, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох, прыцягненьне яе да адказнасьці за рух групы грамадзян да месца малітвы, за саму малітву і за аплядысмэнты будзе Камітэт па правох чалавека ААН.

**03.03.2013** Камітэт па правох чалавека ААН адмовіў **сябру КХП-БНФ Сяргею Каваленку** ў прызнаньні факту парушэньня яго правоў, прадугледжаных артыкуламі 2, 14, 19, 26 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох. Сяргей Каваленка зьвярнуўся ў КПЧ ААН пасьля таго, як Кастрычніцкі райсуд Віцебску за вывешваньне 7 студзеня 2010 году сьцягу на ёлцы ў цэнтры гораду прызнаў яго вінаватым у зьдзяйсьненьні «дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак», прадугледжаных артыкуламі 339 і 363 Крымінальнага кодэксу.

Артыкул 14 пакту, у парушэньні якога абвінавачваў улады Беларусі Сяргей Каваленка, у прыватнасьці, абвяшчае: «Усе людзі роўныя перад судамі і трыбуналамі. Пры разглядзе любога крымінальнага абвінавачаньня супраць асобы або вызначэньні яе правоў ці абавязкаў кожны чалавек мае права на справядлівы і публічны разгляд справы кампэтэнтным, незалежным і бесстаронні́м судом… Пры прад'яўленьні крымінальнага абвінавачаньня кожны мае права на… выклік і допыт яго сьведкаў ад свайго імя на тых самых умовах, на якіх сьведкі выступаюць супраць яго».

Сяргей Каваленка заяўляў, што, адмовіўшы яму ў выкліку ў суд сьведкаў яго абароны, дзяржава парушыла яго правы, прадугледжаныя названым артыкулам. Аднак камітэт ААН прыйшоў да высновы, што «пададзеныя яму матэрыялы, у тым ліку запісы слуханьняў у судзе, не даюць падставаў меркаваць, што мела месца парушэньне бесстароннасьці суду ці прынцыпу роўнасьці спаборных магчымасьцяў, або справядлівасьці суду ў той ці іншай форме».

Што тычыцца артыкулаў 2, 19, 26, у парушэньні якіх Сяргей Каваленка таксама

абвінавачваў беларускія ўлады, дык, на думку сябраў КПЧ ААН, інфармацыя, якую паведаміў актывіст, не зьяўляецца абгрунтаваньнем яго сьцьверджаньня аб парушэньні ягоных правоў. Так, напрыклад, камітэт не падвергнуў сумневу тое, што вывешваючы сьцяг на ёлку, Сяргей Каваленка такім чынам публічна выказваў свае палітычныя погляды, але адзначыў, што, згодна з нормамі пакту, свабода выказваць свае думкі можа мець абмежаваньні, неабходныя для забесьпячэньня грамадзкага парадку.

Паколькі Сяргей Каваленка не растлумачыў у дастатковай меры сваё сьцьверджаньне для мэтаў прымальнасьці, камітэт прыняў рашэньне прызнаць ягоны зварот у КПЧ ААН «непрымальным у адпаведнасьці з артыкулам 2 Факультатыўнага пратаколу».

**30.03.2013** Камітэтам па правох чалавека ААН за № 2235/2013 і № 2236/2013 зарэгістраваныя два новыя звароты **праваабаронцы Паўла Левінава**. У гэтых зваротах Павал Левінаў просіць камітэт прызнаць Рэспубліку Беларусь парушальнікам шэрагу артыкулаў Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох.

Падзеі, якія спрычыніліся да падачы чарговых скаргаў у КПЧ, адбыліся летам 2012 году. 3 чэрвеня Павал Левінаў даслаў заявы на адрас кіраўнікоў адміністрацыяў Першамайскага, Кастрычніцкага і Чыгуначнага раёнаў Віцебску аб правядзеньні 26 чэрвеня ў кожным з раёнаў гораду пікетаў, прымеркаваных да міжнароднага дня ў падтрымку ахвяр катаваньняў. Нягледзячы на тое, што ў пікетах мусіў узяць удзел толькі адзін чалавек, улады пікеты забаранілі.

1 жніўня праваабаронца зрабіў яшчэ адну спробу скарыстацца са свайго права, гарантаванага Канстытуцыяй, на свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня. Была пададзеная заяўка ў адміністрацыю Першамайскага раёну на правядзеньне пікету 20 жніўня з мэтай інфармаваньня выбаршчыкаў аб фармаваньні ўчастковай выбарчай камісіі. Гэты пікет быў таксама забаронены.

На думку Паўла Левінава, улады, пазбавіўшы яго магчымасьці правесьці згаданыя акцыі, парушылі ня толькі Канстытуцыю, але і нормы, выкладзеныя ў Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правох, у прыватнасьці частку 2 артыкулу 19 і артыкул 21 – гэтыя артыкулы гарантуюць права на выказваньне сваіх думак і распаўсюд інфармацыі і права на мірныя сходы.

Праваабаронца спрабаваў абскардзіць забарону на правядзеньне пікетаў у судох, але безвынікова. Такім чынам, на думку Паўла Левінава, быў парушаны таксама артыкул 14 пакту, які абвяшчае, што «кожны чалавек мае права на справядлівы і публічны разгляд справы кампэтэнтным, незалежным і бесстароньнім судом, створаным паводле закону». «У гэтым выпадку суды не былі кампэтэнтнымі, незалежнымі і бесстароньнімі, бо яны зусім відавочна прымалі рашэньні насуперак міжнародным забавязаньням Рэспублікі Беларусь, а таксама знаходзіліся пад уплывам выканаўчай улады», – мяркуе віцебскі праваабаронца.

**06.05.2013** Камітэтам па правох чалавека ААН за № 2239/2013 зарэгістраваны трэці з пачатку году зварот **Паўла Левінава**. У сваім звароце Павал Левінаў


Валер Шаўчэнка

просіць камітэт прызнаць Рэспубліку Беларусь парушальнікам правоў, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох.

Нагодай для падачы чарговай скаргі ў КПЧ сталі леташнія падзеі. 16 ліпеня 2012 году Павал Левінаў накіраваў заяву на імя кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску аб правядзеньні 4 жніўня пікетаваньня з мэтай інфармаваньня грамадзян аб лёсе палітычнага зьняволенага – кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага. 27 ліпеня 2012 г. намесьнік кіраўніка раённай адміністрацыі Аляксандар Красакоў паведаміў праваабаронцу, што правядзеньне пікету забараняе. Абскарджаньне забароны на правядзеньне пікету ў судох плёну не дало.

**23.05.2013** Камітэт па правох чалавека ААН прыняў яшчэ адно рашэньне, у якім прызнаў Рэспубліку Беларусь парушальніцай грамадзянскіх і палітычных правоў жыхароў краіны. Згодна з чарговым рашэньнем камітэту, у 2007 годзе наваполацкі суд несправядліва пакараў мясцовых актывістаў **Валера Шаўчэнку** (35 базавых велічынь) і **Антона Ясіновіча** (25 базавых велічынь) за нібыта парушэньне закнадаўства аб адкліканьні дэпутатаў (артыкул 9.10 КаАП).

У 2007 годзе яны ладзілі шэраг пікетаў, дазволеных уладамі, выказваючы пратэст супраць адмены льготаў і інфармуючы грамадзян аб наступствах прыняцьця адпаведнага закону. Падчас акцыі пікетоўцы прасілі жыхароў гораду даць ацэнку дзеяньням дэпутатаў парлямэнту ад Наваполацку, што прагаласавалі за закон. Жыхары ахвотна падпісваліся пад зваротам: «Мы пратэстуем супраць адмены льготаў і выступаем за адкліканьне дэпутатаў парлямэнту ад Наваполацку, якія прагаласавалі за антынародны закон». Было сабрана 3 тысячы подпісаў, якія актывісты накіравалі ў адміністрацыю прэзыдэнта і ў мясцовыяворганы ўлады.

Улады ніяк не адрэагавалі на калектыўны зварот грамадзян. Затое на актывістаў, якія зьбіралі подпісы, завялі адміністрацыйную справу: яны нібыта ня выканалі працэдуры, неабходныя для адкліканьня дэпутатаў. Наваполацкі гарадзкі суд прызнаў іх вінаватымі, Віцебскі абласны і Вярхоўны суд, у якія накіроўваліся скаргі на рашэньне суду першай інстанцыі, пакінулі гэтае рашэньне ў сіле.

Цяпер канчатковае рашэньне прыняў Камітэт па правох чалавека. На думку экспэртаў камітэту, беларускія суды пакаралі Шаўчэнку і Ясіновіча ў парушэньне часткі 2 артыкулу 19 міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох («Кожны чалавек мае права на свабоду выказваньня; гэтае права ўключае сва-



Антон Ясіновіч

боду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага кшталту інфармацыю ды ідэі, не зважаючы на дзяржаўныя межы, як вусна, гэтак і на пісьме ці ў друку…»).

